Газета творчай інтэлігенцыі Беларусі

Літаратура і мастацтва

ISSN 0024-4686

№ 39 (4890) 30 верасня 2016 г.



# МУЗЕІ Ў НОВЫМ АБЛІЧЧЫ

## *Больш за сотню экспазіцый — на адной пляцоўцы ў Магілёве*



Фота Кастуся Дробава.

*Фрагмент экспазіцыі помнікаў этнаграфіі і народнага мастацтва Чарнобыльскай зоны ў Музеі старажытнабеларускай культуры.*



*«Бясплатная серада» ў Нацыянальным мастацкім музеі Рэспублікі Беларусь.*

**Музей — месца, якое ўступае ў спрэчку з часам, адкрываючы партал у мінулае, важная з'ява культуры, што дапамагае выхаваць павагу да сваёй спадчыны, гісторыі, падняць інтэлектуальны ўзровень. Разам з тым музей выступае люстэркам сучаснасці, дае шанец даведацца пра актуальныя мастацкія, літаратурныя дасягненні, знаходкі ў этнаграфічнай і археалагічнай галінах. У Беларусі дзяржаўных музеяў зараз 152, акрамя таго — некалькі дзясяткаў грамадскіх і вучэбных. Больш за 4 тысячы музейных работнікаў. І гэта, хочацца верыць, не мяжа, бо гаворка ідзе, напрыклад, пра стварэнне музейнага квартала ў Мінску, праўда, гадоў праз дзесяць. Але ці трэба павялічваць колькасць, калі лепш, напэўна, звярнуць увагу на якасць таго, што ёсць? Гэтыя і іншыя пытанні мусяць абмяркоўвацца на экспертным узроўні.**

**Ужо сёння ў Магілёве адкрываецца III Нацыянальны форум «Музеі Беларусі», які пройдзе па 2 кастрычніка ў спартыўным комплексе «Алімпіец». Гэтае мерапрыемства заклікана стаць адным з элементаў падтрымкі музейшчыкаў і іх працы ў Беларусі, прастымуляваць крэатыўныя ініцыятывы, прыцягнуць увагу людзей да музейнай дзейнасці, пагаварыць пра перспектывы. Заяўлена каля 120 удзельнікаў з усіх рэгіёнаў краіны, і кожны прадставіць сваю праграму. Установы розныя, не толькі музейныя. Звярнулі ўвагу на форум індывідуальныя прадпрымальнікі, вучоныя, члены грамадскіх аб'яднанняў, фондаў, прадпрыемстваў і, канечне, звычайныя грамадзяне. Калі яшчэ давядзецца ўбачыць амаль усе музеі краіны ў адным месцы? Праграма форуму абяцае быць насычанай.**

**Тэма форуму вельмі сучасная: музеі ў новай крэатыўнай эканоміцы. Мерапрыемства мае на мэце конкурсы, музейна-педагагічныя і навукова-практычныя семінары, круглыя сталы, майстар-класы, прэзентацыі праектаў, у тым ліку музейных выданняў і рэпрадукцый. Як дадатак — горад майстроў, канцэрты і экскурсіі. Па выніках конкурсаў будуць адзначаны лепшыя музеі краіны ў розных намінацыях. Музейных работнікаў, што вызначыліся асабліва, узнагародзяць прэміямі. Магчыма, у ліку гасцей форуму будуць эксперты з Расіі, Літвы, Польшчы, а сустаршынёй журы разам з намеснікам міністра культуры Васілём Чэрнікам — генеральны дырэктар Дзяржаўнай Траццякоўскай галерэі Зельфіра Трагулава.**

**Сёння музей — гэта ўжо неабавязкова выбудаваныя «пад лінейку» калідоры з экспанатамі ўздоўж сцен і пад шклом. Музеі выходзяць на вуліцу з прадстаўленнямі і музыкай, становяцца жывымі, блізкімі да людзей.**

Марыя ВОЙЦІК

## Пункціпрам

✔ Прэзідэнт Беларусі Аляксандр Лукашэнка павіншаваў народную артыстку РСФСР Алу Дзямідаву з юбілеем. «Вы ўнеслі важкі ўклад у развіццё савецкага і расійскага тэатра і кіно», — гаворыцца ў віншаванні. Кіраўнік дзяржавы ўпэўнены, што шматгранная творчая дзейнасць Алы Дзямідавай і ў далейшым будзе дарыць прыхільнікам радасць і натхненне, служыць умацаванню культурных сувязей Беларусі і Расіі.

✔ Беларускія выдаўцы ўзялі ўдзел у міжнароднай выстаўцы-кірмашы друкаванай прадукцыі «Кніга — шлях да супрацоўніцтва і развіцця» ў Ашхабадзе, паведамілі ў Міністэрстве інфармацыі Беларусі. Выставачны стэнд атрымаў высокую ацэнку з боку афіцыйных дэлегацый. Па выніках кніжнага конкурсу, які праводзіўся ў межах выстаўкі, шэраг беларускіх выданняў былі ўганараваныя дыпломамі.

✔ Гродна магло б прэтэндаваць на званне беларускіх культурных варот Шаўковага шляху. Такую ініцыятыву агучыў міністр культуры Беларусі Барыс Святлоў падчас першага Міжнароднага культурнага ЭКСПА Шаўковага шляху ў горадзе Дуньхуан (КНР). Беларуская дэлегацыя сустрэлася з міністрам культуры Кітая Ло Шуганам. Дасягнута дамоўленасць аб правядзенні ў 2017 годзе дзён культуры Беларусі ў КНР. Культурныя ведамствы возьмуць удзел у мерапрыемствах, прысвечаных 25-годдзю ўстанаўлення дыпламатычных адносін паміж Беларуссю і Кітаем.

✔ Народнаму артысту Беларусі, мастацкаму кіраўніку Нацыянальнага акадэмічнага хору імя Г. І. Цітовіча Міхаілу Дрынеўскаму прысвоена званне «Ганаровы паляшук». Ганаровы дыплом і сімвалічная статуэтка былі ўручаныя падчас цырымоніі адкрыцця міжнароднага фестывалю этнакультурных традыцый «Кліч Палесся». Міністр культуры Барыс Святлоў, які ўручаў узнагароды, адзначыў, што гэтае высокае званне прысвойваецца тым, хто не проста з'яўляецца ўраджэнцам Палесся, а спаўна дзеліцца талентам.

✔ Канцэрт Беларускага дзяржаўнага заслужанага харэаграфічнага ансамбля «Харошкі» адбыўся ў Маскве ў Дзелавым і культурным комплексе Пасольства Беларусі ў Расіі. Імпрэза была прысвечаная юбілею заснавальніка і нязменнага кіраўніка ансамбля Валянціны Гаявой. Цяпер ансамбль рыхтуецца да вялікага еўрапейскага турнэ. Спецыяльна да гэтай паездкі калектыў рыхтуе новую праграму пад рабочай назвай «Кліч продкаў».

✔ З 27 верасня па 1 кастрычніка ў мінскім кінатэатры «Перамога» ў межах фестывалю японскай культуры «Японская восень у Беларусі 2016» ладзіцца тыдзень сучаснага японскага кіно. Арганізатары — Пасольства Японіі ў Беларусі і Японскі фонд. Увазе гледачоў прапанавана пяць фільмаў, у тым ліку адзін мультыплікацыйны. Фільмы дэманструюцца на мове арыгінала з рускімі субцітрамі. Наведвальнікам кінатэатра таксама прапануецца выстаўка работ АРТ-студыі Цэнтра японскай культуры «Хагакурэ» па каліграфіі, японскім жывапісе тушшу суміэ і паштовак у тэхніцы этагамі.

✔ Магілёў першым прыняў эстрадную экспедыцыю «Беларусь — краіна талентаў» Маладзёжнага тэатра эстрады. У Год культуры тэатр прапануе шмат цікавых праектаў. Экспедыцыя «Беларусь — краіна талентаў» скіраваная на выяўленне і развіццё творчых здольнасцей моладзі.

# Новы сезон на «Беларусі»,

## або З паўналеццем, «Сталіца»!

У Доме дружбы адбылася прэзентацыя новага вяшчальнага сезона радыёстанцыі «Беларусь». Юбілейнага, пяцьдзясят пятага!

Радыё «Беларусь», якое ўваходзіць у склад Белтэлерадыёкампаніі, распавядае свету пра нашу краіну на васьмі мовах. Сігнал з Мінска прымаюць у краінах Цэнтральнай і Заходняй Еўропы. Праекты Міжнароднага радыё «Беларусь» трансліруюцца і анлайн — на афіцыйным сайце радыё, праз сацыяльныя сеткі *Facebook* і *WeChat*, на інтэрактыўных платформах і на канале *YouTube*. Так радыёстанцыя падтрымлівае зваротную сувязь са слухачамі. Гэта было б немагчыма без шматлікіх партнёраў, сярод якіх — Пасольства Кітая ў Беларусі, Міністэрства замежных спраў нашай краіны, Беларускае таварыства дружбы і культурнай сувязі з замежнымі краінамі.

— Мы імкнёмся даступна і ярка распавесці пра поспехі нашай краіны ў самых розных галінах, пра простых людзей, — зазначыў галоўны дырэктар Міжнароднага радыё «Беларусь» Навум Гальпяровіч.

Адзін з новых праектаў — праграма «Контуры супрацоўніцтва». Беларусь — актыўны ўдзельнік інтэграцыі ў межах Еўразійскага эканамічнага саюза, СНД, Шанхайскай арганізацыі супрацоўніцтва, Эканамічнага пояса «Шаўковы шлях», важная платформа еўрапейскага і еўразійскага партнёрства, пра развіццё якога і распавядае праект. Перадача «Наш сябар — Беларусь» расказвае кітайскаму слухачу пра розныя сферы жыцця нашай краіны: пра палітыку, эканоміку, спорт, культуру. «Беларусь між народамі» — інфармацыйна-аналітычная праграма пра знешнепалітычныя прыярытэты краіны, пра міжнароднае супрацоўніцтва, пра важныя падзеі з удзелам афіцыйных прадстаўнікоў Беларусі.

Намеснік галоўнага дырэктара радыё «Беларусь» Вячаслаў Лакцюшын нагадаў, што радыёканал пры падтрымцы Пасольства КНР у Беларусі праводзіць конкурс аўтарскіх эсэ «Беларуска-кітайскае супрацоўніцтва. Шаўковы шлях і Індустрыяльны парк "Вялікі камень" маімі вачыма».

Сваю прысутнасць у медыяпрасторы радыё «Беларусь» пашырае дзякуючы такім партнёрам, як Нацыянальная бібліятэка Беларусі і Выдавецкі дом «Звязда», на інтэрнэт-партале якога цяпер можна слухаць гукавыя файлы радыёстанцыі.

Як паведамілі ў прэс-службе Белтэлерадыёкампаніі, у новым сезоне працягнуцца трансляцыі праграм радыё «Беларусь» на «Радыё-700» (ФРГ) і радыё «Артадоксія» (Польшча). А з 1 кастрычніка на сайце радыёстанцыі стартуе конкурс «*#clickBELARUS*», з дапамогай якога замежныя слухачы змогуць праверыць і пашырыць веды пра нашу краіну. Для гэтай жа аўдыторыі запланавана віктарына «Да 500-годдзя беларускага кнігадрукавання».

***

Яшчэ аднаму структурнаму падраздзяленню Белтэлерадыёкампаніі — радыёстанцыі «Сталіца» — споўнілася 18 год. Для чалавека гэта ўзрост надзей, памкненняў і спадзяванняў. А для радыёстанцыі?..

А для радыёстанцыі — новая вышыня. Дакладней, новая рок-вышыня, калі ўлічыць рэзананс, выкліканы святочным канцэртам «Крок да рока!» у клубе «*TNT Rock Club*», на якім можна было пачуць айчынныя гурты «*RECHA*», «*ЯNKEY*», «*ВСЁ CRAZY*» і «*НАГУАЛЬ*». Канцэрту папярэднічаў брыфінг, падчас якога на пытанні журналістаў адказваў дырэктар радыё «Сталіца» Алег Міхалевіч. За апошнія гады аўдыторыя слухачоў радыё «Сталіца» пашыралася, а гэта патрабуе ўдасканалення радыёпраграм, каб прапаноўваць слухачам найлепшае.

«Крок да рока!» — назва не толькі канцэрта, але і радыёперадачы, якую рыхтуе да выхаду ў эфір Марына Савіцкая. Гэта гадзінны жывы канцэрт, падчас якога ўдзельнік — той ці іншы рок-гурт — прэзентуе свой альбом. Гасцямі студыі ўжо былі ўсе ўдзельнікі святочнай імпрэзы, а таксама расійская і ўкраінская рок-гурты. Самым жа «экзатычным» з гасцей быў паўднёваафрыканскі гурт.

**Яна ЯВІЧ**

# Братэрскі падарунак таджыкскай кніжніцы

У СПБ і Выдавецкага дома «Звязда» добрае сяброўства з Таджыкістанам літаратурным. Дзякуючы руплівасці найперш таджыкскага драматурга, празаіка, публіцыста Ато Хамдама (ён з'яўляецца і членам СП Беларусі) рэалізаваны многія праекты літаратурнага пабрацімства. І на круглых сталах з удзелам пісьменнікаў з розных краін ды сімпозіуме літаратараў «Пісьменнік і час», якія ладзіцца ў Беларусі ўжо не адзін год, былі многія паэты і празаікі з Таджыкістана: Ато Хамдам, Бахром Рахматаў, Таір Раджабаў і іншыя.

Паэт і публіцыст з Таджыкістана Таір Раджабаў і сёлета быў госцем міжнароднага круглага стала «Сугучча: слова Скарыны ў сучасным свеце», які праходзіў у Мінску ў Нацыянальнай бібліятэцы Беларусі. А вось днямі ён уручыў сваёй нацыянальнай кніжнай скарбніцы падарунак з Беларусі — кнігу «Братэрства» Алеся Карлюкевіча. У выданні ёсць старонкі, якія прысвечаны Таджыкістану літаратурнаму, повязям Беларусі і Таджыкістана. Прымаючы падарунак, дырэктар таджыкскай кніжніцы доктар філалагічных навук Шамсіддзін Салех зазначыў:

— І на сучасным этапе развіцця літаратурнага працэсу ў нашай краіны склаліся добрыя адносіны з Беларуссю. Ведаю, што ў Мінску ў апошнія гады выйшлі кнігі таджыкскіх аўтараў «Таджыкістан: імгненні вечнасці», «Пад зоркай Рудакі», «Подзвіг Эмамалі Рахмона» Ато Хамдама і Леаніда Чыгрына. Сярод аўтараў беларускай літаратурна-мастацкай перыёдыкі — Ато Хамдам, Нізом Касім, Фарзона, Саідалі Мамур, тройчы друкаваўся з апавесцямі ў часопісе «Нёман» рускі празаік і перакладчык Леанід Чыгрын, які амаль усё сваё жыццё жыве і працуе ў Душанбэ, Таджыкістане. Ведаю, што ў кнізе «Францыск Скарына на мовах народаў свету» таджыкскі пераклад верша беларускага першадрукара належыць пяру народнага паэта Таджыкістана Саідалі Мамура.

Дарэчы, сёлета пабачылі свет спецыяльныя выпускі газеты «Літаратура і мастацтва», часопіса «Нёман», прысвечаныя таджыкскай літаратуры. А ў Таджыкістане свае нумары беларускай літаратуры прысвяцілі газета «Адабіят ва саньят» («Літаратура і мастацтва»), часопіс «Памир».

**Сяргей ШЫЧКО**

## У пісьменніцкім асяродку

# Адрас: завулак Вішнёвы…



Фота Міхаіла Кржаноўскага.

*Слова мае Дзмітрый Дземідовіч.*

Кніга дзіцячай пісьменніцы Тамары Бунта «Дзяўчынка з Вішнёвага завулка», прэзентаваная аўтаркай у Беларускім дзяржаўным літаратурным музеі Янкі Купалы, аўтабіяграфічная: тут сабрана 14 яркіх гісторый дзяцінства — апавяданні для дзяцей малодшага і сярэдняга школьнага ўзросту, яскрава паказаны пачуцці, мары, думкі галоўнай гераіні, дзяцінства якой прыйшлося на 1960 — 1970-я гады.

— Кніга гэтая не мемуарная: тут ёсць і мастацкая апрацоўка, прыдуманыя сюжэты, ды і заканчваюцца некаторыя апавяданні не так, як было ў маім жыцці, — распавяла Тамара Бунта. Дарэчы, асобныя апавяданні з кнігі ў сцэнічным увасабленні падчас прэзентацыі публіцы прадставілі актрысы тэатра і кіно Ірына Нарбекава і Анастасія Баброва.

Але не ўсё ў кнізе залежыць ад аўтара: яна ж ствараецца ў суаўтарстве з мастаком! На вокладцы кнігі Тамары Бунта пазначана імя Аксаны Аракчэевай, якая папрацавала над мастацкім афармленнем выдання. Мастачка прызналася: паколькі кніга Тамары Бунта аўтабіяграфічная, было вельмі важна зрабіць яе герояў такімі, якімі яны былі ў жыцці. Адметна, што ў працы над ілюстрацыямі да кнігі мастачка карысталася фотаздымкамі з асабістага архіва аўтара.

Сярод шматлікіх гасцей прэзентацыі слова мелі і калегі Тамары Пятроўны па пяры. Галоўны рэдактар часопісаў «Вясёлка» і «Буся» Уладзімір Ліпскі звярнуў увагу на тое, што ў апавяданнях Тамары Бунта з кнігі «Дзяўчынка з Вішнёвага завулка» занатаваны не толькі пэўны адрэзак яе жыцця, але і пэўны перыяд гісторыі нашай краіны.

Паэтычны клуб «Парнас» створаны колькі гадоў таму Мінскім гарадскім аддзяленнем Саюза пісьменнікаў Беларусі пры сталічнай публічнай бібліятэцы № 5 г. Мінска, распачаў новы сезон знаёмствам з новымі літаратурнымі імёнамі. Міхась Пазнякоў пазнаёміў прысутных з юнай паэтэсай, пераможцай літаратурнага конкурсу сярод студэнтаў Белдзяржуніверсітэта «Славянскі калейдаскоп-2015» Кацярынай Стройлавай і членам Саюза пісьменнікаў Беларусі Таццянай Жылінскай. Кацярына Стройлава прачытала вершы са сваёй першай кніжкі «Цярністы шлях», што пабачыла свет у кніжнай серыі МГА СПБ «Мінскія маладыя галасы». Зборнік склалі творы духоўнай тэматыкі. Таццяна Жылінская, выкладчык Беларускага дзяржаўнага педагагічнага ўніверсітэта імя Максіма Танка, не толькі дэкламавала свае вершы, але і спявала пад гітару. Наступнае пасяджэнне паэтычнага клуба «Парнас» адбудзецца ў кастрычніку.

Адпачынак і вучобу сталічныя школьнікі спалучаюць у адукацыйна-аздараўленчым цэнтры «Лідар», што ў Ждановічах. Менавіта тут адбылася творчая сустрэча з паэтамі Дзмітрыем Дземідовічам ды Інай Фраловай. Дзмітрый Дземідовіч прапанаваў не толькі свае вершы, але і творы Янкі Купалы, Міколы Маляўкі, Генадзя Пашкова, Казіміра Камейшы... Вялікую цікавасць выклікаў у слухачоў аповед пісьменніка пра коласаўскія мясціны.

Іна Фралова прэзентавала новую кнігу вершаў «Белы бераг», што выйшла ў серыі «Бібліятэка Мінскага гарадскога аддзялення СПБ». Паэтэса пазнаёміла слухачоў з творчасцю маладых паэтаў, распавяла аб працы сталічнага аддзялення Саюза пісьменнікаў Беларусі па падтрымцы новых талентаў.

**Дзіна ДОЛЬСКАЯ**

# Музыка ў выставачных залах


Аляксей Фралоў і аркестр «Capella Academia» падчас адкрыцця цыкла канцэртаў у музеі.

У Год культуры навуковыя супрацоўнікі Нацыянальнага мастацкага музея Беларусі знаходзяць новыя формы працы з аўдыторыяй. На мінулым тыдні ў музеі быў распачаты музычна-мастацкі праект, альбо, як назвалі яго самі арганізатары, цыкл рэгулярных культурных адкрыццяў і сенсацый.

Праект прадугледжвае цікавую форму прэзентацыі мастацкага твора: глядач апынаецца не на звычайным вернісажы, а трапляе на канцэрт класічнай музыкі. Адзін з куратараў цыкла Алена Набароўская гаворыць:

*— Аб'яднанне розных відаў мастацтва ў нашым музеі практыкуюць даволі часта. І практычна заўсёды гэта атрымліваецца ўдала: жывапіс, музейныя інтэр'еры і класічная музыка разам утвараюць гарманічнае спалучэнне. У мінулым годзе мы рабілі падобны праект «Палітра любімай класікі» з аркестрам пад кіраўніцтвам Аляксандра Анісімава. Сёлета працуем з дырыжорам і фагатыстам Аляксеем Фраловым. Праект і канцэпцыя былі распрацаваны цалкам па яго ініцыятыве. Дырыжор кажа, што марыў многія гады «падгучыць» мастацкія шэдэўры. Праект прадугледжвае прэзентацыю аднаго жывапіснага твора. На адкрыцці цыкла быў прадстаўлены партрэт Міхала Казіміра Агінскага. У наступны раз плануем выстаўляць творы з калекцыі заходнееўрапейскага мастацтва. Гледачы пазнаёмяцца са шведскім, польскім жывапісам. Канцэрты, звязаныя з іншымі дзяржавамі, плануем праводзіць у супрацоўніцтве з іх пасольствамі, гэта дазволіць вывесці мерапрыемствы на больш маштабны ўзровень.*

Цыкл мастацка-музычных адкрыццяў плануецца праводзіць кожны месяц.

**Вікторыя АСКЕРА**

# З крыніцы натхнення Суціна

## Ці змогуць выстаўкай мастака наталяцца на яго радзіме?

Гэтае пытанне паўстала падчас адкрыцця выстаўкі «Вакол Суціна» ў французскім горадзе Ле Блан.

У Ле Блане Суцін пражыў некалькі гадоў і напісаў там большасць са сваіх шэдэўраў. Сёння імем вядомага мастака, ураджэнца Беларусі, названа адна з вуліц горада.

Выстаўка, прысвечаная творчасці мастака, арганізаваная мэрыяй горада і праходзіць пад патранатам Пасольства Беларусі ў Францыі, а таксама пры падтрымцы беларускага фонду «Час і спадчына» і мінскай галерэі «Кніжны салон». У экспазіцыі таксама прадстаўлены работы мастакоў беларускай школы выяўленчага мастацтва: Аксаны Аракчеевай, Ілоны Касабука, Уладзіслава Пятручыка, Дзмітрыя Сурыновіча і Валянціны Шобы (лаўрэата прэміі Тэйлара, прысуджанай мастачцы амаль год таму ў Францыі).

Пасол Беларусі ў Францыі Павел Латушка абмеркаваў з мэрам Ле Блана Анікам Ганберам магчымасць адкрыцця аналагічнай выстаўкі Хаіма Суціна ў Мінску. У нашай краіне ў цяперашні час ёсць усяго некалькі твораў мастака.

Ураджэнец Беларусі, які ў маладосці з'ехаў у Францыю, Хаім Суцін нароўні з Маркам Шагалам вядомы як адзін з самых яркіх прадстаўнікоў парыжскай школы выяўленчага мастацтва.

**Аляксандра ГАРАЧКА**

# Запрашэнне да дыялогу

## «ТЭАРТ» пашырае кола для ацэнкі беларускіх спектакляў

Праграма *Belarus Open* міжнароднага тэатральнага форуму «ТЭАРТ», які пачаўся на бягучым тыдні, прыцягнула ўвагу 26 крытыкаў і тэатразнаўцаў з-за мяжы. Гэта асобы, паважаныя не толькі для фестывальнага руху, але і наогул для развіцця тэатра, адзначыла Анжаліка Крашэўская, дырэктар Цэнтра візуальных і выканальніцкіх мастацтваў «Арт Карпарэйшн». Беларуская частка форуму старалася дзеля таго, каб упісаць айчынны тэатр у сусветны тэатральны працэс.

— Мы пашырылі кола для адзнакі нашых спектакляў па-за межамі Беларусі. Гэта зроблена дзеля таго, каб прасоўваць наш тэатр далей, — адзначыў Віктар Бабарыка, старшыня праўлення «Белгазпрамбанка». — Рэзананс заўсёды важны, бо ён паказчык таго, што справа не стаіць на месцы, ёсць рух. Нам важна кінуць каменьчык у цэнтр возера, каб кругі, што ўтвараюцца на вадзе, былі як мага больш шырокімі і дасягнулі берага.

Новаўвядзеннем пры фарміраванні праграмы сёлета стала магчымасць беларускім тэатрам самім падаваць заяўкі на ўдзел, жаданне паказаць свае лепшыя пастаноўкі. Але прадстаўнікі дырэкцыі стараліся праглядаць новыя спектаклі, якія з'яўляліся ў розных рэгіёнах краіны. Таксама сёлета ўжо на стадыі продажу квіткоў назіралася цікавасць да айчынных пастановак з боку гледачоў. І гэта адна з мэт, якую ставяць арганізатары форуму: актывізаваць публіку, уцягнуць яе ў дыялог у той час, калі нават у рэпертуарных тэатрах усё часцей з'яўляюцца антрэпрызныя акцэнты.

— Зараз ёсць такая тэндэнцыя, што менш становіцца гледача, які гатовы працаваць падчас спектакля, напружвацца, думаць, і гэта не толькі наша сітуацыя, яна назіраецца наогул у свеце, — адзначыў галоўны рэжысёр Магілёўскага абласнога драматычнага тэатра Саўлюс Варнас. — Насамрэч інстытут тэатра можа дапамагчы вырашыць важныя задачы ў грамадстве. Сам тэатр не вылечвае, але можа дапамагчы вылечыцца.

Жаданне ўглядзецца ў сябе працягнула практыка прагляду і разумення (ці неразумення) замежных спектакляў. Ужо ў папярэднія гады арганізатары імкнуліся наладзіць дыскусіі пасля прагляду, падчас якіх можна было зверыць адзнакі, была серыя адукацыйных майстар-класаў для тых, хто хоча быць у кантэксце тэатральнага працэсу. Сёлета пайшлі далей, стварыўшы цыкл лекцый. Анжаліка Крашэўская патлумачыла: «Мы таксама ў адказе за тое, каб наш глядач быў падрыхтаваны да той міжнароднай праграмы, якую прапануе "ТЭАРТ"».

**Ларыса ЦІМОШЫК**

## Дайджэст

• На пачатку кастрычніка выйдзе новая кніга аб прыгодах Віні Пуха і яго сяброў. Чатыры аўтары, зацверджаныя нашчадкамі Алана Мілна, напісалі шэраг апавяданняў, што патрапяць у агульны зборнік пад назвай «Лепшы мядзведзь ва ўсім свеце» да 90-годдзя першага выдання казкі. Для чытачоў падрыхтавалі сюрпрыз: на старонках кнігі іх чакае знаёмства з новым героем. Пісьменнік Браян Сіблі звярнуў увагу на фотаздымак Алана Мілна з сынам Крыстаферам, дзе яны разам гуляюць з плюшавым пінгвінам. Вядома, што персанажы казкі прыйшлі да нас з пакоя хлопчыка, таму забытая цацка з'явіцца ў частцы «У якой пінгвін з'яўляецца ў лесе».

• Падчас адкрыцця XIX Міжнароднай кніжнай ярмаркі ў Санта-Дамінга прайшлі акцыі пратэсту супраць прысуджэння перуанскаму пісьменніку Марыа Варгасу Льосе прэміі імя Пэдра Энрыкіса Урэны — дамініканскай узнагароды, створанай для ўхвалення працы пісьменнікаў у 2013 годзе. Справа ў тым, што нобелеўскі лаўрэат не падтрымаў новы закон аб прадастаўленні дамініканскага грамадзянства для іншых нацыянальнасцей. Такая пазіцыя пісьменніка выклікала абурэнне ў часткі мясцовай інтэлігенцыі.

• Дом галоўнага героя магічнага сусвету пісьменніцы Джаан Роўлінг можна набыць за 558 тысяч фунтаў. Невялікі катэдж на Цісавай вуліцы, дзе, згодна з фільмам, правёў маленства Гары Потэр, прадаюць у графстве Бракнел, што каля Лондана. Але фанаты «Патэрыяны» не будуць цалкам задаволеныя аўкцыёнам. Пазнаць можна толькі фасад дома: знакамітая каморка пад лесвіцай, як і астатні інтэр'ер асабняка, засталася на здымачнай пляцоўцы *Warner Brothers* і не мае дачынення да продажу.

• Серыя «Дзеячы сусветнай культуры» Пошты Расіі папоўнілася канвертам з незвычайнай маркай, прысвечанай 150-годдзю з дня нараджэння Герберта Уэлса. Пісьменнік-фантаст намаляваны на фоне ілюстрацыі да яго знакамітага рамана «Вайна светаў». Тыраж юбілейнай маркі складае адзін мільён асобнікаў. Набыць яе можна будзе ва ўсіх аддзяленнях Пошты Расіі. Маркі, пагашаныя ў дзень выпуску спецыяльным штэмпелем, атрымаюць дадатковую філатэлістычную каштоўнасць.

• Стала вядома, што першага лістапада ў свет выйдзе кніга з інтрыгуючай назвай «Забойства Стывена Кінга». Аўтар дэтэктыва — амерыканец Джэймс Патэрсан, самы высокааплатны пісьменнік па версіі *Forbes*. Сюжэт рамана пабудаваны вакол выдуманай сітуацыі, дзе звар'яцелы фанат спрабуе забіць знакамітага «Караля жахаў», а ўдалы дэтэктыў Джэмі Пітэрсан ратуе пісьменніка. Прадстаўнікі Стывена Кінга кажуць, што ён атрымаў асобнік кнігі, але адмовіўся ад каментараў.

### Мінскае гарадское аддзяленне СПБ запрашае:

**2 кастрычніка** — *на творчую імпрэзу, прысвечаную памяці празаіка Алеся Савіцкага, у Дом культуры аўтабазы (вул. Куляшова, 1а) з удзелам пісьменніка Навума Гальпяровіча. Пачатак а 12-й гадзіне.*

**3 кастрычніка** — *на свята дзіцячай кнігі з удзелам пісьменніка Міхася Пазнякова ў гімназію № 75 (вул. Свярдлова, 30). Пачатак а 12-й гадзіне.*

**4 кастрычніка** — *на прэзентацыю кнігі пісьменніка Уладзіміра Тулінава «Ўвірдзеі Гиппократа» ў дзіцячую бібліятэку № 15 (вул. Слабадская, 27). Пачатак а 14-й гадзіне.*

**4 кастрычніка** — *на свята духоўнай паэзіі і музыкі ў межах Дзён праваслаўнай культуры ў публічную бібліятэку № 14 (вул. Прытыцкага, 42). Пачатак а 14-й гадзіне.*

**6 кастрычніка** — *у Дом літаратара (вул. Фрунзэ, 5, вялікая зала) на паэтычна-музычны спектакль паводле твораў маладых паэтаў. Пачатак а 19-й гадзіне.*

**6 кастрычніка** — *на творчую сустрэчу з паэтэсай і літаратурным крытыкам, лаўрэатам Нацыянальнай літаратурнай прэміі Тацянай Мацюхінай у Сенніцкую бібліятэку Мінскага раёна. Пачатак у 14.30.*

**7 кастрычніка** — *у літаратурны клуб «Спадчына» пры гімназіі № 35 (вул. Кіжаватава, 70) на творчую сустрэчу з пісьменнікам Навумам Гальпяровічам.*

### Віцебскае абласное аддзяленне СПБ запрашае:

**4 кастрычніка** — *на сустрэчу з лаўрэатамі абласной літаратурнай прэміі імя Петруся Броўкі ў Віцебскую абласную бібліятэку імя У. І. Леніна (вул. Леніна, 8а). Пачатак а 13-й гадзіне.*

### Гродзенскае абласное аддзяленне СПБ запрашае:

**5 кастрычніка** — *у літаратурную гасцёўню «Запрашае "Бярозка"» з удзелам пісьменніцы Ліны Багданавай у сярэднюю школу № 12 (г. Гродна, вул. Паповіча, 32). Пачатак а 14-й гадзіне.*

РВУ «Выдавецкі дом "Звязда"» выказвае глыбокае спачуванне пісьменніцы, рэдактару аддзела часопіса «Нёман» Наталлі Міхайлаўне Казапалянскай з прычыны вялікага гора — смерці БАЦЬКІ.

Саюз пісьменнікаў Беларусі і Мінскае гарадское аддзяленне СПБ выказваюць шчырыя спачуванні пісьменніцы Наталлі Міхайлаўне Казапалянскай з прычыны напаткаўшага яе гора — смерці БАЦЬКІ.

## Штрыхі



# Ветрына

Шмат разоў бываў я ў гэтых мясцінах, шмат разоў, праязджаючы па шашы з Полацка на Глыбокае, здалёк бачыў знаёмую постаць правадыра сусветнага пралетарыяту, які рукой нібы запрашаў у ціхае і ўтульнае мястэчка Ветрына на беразе даволі вялікага возера. Гэты помнік унікальны тым, што стаіць проста пры шашы, на павароце, і нібыта служыць своеасаблівым указальнікам.

У сённяшнім гарпасёлку Ветрына жыве каля трох тысяч чалавек, і гэта самае вялікае паселішча на тэрыторыі Полаччыны, не лічачы, вядома, шматтысячнага сучаснага Наваполацка. Мяне заўсёды вабіла гэтае месца — не горад і не вёска, напоўненае нібыта нейкай незвычайнай таямніцай. Мне здавалася, што і людзі жывуць тут нейкія незвычайныя. Зрэшты, сапраўды, ураджэнцы гэтых мясцін нярэдка славілі родную зямлю і станавіліся адметнымі постацямі гісторыі. Узяць хаця б Браніслава Эпімах-Шыпілу. Нарадзіўшыся на ветрынскай зямлі, ён стварыў цэлы беларускі космас — фалькларыст, даследчык, мовазнаўца. Ён стаў першым дарадцам і сябрам для Янкі Купалы, стаяў ля вытокаў беларускай нацыянальнай навукі, літаратуры. У Ветрынскай школе заснаваны музей шаноўнага прафесара. Тут прайшлі чытанні, прысвечаныя слаўнаму беларусу.

Але вернемся ў гісторыю ветрынскай зямлі. Як сцвярджае электронная энцыклапедыя, упершыню Ветрына згадваецца ў сярэдзіне XVI ст. як мястэчка ў складзе Полацкага ваяводства. У выніку другога падзелу Рэчы Паспалітай (1793) Ветрына апынулася ў складзе Расійскай імперыі, дзе стала цэнтрам воласці Лепельскага павета. У пачатку XX ст. Ветрынская воласць налічвала 93 вёскі і 74 фальваркі. У гады Вялікай Айчыннай тут быў партызанскі край. У адным з атрадаў народных мсціўцаў змагаўся юны Саша Савіцкі, будучы пісьменнік Алесь Савіцкі.

Сёння Ветрына перажывае новыя часы. Тут у ліпені 2004 года асвяцілі новы касцёл. Сёння ў ранейшым цалкам, так бы мовіць, атэістычным мястэчку дзейнічаюць каталіцкая і праваслаўная парафіі. А на адной з ціхіх вуліц пасёлка патанае ў прыгожых кветках дамок мясцовага краязнаўцы, літаратара, сябра Саюза пісьменнікаў Беларусі Віктара Карасёва, які нарадзіўся ў Рыбаках — непадалёк ад Ветрына. Юнак скончыў Ветрынскую школу, вучыўся ў ваенным вучылішчы, служыў у ракетных войсках стратэгічнага прызначэння 27 гадоў. Завочна скончыў Латвійскі дзяржаўны ўніверсітэт і атрымаў спецыяльнасць «Гісторык». Вярнуўшыся пасля службы ў родныя мясціны, Віктар Раманавіч стаў нястомным прапагандыстам гісторыі Полаччыны і роднага Ветрына. Ён напісаў і выдаў шэраг кніг, у тым ліку пра полацкае літаб'яднанне «Наддзвінне», пра славутых землякоў. Як пісала газета «Звязда», «па ініцыятыве Віктара Раманавіча 23 лютага 2002 года — у Дзень абаронцаў Айчыны на фасадзе будынка Ветрынскай школы з'явілася мемарыяльная дошка памяці знакамітага земляка — юнага абаронцы Брэсцкай крэпасці Пеці Клыпы, які, аказваецца, вучыўся ў гэтай школе. У лістападзе таго ж года было абазначана месца пахавання знакамітага даследчыка Віцебшчыны Аляксандра Семянтоўскага. Яго маёнтак знаходзіўся на Полаччыне. Цяпер яго памяці можна пакланіцца ў раёне былой вёскі Ражаншчына. А яшчэ ў Ветрыне паставілі знак у памяць аб 59 грамадзянах Беларусі яўрэйскай нацыянальнасці, якіх расстралялі фашысты ў 1941-м. 9 мая 2003 года ў Фарынаве адкрыўся валун з памятнай дошкай памяці подзвігу маладых падпольшчыкаў, якія ў 1943-м за сувязь з партызанамі былі забітыя акупантамі».

У Ветрына ў далёкія сямідзесятыя ездзілі калектывам полацкай газеты на адведкі з выпадку нараджэння малой Юлі, дачкі журналісткі і выдаўца Наталлі Ванінай. Яе мама і бацька жылі тады ў Ветрыне, такім чынам, мы з Наталляй Генадзьеўнай не толькі паплечнікі па працы ў полацкай раёнцы, але і па блізкіх яе сям'і мясцінах. На жаль, яна ўжо не прачытае гэтыя радкі. Памятаю, вяртаючыся з адной агульнай паездкі па карэспандэнцкіх справах, мы спыніліся з калегам і сябрам Іванам Стадольнікам ля ветрынскага возера. Ціха плёскалі хвалі, вечаровае сонца заходзіла за гарызонт. Лёгкі ветрык гайдаў прыбярэжныя вербы. Чамусьці запомніўся мне светла і чыста той летні дзень, і свавольнік-ветрык у Ветрыне. І гэты шчымлівы ўспамін да сёння грэе мне душу і пераносіць у думках у родныя мясціны.

**Навум ГАЛЬПЯРОВІЧ**

# «Мілыя вобразы»

## ў фотаработах Міхася Міцкевіча

Сын Якуба Коласа Міхась Міцкевіч, доктар тэхнічных навук, майстар спорту па стэндавай стральбе, аўтар больш як 250 навуковых работ, звыш 20 вынаходніцтваў, выдатны паляўнічы і таленавіты пісьменнік, шмат гадоў свайго жыцця прысвяціў яшчэ аднаму важнаму занятку — фатаграфіі.

Новая фотавыстаўка «Мілая вобразы», што працуе ў Дзяржаўным літаратурным музеі Янкі Купалы, — ужо трэцяя ў творчым лёсе майстра. Першая прайшла ў Літаратурна-мемарыяльным музеі Якуба Коласа, другая — у Мар'інагорскай карціннай галерэі.

У межах экспазіцыі можна пабачыць партрэты вядомых пісьменнікаў — Якуба Коласа, Янкі Маўра, Міхася Лынькова, Максіма Танка, замалёўкі з іх сямейнага жыцця, фотаздымкі вясковых краявідаў і гарадскіх вуліц… Тут ёсць і тэхніка, якой шмат гадоў таму карыстаўся Міхась Канстанцінавіч. Сёння, у час панавання лічбавых тэхналогій, нібыта машына часу, яна пераносіць нас у амаль забытую аналагавую эпоху.

Кожная з работ Міхася Канстанцінавіча выклікае згадкі ў яго памяці, ён распавядае вясёлыя і сумныя гісторыі, звязаныя з гэтымі фота. А таксама з горыччу кажа пра фотаздымкі, якія так і засталіся нязробленымі:

— Мне добра запомніўся прыезд Купалы да Коласа ў Падбярэжжа, дзе мы праводзілі лета 1936 года. Купала прыехаў з цёткай Уладзяй. Ужо пад вечар пайшлі лавіць рыбу. Закінулі вуды, дзядзька Янка злавіў некалькі акунькоў, а Колас вывудзіў язя мо з кілаграм вагой, а потым і яшчэ адну рыбіну грам на 800. Мне даручылі несці рыбу ў дом. Ужо пазней я вярнуўся ў Падбярэжжа, хацеў сфатаграфаваць і той дуб на беразе рэчкі, пад якім сядзеў Купала, і паварот ракі. Але на тым месцы дуба ўжо не было: рака выпрастала русла і знесла дрэва.



Фота Анатоля Клешчука.

Міхась Міцкевіч прадстаўляе выстаўку «Мілыя вобразы».

На выстаўцы прадстаўлена толькі частка багатага фотаархіва Міхася Міцкевіча. Дарэчы, многія фотаздымкі маюць дасціпныя назвы, часам іх суправаджаюць і эпіграмы, складзеныя самім фотамастаком. Напрыклад, фотаздымак Якуба Коласа ў шынялі палкоўніка Філіповіча Міхась Канстанцінавіч жартам назваў «Генералісімус», а фотаздымак Максіма Танка, зроблены на Нарачы ў 1951 годзе, мае назву «Танк на дрэве». Цікава, што талент фотамастака ў Міхася Міцкевіча развіўся менавіта дзякуючы працы з тэхнікай. Ён распавядае:

— Неяк я праходзіў практыку ў лабараторыі электрафізікі, дзе мне вельмі дапамагаў у працы вядомы оптык Барыс Бойка, ён стаў пазней акадэмікам… — распавядае Міхась Міцкевіч пра вытокі свайго захаплення. — Барыс Барысавіч мне шмат дапамог у разуменні працэсу фотаздымкі, апрацоўкі фота. Мне многа гадоў даводзілася афармляць справаздачы, здымаць дэталі, чарцяжы. Дзякуючы гэтай працы, а таксама выдатнай тэхніцы, якая была ў лабараторыі — тут я карыстаўся высокахуткаснай камерай, — і змог развіваць захапленне.

**Марына ВЕСЯЛУХА**

# МЫСЛІЦЬ = БЫЦЬ = ЗРАБІЦЦА БАЧНЫМ

Чалавек, які клапоціцца пра сваё жыццё, пазначае сябе ў цемры флікерам: каб быць заўважным. Таксама і народы імкнуцца пазначыць сябе адмысловымі знакамі, якія яшчэ і нясуць інфармацыю пра іх. Ці то гэта словы (нават літары), ці то вонкавыя вобразы, дэталі, па якіх іх потым пазнаюць. Выйшла беларуская зборная на Алімпіяду ў строях з арнаментамі — яе заўважылі і запомнілі. Кашулі з беларускімі арнаментамі дораць зоркам і нават прэзідэнтам іншых краін — каб памяталі, дзе былі і з кім сябруюць. Вышыванку апранае прэзідэнт краіны. І чалавек, які едзе на фольк-фэст. Фрагмент арнаменту становіцца сімвалам беларускага бізнесканала тэлебачання. І выкарыстоўваецца на ўпакоўцы прадуктаў: маўляў, вось яно, сваё… Апошнім часам усё часцей мы сутыкаемся ў рэчаіснасці з гэтымі і іншымі сімваламі, якія звязваюцца з існаваннем беларускай культурнай прасторы. А мысляры спрабуюць патлумачыць падчас розных дыскусій: што за гэтым стаіць і як разумець гэтую з'яву, якая, можа быць, яшчэ не так шырока прадстаўлена на вуліцах (як гарадоў, так цяпер ужо і вёсак), але кожны асобны выпадак выклікае эмоцыі.



Фота Дзіяны Серадзюк.

Як бум (ці моду, у сэнсе ўстаноўленага канона для папулярызацыі)? Магчыма, нельга казаць пра шырокую папулярнасць менавіта рэчаў вышываных: надта дорага яны каштуюць, калі выраблены рукамі. Праўда, ёсць больш сучасны варыянт — цішоткі з арнаментамі, якія летам можна бачыць на маладых людзях. Арнамент цяпер — своеасаблівы маркетынгавы ход, які (аказваецца!) дае свае вынікі. Філосаф Павел Баркоўскі, напрыклад, паведаміў: жыхары нашай краіны прыхільна ставяцца да вырабаў з арнаментамі, такія тавары больш цікавыя пакупнікам (паводле апошніх маркетынгавых даследаванняў *MASMI*), яны называюць такія рэчы «патрыятычнымі і сучаснымі». І мы назіраем метамарфозу: частка архаічнай, аўтэнтычнай вясковай культуры, якая захоўваецца на ўзроўні артэфактаў, прыходзіць у гарадскую культуру, не проста прыжываецца, а засвойваецца ёй.

Этнічныя беларускія арнаменты — гэта спосаб рэпрэзентацыі сябе ў прасторы не толькі для асобных людзей, гэта яшчэ адзін варыянт «памеціць» тэрыторыю, але ў адрозненні ад мяжы — на ментальным узроўні: прыняць краіну, злучыць сябе з ёй.

Спачатку думаеш: проста прыгожа. Потым хочацца зразумець, што гэта і чаму. Далей — разабраць сутнасць усіх сегментаў сістэмы, таму што ў арнаменце (які насамрэч дайшоў з часоў неаліту), у яго сімвалах зашыфраваныя сэнсы. Яны, паводле даследчыцы Ірыны Дубянецкай, адлюстроўваюць еднасць як той супольнасці, дзе прынятыя, так і яе лучнасць са светам. Для беларускага этнасу гэта было важна заўсёды, нездарма нават у савецкую эпоху безаблічнага інтэрнацыяналізму на сцягу Беларусі (адзінай з 15 рэспублік) быў адлюстраваны арнамент. Адметнасць, за якою сакральнасць. Асаблівая сутнасць. Этнічная, пры тым, што аддаленне ад карнявых традыцый ішло тады вельмі імкліва.

«Традыцыйная беларуская культура знікла разам са сваімі носьбітамі, са сваёй сістэмай кодаў і знакаў», — гэта меркаванне мастацтвазнаўцы Сяргея Харэўскага. Так, ёсць прычыны засмучацца, што «драўляную Беларусь» мы страцілі назаўжды, а яе артэфакты раскінутыя ў музеях свету (Санкт-Пецярбургу, Маскве, Вільнюсе, Кіеве), і не сабраць іх, і ў сябе не так ужо шмат. Яно сыходзіла паступова. Індустрыяльныя часы прынеслі ідэю фарміравання нацыянальнай культуры, дзе этнічнае — частка ў вялікай і шматаблічнай прасторы, якая пазначана існаваннем краіны. Не адно і тое ж, зразумела. Але чаму тады, калі ўзнікаюць пытанні пра нацыянальную ідэнтычнасць, часцей за ўсё прыходзяць на розум рэплікі з народнай культуры — сімвалы ў выглядзе вонкавых арнаментаў ці нават гукаў, што пры маўленні даюць зразумець, адкуль гаворка.

Можна доўга спрачацца пра семіятычнае ці аксіялагічнае значэнне гэтых рэплік-водгукаў даўніны. Думаць: ці ў наш час гэта з'ява субкультуры, ці праява архаікі, вартай захавання на ўзроўні музеяў, ці вясковая культура, якая перамагла горад, ці сведчанне таго, што наш горад — як вялікая вёска… Можна патлумачыць як заўгодна, што і робяць навукоўцы і мысляры. Але галоўнае тое, што мае на ўвазе чалавек, які прымае і выкарыстоўвае народную сімволіку. А ён не робіць гэта бессвядома. Ён думае… І ў гэтых думках часцей за ўсё «я» спалучаецца з краінай, да якога б этнасу ні належыў чалавек, які сябе такім чынам пазначае. З'ява, якая сведчыць пра прысутнасць краіны ў свядомасці людзей. Не значыць, што яе няма для тых, хто вольны ад вонкавых пазнак. Але кожны раз пры сутыкненні з тым, што мае глыбокія карані, і першыя, і другія адчуваюць эмоцыі, якія так ці інакш, сёння ці заўтра, прывядуць да думак пра Беларусь.

**Ларыса ЦІМОШЫК**

# ГУТАРКІ З НІЛАМ ГІЛЕВІЧАМ

## (Да 85-годдзя народнага паэта Беларусі)



*Са студэнтамі Гродзенскага дзяржаўнага ўніверсітэта імя Янкі Купалы. У першым шэрагу (злева направа): Юрка Голуб, Ніл Гілевіч, Мікола Мікуліч. 13 красавіка 2005 г.*

Я заўсёды ўспрымаў Ніла Гілевіча як аднаго з паплечнікаў і таленавітых вучняў Максіма Танка. А таму да яго ідэйна-мастацкіх пошукаў ставіўся з вялікай цікавасцю — уважліва чытаў новыя кнігі, вывучаў асаблівасці жыцця і творчасці. Ну, і, канечне, па магчымасці імкнуўся сустрэцца і пагутарыць з паэтам, каб удакладніць той ці іншы эпізод ці аспект яго жыццёвай і творчай біяграфіі, праясніць стаўленне да пэўных з’яў і працэсаў літаратурнага і грамадскага жыцця Беларусі, каб лепш адчуць і зразумець мастака як асобу.

Упершыню непасрэдна давялося пазнаёміцца з Нілам Сымонавічам дзесьці ў ліпені 1987 года. Тады па заданні рэдакцыі газеты “Звязда” я наведаў паэта ў яго рабочым кабінеце першага сакратара Саюза пісьменнікаў Беларусі на Фрунзэ, 5 з тым, каб ён адказаў на мае пытанні пра развіццё беларускай літаратуры, падзяліўся сваімі думкамі і назіраннямі адносна актуальных праблем грамадска-сацыяльнага жыцця. Памятаецца, было вельмі цёплае, сонечнае надвор’е, паэт выглядаў бадзёра, прызваіта, да мяне і маіх пытанняў аднёсся зацікаўлена, нераўнадушна. Гутарка адбылася жывая, насычаная, змястоўная, працяглая.

Па маёй просьбе Ніл Сымонавіч скаратку распавёў пра свае дзіцячыя і юнацкія гады, пра тое асяроддзе, у якім яму давялося расці і выхоўвацца. Ён заўважыў, што нарадзіўся і вырас у сям’і камуніста, які ўсё жыццё свята верыў у сацыяльныя і маральныя ідэалы Кастрычніцкай рэвалюцыі. Дух святасці ў дачыненні да рэвалюцыі і Савецкай улады, казаў паэт, быў у бацькоўскай хаце натуральнай атмасферай, тым сацыяльным паветрам, якім дзеці штодзённа дыхалі ад калыскі і да выхаду ў людзі. З гэтага пачалося станаўленне яго жыццёвых прынцыпаў, адсюль ідуць вытокі і яго грамадскага светапогляду, і ўсіх ідэйна-творчых пошукаў.

Гаворачы пра свае першыя крокі ў літаратуру, паэт адзначыў, што прыкладам і дапамогай яму паслужылі творы Багушэвіча, Купалы, Коласа, Багдановіча, а таксама Пушкіна, Лермантава, Някрасава, Маякоўскага, Ясеніна, Шаўчэнкі. З удзячнасцю думае ён і пра кнігі старэйшых сучаснікаў, асабліва Танка, Куляшова, Панчанкі, Твардоўскага. Аднак нейкага канкрэтнага настаўніка ці апекуна, які б вёў за руку ў літаратуру, у яго не было — «цярабіўся» сам, «варыўся ў сваім саку».

Адказваючы на пытанне пра тое, што вызначае яго пісьменніцкі шлях, Ніл Сымонавіч адказаў, што нядаўна, пераглядаючы свае самыя раннія вершы, напісаныя вясной 1947 года, быў вымушаны сам сабе прызнацца: з чаго пачынаў, тым, відаць, і кончыш… Прайшло чатыры дзесяцігоддзі, разважаў ён, многае істотна змянілася на дарозе да сённяшняга разумення місіі і абавязкаў працаўніка на ніве прыгожага пісьменства. Але ці змяніўся агульны кірунак руху душы і сэрца? Думаю, што не. Такая значная падзея, як XX з’езд КПСС, была ў пэўным сэнсе пераломнай, дапамагла лепш убачыць і зразумець сябе і сваю эпоху, адкрыла вочы на супярэчлівасці рэальнага стану рэчаў, але не павярнула творчыя пошукі з абранага шляху кудысьці ўбок — убок ад паняццяў Бацькаўшчына, Народ, Рэвалюцыя, Мова. Ніл Сымонавіч адзначыў, што паэзія для яго — гэта тое, што дазваляе найлепшым чынам сказаць людзям пра самае запаветнае, пра самае дарагое, пра самае балючае. А колькі ў ёй жывапісу, колькі філасофіі, колькі публіцыстыкі — на гэта звяртаюць увагу тады, калі пачынаюць паэзію прэпарыраваць. Маштаб творчай асобы ён вымярае не толькі сілай таленту, але і грамадзянскай мужнасцю і чалавечай высакароднасцю, ступенню далучанасці жыцця і лёсу творцы да жыцця і лёсу свайго народа. На яго думку, «маральная нестаноўкасць», брак мужнасці, сумленнасці, годнасці непазбежна вядуць да здрабнення асобы мастака і да творчага заняпаду.

Тады, можна сказаць, у разгары была так званая перабудова, і я, натуральна, запытаўся: «У чым вам бачыцца перабудова для пісьменніка?» Паэт разгарнуў даволі шырокі адказ, з мноствам цікавых і павучальных фактаў і меркаванняў. Галоўнае, разважаў ён, каб кожны з нас разабраўся перш за ўсё са сваім уласным сумленнем, у сваіх жыццёвых і творчых прынцыпах. Каб кожны мабілізаваў усе рэзервы мужнасці — гаварыць у творах толькі праўду. І каб кожны прад’явіў самыя высокія патрабаванні да сябе як да мастака слова…

Пасля першай гутаркі пайшлі іншыя, не менш цікавыя, змястоўныя і павучальныя. Некаторыя не толькі добра адкладаліся ў памяці, але і захаваліся ў аўдыязапісе. Як, да прыкладу, гутарка ў кастрычніку 1994 года ў яго рабочым кабінеце старшыні пастаяннай камісіі.

Я пацікавіўся ў Ніла Сымонавіча пра тое, наколькі сумяшчальныя, на яго погляд, паняцці камерцыя і культура. Ён некалькі задумаўся, а пасля адказаў: камерцыя сама павінна быць культурнай. Калі камерцыя будзе ў руках людзей культурных — г. зн. сумленных, сціплых, маральна выхаваных, — тады яна не будзе дзікай, грубай, брыдкай, і будзе спрыяць развіццю культуры мастацкай, духоўнай. У прынцыпе не лічу неспалучальным — камерсант і ён жа шчыры аматар музыкі, паэзіі, мастацтва, — адным словам, чалавек з высокімі духоўнымі запатрабаваннямі, цвёрда заключыў паэт.

Ніл Сымонавіч гаварыў, што ад беларускай літаратуры, і ў прыватнасці паэзіі, чакае большага, мацнейшага, ярчэйшага, чым тое, што паяўляецца ў друку. Чаму? Таму што кожным сумленным пісьменнікам і паэтам за апошнія гады перажыта вельмі шмат поўных драматызму падзей — падзей гістарычнага маштабу і значэння, падзей і велічных, і ганебных, і радасных, і трывожных… Не магло ж усё гэта прайсці міма сэрца мастака слова. Сур’ёзны, сапраўды таленавіты творца ў такія гістарычныя эпохі праходзіць праз моцны катарсіс, зведвае вялікія душэўныя ўзрушэнні, выпрабаванні і пакуты, цяжкія пакаянні, горкія расчараванні і балючыя прарывы да новага, да лепшага, да чысцейшага і святлейшага на даляглядзе. Але ж гэта — незаменны, найлепшы і найудзячнейшы «матэрыял» для вершаў і паэм, для апавяданняў і раманаў, для драм і камедый! Думаю, неўзабаве такія — добрыя і выдатныя — творы паявяцца, падкрэсліў суразмоўца. Талентаў жа не бракуе!..

Па шматлікіх выказваннях і характарыстыках Ніла Гілевіча было відаць, што ён вельмі даражыў сяброўскімі адносінамі з Васілём Быкавым, высока цаніў мастацкі талент Пімена Панчанкі. Паэт заўсёды з вялікай цеплынёй і глыбокай павагай выказваўся пра Максіма Танка, даволі часта ўспамінаў гады іх сумеснай працы ў кіраўніцтве Саюза пісьменнікаў Беларусі. Гэта была яркая, каларытная, маштабная асоба, казаў ён, вялікі мастак, паэт глыбока нацыянальны, менавіта беларускі. На яго жыццёвым шляху было столькі розных выпрабаванняў, столькі цяжкасцей і непамыслот, але ён з гонарам усе іх вытрымаў, пераадолеў, пакінуўшы нам вялікія ўрокі мужнасці, дабрыні, шчырасці, сціпласці, вернасці высокім ідэалам хараства, любові да свайго, роднага. Такія паэты нараджаюцца раз у стагоддзе! — заключыў Н. Гілевіч.

Запомнілася цікавая сустрэча з Н. Гілевічам 13 красавіка 2005 года ў Гродне. У горад над Нёманам ён прыязджаў разам з пісьменніцай і рэдактарам Хрысцінай Лялько дзеля выступлення перад выкладчыкамі і студэнтамі Гродзенскага дзяржаўнага ўніверсітэта імя Я. Купалы. Акрамя мінскіх гасцей у сустрэчы, якую давялося мне весці, бралі ўдзел мясцовыя літаратары — Данута Бічэль, Юрка Голуб, Аляксей Пяткевіч, Людміла Кебіч і інш. Ніл Сымонавіч хаця і выглядаў прыкметна стомленым пасля дарогі, аднак трымаўся даволі бадзёра, быў вынаходлівым, дасціпным, шмат жартаваў. Паэт літаральна зачараваў абаяльнасцю сваёй асобы актавую залу ўніверсітэта. Ён чытаў новыя вершы, расказваў цікавыя гісторыі са свайго літаратурнага і грамадска-палітычнага жыцця, адказваў на пытанні слухачоў. Пасля выступлення каля гадзіны падпісваў студэнтам кнігі, даваў аўтографы. Памятаецца, цікава прайшла і нефармальная частка сустрэчы ў мясцовай кавярні.

Дзесьці ў канцы ліпеня 2012 года, даведаўшыся пра тое, што я рыхтую да выдання сваю кнігу «Максім Танк. Талент, заручаны з небам», прысвечаную 100-годдзю з дня нараджэння выдатнага беларускага паэта, Ніл Гілевіч паклікаў мяне да сябе і прапанаваў для кнігі некалькі рэдкіх здымкаў. Наша сустрэча адбылася 2 жніўня 2012 года. Мы гаварылі пра «залатыя часы» ў нашай літаратуры — 1960 — 1980-я гады і асабліва пра той перыяд, калі М. Танк быў старшынёй, а Н. Гілевіч першым сакратаром праўлення Саюза пісьменнікаў Беларусі, калі актыўна заяўлялі пра сябе яркія пісьменніцкія індывідуальнасці, выдаваліся таленавітыя кнігі, калі літаратура была важным чыннікам грамадска-культурнага жыцця рэспублікі, а таксама пра дарчыя надпісы некаторых пісьменнікаў, і асабліва М. Танка. На адыход Ніл Сымонавіч падпісаў мне кніжку «Люблю цябе, жыццё…: штрыхі да партрэта народнага паэта Беларусі Ніла Гілевіча»: «Дарагому Міколу Уладзіміравічу Мікулічу на ўспамін аб адной грунтоўнай размове пра аўтографы (і не толькі). З сяброўскай павагай — Ніл Гілевіч. 2.8.2012».

Апошнія нашы сустрэчы адбыліся ў ліпені 2015 года. Па папярэдняй дамоўленасці з Нілам Сымонавічам 2 ліпеня я прапанаваў яму спіс з 63 пытанняў на розную тэматыку — з тым, каб ён прадумаў на іх адказы. На некаторыя пытанні ён адным-двума словамі ці кароткімі сказамі паспрабаваў адказаць, зрабіўшы надпісы алоўкам зверху. Пасля няспешна прайшоўся па ўсім тэксце і пад мой запіс даў поўныя каментарыі да сваіх лапідарных адказаў, удакладніўшы і пашырыўшы некаторыя з іх.

Прапаную ўвазе чытачоў асобныя з гэтых адказаў.

**— Ніл Сымонавіч, якім абставінам ці асобам вы асабліва ўдзячны за тое, што звязалі свой лёс з літаратурай?**

— Тарасу Шаўчэнку, Янку Купалу, Якубу Коласу, Максіму Багдановічу, Францішку Багушэвічу.

**— Як вы лічыце, ад каго вам у спадчыну перадаўся мастацкі дар, паэтычны талент?**

— Думаю, што ад дзеда па маме — Мікалая Давыдавіча Рулькевіча.

**— Што забяспечыла паступальнае развіццё вашага таленту? Як вы спасцігалі сакрэты паэтычнага майстэрства?**

— Чытаннем паэзіі вялікіх — перш за ўсё.

**— Ніл Сымонавіч, у свой час мяне моцна ўразілі вашы зборнікі «Бальшак» (1965) і «Перазовы» (1967). Прыгадайце, калі ласка, чым быў абумоўлены, як узнік прысвечаны Максіму Танку вянок санетаў «Нарач», які ўвайшоў у апошні з іх? Дзе, пры якіх абставінах вы яго стварылі? Чаму вы вырашылі прысвяціць Максіму Танку не верш, не паэму, не нарыс, а менавіта вянок санетаў?**

— Убачыў, што Максім Танк — пясняр Нарачы.

**— З гадамі, назапашаным досведам, набытым майстэрствам вам вершы пісаць лягчэй ці цяжэй?**

— Цяжэй! Бо пачуццё адказнасці большае.

**— Вы апублікавалі 35 зборнікаў вершаў (акрамя кніг выбранага), 16 кніг паэтычных і празаічных перакладаў, 13 кніг па літаратуразнаўстве і фалькларыстыцы, 8 кніг эсэістыкі і публіцыстыкі. Такога творчага набытку не мае ніводзін беларускі літаратар! Якая з кніг для вас самая адметная, самая дарагая? Якая з іх далася вам асабліва цяжка і пакутна? Чаму?**

— Раман «Родныя дзеці».

**— Што вам не падабаецца ў сваёй паэзіі?**

— Асобныя творы, асабліва з ранніх.

**— Што б вы назвалі сваёй самай вялікай творчай і жыццёвай удачай?**

— Шлюб з Нінай Іванаўнай.

**— Каго вы лічыце сваім галоўным чытачом?**

— Настаўнікаў.

**— Якую падзею ў сваім жыцці вы лічыце самай важнай, самай галоўнай?**

— Нараджэнне сына.

**— Калі вы адчувалі сябе найбольш свабодным?**

— Калі пісаў!

**— З кім вы блізка сябравалі ў ранейшыя часы? Хто вашы сябры зараз?**

— З Быкавым. Іх многа.

**— Чаго вы не зможаце дараваць чалавеку?**

— Здраду!

**— Назавіце, калі ласка, пяць найбуйнейшых пісьменнікаў у гісторыі беларускай літаратуры, якія, на вашу думку, аказалі самы значны ўплыў на яе развіццё.**

— Багушэвіч, Купала, Колас, Багдановіч, Гарэцкі.

**— У чым заключаюцца вашы галоўныя жыццёвыя каштоўнасці?**

— Вернасць Радзіме, народу.

Я ўдзячны Нілу Сымонавічу Гілевічу за ўрокі шчырасці, дабрыні і высакароднасці. Гэта быў вялікі патрыёт Беларусі, выдатны паэт, чалавек вялікага, нераўнадушнага сэрца, да канца верны свайму высокаму духоўна-маральнаму і грамадзянскаму абавязку.

**Мікола МІКУЛІЧ**

# Выкараніць зло




**Выдатнаму майстру мастацкага слова Віктару Праўдзіну належыць амаль дзясятак яркіх кніг прозы, сярод якіх — «Візіцёр з Поўначы», «Боль», «Нелюбімыя гінуць», «Іду насустрач».**

У літаратуру В. Праўдзін прыйшоў пасля службы ў органах унутраных спраў, што істотна паўплывала на тэматычныя дамінанты яго творчасці, прадвызначыла пафас і змест твораў. Шчыруючы над малымі жанравымі формамі — навеламі і апавяданнямі, В. Праўдзін адшліфаваў пісьменніцкае майстэрства, набыў літаратурны досвед. З кожным новым творам ён глыбей пранікаў у жыццё, смела паказваў яго балячкі і непрыглядныя бакі.

У апавяданні «Бездань» пісьменнік паказаў трагічныя вынікі страшнай сацыяльнай хваробы — п'янства. Герой твора Васіль не вытрымлівае несправядлівасці на працы і пачынае піць. Яго пакідае жонка, і ён паступова дэградуе як асоба. Васіль пачынае адбіраць грошы ў старой маці, беспадстаўна абражае і нават выганяе з яе ўласнага дома. Аднойчы, у п'яным угары, ён выкідвае маці на балкон, дзе яна памірае ад пераахалоджання. У апавяданні «Хто наступны?» В. Праўдзін паказаў, як празмернае ўжыванне алкаголю разбурае сем'і, вядзе да дэградацыі асобных людзей і паграджае ўсёй нацыі.




Сімвалічны сэнс мае навела-алегорыя «Боль», якая вызначана аўтарам як «споведзь міліцыянера». Герой твора спрабуе штодня служыць людзям, аберагаць іх ад бяды. Падчас нясення каравульнай службы ён спыняе іх перад зонай, бо там — смяротная небяспека для ўсяго жывога. Але гэтага ніхто не цэніць! Наадварот, менавіта міліцыянера лічаць вінаватым ва ўсім: «Дый не толькі маці, усе прысутныя глядзелі на мяне так, быццам гэта я ва ўсім вінаваты, быццам з-за мяне не падоены каровы, не пазачыняны юшкі ў хатах, беспрытульна бадзяюцца па вёсках куры і свінні».

Пісьменнік-гуманіст адчувае асабісты боль за бессэнсоўныя страты ў Афганістане, за чарнобыльскую трагедыю і пакуты ад радыяцыі.

У навеле «Пастка» творца выкрывае жахлівыя вынікі браканьерства, паказвае бессардэчнасць людзей у адносінах да дзікіх жывёл. Сюжэт навелы вельмі драматычны. У пошуках застрэленага браканьерамі ласяня ласіха трапляе ў горад. Яна шукае паратунку, але не знаходзіць яго і гіне ад разрыву сэрца…

В. Праўдзін стварыў цыкл паляўнічых гісторый. Вельмі ўдала і маляўніча распавёў пра розныя здарэнні падчас палявання. Асабліва яркімі атрымаліся навелы «Першая сустрэча з вепруком», «Пастка на дзіка». У гэтых расповедах шмат карнавальных элементаў, жартаўлівых сюжэтаў і сцэнак. Рэальныя падзеі шчыра перамешаны з выдумкамі і фантазіямі.

Значным мастацкім здабыткам беларускай літаратуры апошняга часу з'яўляецца раман Віктара Праўдзіна «Танцавальны марафон» (2001). Падзеі твора адбываюцца ў другой палове 90-х мінулага стагоддзя, у надзвычай супярэчлівы і драматычны час. Аўтар бліскуча выбудаваў дэтэктыўны сюжэт, які дапамог аб'ёмна асэнсаваць чалавека і грамадскія працэсы на крутым павароце гісторыі. Творца прадэманстраваў глыбокае веданне жыццёвых рэалій. Ён асэнсоўвае вытокі паводзінаў герояў, выяўляе глыбінныя матывы іх жыццёвай філасофіі і ўчынкаў.

Мастацкімі сродкамі В. Праўдзін паказаў антрапалагічны крызіс, імкненне людзей любым коштам узняцца па сацыяльнай лесвіцы. Вынішчэнне ідэалаў, на думку аўтара, культ грошаў і багацця, прывялі да росту ў грамадстве злачыннасці, наркаманіі, алкагалізму і іншых антысацыяльных з'яў.

Сцэны рамана напісаны па-майстэрску, з умелым выкарыстаннем мноства мастацкіх дэталяў і віртуознай літаратурнай тэхнікі. Вельмі дакладна і праўдзіва перададзены гутаркі следчых са сведкамі. Асабліва ўражвае бліскуча намаляваная сцэна балю, якой адкрываецца твор.

Выключнае майстэрства аўтар дэманструе пры стварэнні партрэтаў галоўных герояў. Бізнесмен-міліянер Сідоркін Сцяпан Кузьміч і яго каханка Галіна Віктараўна Александровіч — надзвычай каларытныя вобразы, тыповыя характары нашага часу.

Заключныя сцэны рамана — выразна сімвалічныя. Пісьменнік праводзіць думку аб тым, што злачынствы ніколі не застануцца не раскрытымі, зло заўсёды будзе пакарана. Аўтар таксама застаецца аптымістам у поглядах на чалавека. Мастацкімі вобразамі ён даводзіць, што гуманістычны пачатак перамагае звярыныя інстынкты. Аўтар верыць у ствальную моц кахання, якое здольна змяніць чалавека да лепшага. На думку творцы, настойлівасць і працавітасць заўжды будуць узнагароджаны належным чынам. Мастацкім словам Віктар Праўдзін змагаецца са злом, імкнецца сцвердзіць гуманістычныя ідэалы, абараняе дабро і праўду.

Багаты ўласны досвед, абазнанасць у побыце людзей розных сацыяльных станаў і выдатнае пісьменніцкае майстэрства дазволілі В. Праўдзіну стварыць буйны сацыяльны раман, які мае значную грамадскую і эстэтычную каштоўнасць.

Несумненная творчая ўдача В. Праўдзіна — раман «Нелюбімыя гінуць». У цэнтры твора — трагічныя лёсы маладых дзяўчат. Вясковая дзяўчына Люба Анікейчык, мінчанка Марыя і чачэнка Айшэ праходзяць праз цяжкія выпрабаванні і неверагодныя пакуты. Акалічнасці складанага і супярэчлівага постсавецкага часу пазбаўляюць іх сямейнага шчасця.

Пісьменнік выдатна зразумеў, што лёсы жанчын і маладых дзяўчат — лакмусавая паперка, індыкатар стану грамадства. Мастацкімі сродкамі ён бліскуча паказаў, што перажыло грамадства і якую высокую цану заплацілі простыя людзі за перамены ў жыцці. В. Праўдзін зусім не згушчае фарбаў і не ачарняе жыццёвых рэалій. Ён смела піша пра тое, пра што ўсе ведаюць, але маўчаць, не адважваюцца гаварыць. Бо сорамна, бо ёсць адчуванне ўласнай віны і прысмак крыўды.

Пісьменнік аб'ектыўна раскрыў драматычныя падзеі другой чачэнскай кампаніі, падчас якой загінулі тысячы мірных жыхароў, а горад Грозны быў дарэшты зруйнаваны. Ні ў чым не вінаватыя людзі аказаліся ў пастцы: «Асабліва цярпелі ад самалётаў, якія, адчуваючы сваю беспакаранасць, метадычна, як на вучэннях, наносілі смертаносныя ўдары спярша па адміністрацыйных будынках Грознага, а потым па дамах, дзе, як потым перадавалі па радыё ды пісалі ў скінутых лістоўках, была наладжана бандыцкая абарона. А калі ўлічыць, што кожны дом быўператвораны ў крэпасць, то й бамбілі ўсё і ўсіх».

Цяжарная жанчына Айшэ, апынуўшыся пад бомбамі на лініі баявых дзеянняў, зазнала ўвесь жах вайны: на яе вачах гінулі людзі, пад заваламі дамоў каналі суайчыннікі. Ніхто не мог дапамагчы... Вельмі ўражвае сцэна цяжкіх родаў Айшэ: ледзьве засталася жывой. Пісьменнік выразна праводзіць думку, што вайна і жыццё несумяшчальныя. Найвялікшае шчасце на зямлі — нараджэнне дзяцей, з'яўленне новага жыцця, што патрабуе догляду і клопату.

На думку аўтара, войны замешаны на грашах. Прычына вайны ў Чачні — барацьба алігархічных кланаў за нафту.

Пісьменнік паказаў несуцешнае гора і беды, якія прынесла людзям вайна ў Чачні: і чачэнцам, і рускім, і ўсім, хто мірна жыў, хто ваяваў па абодва бакі. Жыхары мусілі ўцякаць ад вайны і пагібелі. В. Праўдзін перадаў пякельныя пакуты цяжка параненага чачэнца Рэната Баджыева, якому ў палявых умовах звычайны фельчар Пятровіч мусіў рабіць неадкладную аперацыю па выдаленні асколка.

Аўтар прыйшоў да высновы пра самакаштоўнасць жыцця. Невыпадкова сяржант Іван Серада пасля цяжкога ранення, страты ног і калецтва зазначае: «Жыццё само па сабе ўжо вялікая радасць, і застаецца толькі знайсці сваё месца ў ім».

Працягваючы лепшыя традыцыі класічнай літаратуры, В. Праўдзін выдатна перадаў душэўны стан герояў, раскрыў іх пачуцці, перажыванні і трывогі, надзеі і мары. Так, згвалтаваная Айшэ адчувае роспач і боль, жадае ўласнай смерці. Гераіня Люба Анікейчык, апынуўшыся ў Германіі, не можа заснуць у першую ноч. Яна ўспамінае перажытае, думае пра будучыню.

Як бачна, мастацкім словам Віктар Праўдзін смела змагаецца са злом, імкнецца сцвердзіць гуманістычныя ідэалы, абараніць дабро і праўду. Выдатны майстар партрэта і мастацкай сцэны, умела перадае кожны рух персанажаў, дэталі, колеры і пахі. Эпізоды ў яго творах падпарадкаваны прадуманай мастацкай стратэгіі, яны надзвычай лагічныя, дакладна вывераныя, аб'ёмныя і дынамічныя.

**Іван САВЕРЧАНКА**

# Даўгі перад бацькоўскай хатай

**Чацвёрты зборнік вершаў Валянціны Габрусёвай «Водар бацькаўчыны» выдала УК «Магілёўскі абласны метадычны цэнтр народнай творчасці і культурна-асветніцкай работы».**

У зборнік увайшлі разам з новымі творамі некалькі выбраных вершаў, песень, рамансаў. Адкрываецца кніга вершам, у якім аўтар у поўны голас заявіла: «Слова сваё я выпесцю // Ў сакавіка капяжы, // Ноткаю самай чыстаю // Гуку прыбаўлю з цішы. // Сокам бярозавым, росамі // Слова сваё напаю, // І прасцінамі-чаромхамі // Ля хаты бацькоўскай спаю».

У творах зборніка «Водар бацькаўшчыны» як пад пэндзлем жывапісца паўстаюць малюнкі роднай нам магілёўскай зямлі, найперш клічаўскія краявідаў: лугі, лясы і квітнеючыя нівы. Ды не толькі краявіды — радкамі вершаў прасвечваюцца справы і ўчынкі людзей, іх сэрцы і душы з разнастайнымі філасофскімі думкамі і штодзённымі трывогамі, з радаснымі памкненнямі да светлага жыцця. Лірычны герой новага зборніка, як і папярэдніх, жыве не адзіным хлебам надзённым — дапамагае чытачу адчуць сапраўдныя каштоўнасці жыцця, дае магчымасць распазнаць істотныя адрозненні, сутнасць катэгорый дабра і зла, вучыць маладых людзей, як увайсці ў жыццё. Да прыкладу, у вершы «Гудзе майго жыцця нястомны трактар…» маці гаворыць, што «дзень павінен быць даўжэй начы» і толькі тады «ўпарты не мяняецца характар — // Пасеянае бачыць пад сярпом». Але, на жаль, у сённяшніх рэаліях жыцця паэт бачыць іншае: «… мяняецца наш характар — // Нясеянае бачым пад сярпом».

У вершах паэт сваімі радкамі неўпрыкмет падводзіць чытача да філасофскіх разваг і вывадаў, што хуткаплынны і жорсткі наш час патрабуе ўдумліва прымаць рашэнні, каб не нарабіць бяды. Радкі верша «Мы не паспеем», напрыклад, чырвонаю ніткаю пранізвае думка, што, не аплаціўшы даўгі перад бацькоўскай хатай, перад роднай зямелькай, мы будзем бясплодна мітусіцца. І калі не будзем бачыць, дзе дабро, а дзе зло, калі жыць будзем без любові, то вынік — толькі адзін.

Удзячнай любоўю да Айчыны пранізаны радкі вершаў «Пах бацькаўшчыны», «…Праспявай ты, салоўка, мне песню», «Мы — беларусы!», «Мой цягнік "Магілёў — Асіповічы"», «…Смяяўся дождж над Друццю соннай», «…Узнімала я фіранку нецярпліва», «Бары гудуць чмялямі» і іншыя. Глыбока патрыятычнымі радкамі Валянціна Габрусёва пераклікаецца з вершам-шэдэўрам Аляксея Пысіна «Вузел».

У вершы «Пах бацькаўшчыны» паэт абяцае роднай зямельцы: «Я шчырым адплачу табе радком // За пах баравікова-чабаровы, // Які больш паўвека п'ю нагбом!» І сапраўды, у зборніку чытач знойдзе багата лірычна-спавядальных вершаў, якія чытаеш не адрываючыся.

Амаль у кожным вершы зборніка ёсць цікавыя запамінальныя эпітэты, параўнанні, вобразы, у некаторых — фальклорныя слоўцы, а то і прымаўкі ці мудраслоўі: «Сенакосам звінеў мой залівісты смех», «Хоць яблыню шчэ поўны цвет не песціў, ды ў марах яна квеценем жыла», «І ляціць да вечнасці імгненнем ноч, што акунае ў росы травы». Некаторыя з вершаў вельмі ўжо блізкія да народнай песні, як «…Кіну на плячо гармонік».

Чытача ў новым зборніку прывабіць яшчэ і дызайн Ж. І. Палханавай: прыгожая каляровая вокладка з выявай бярозавага гаю, а на старонках кнігі — некалькі дзясяткаў ілюстрацый з клічаўскіх краявідаў.

**Віктар АРЦЕМ'ЕЎ**

# Таму, хто побач…

**Сёлета ў выдавецтве «Мастацкая літаратура» пабачыў свет зборнік аповесцей і апавяданняў «Ева ў пошуках Адама». Гэта дзясятая кніга серыі «Вера. Надзея. Любоў». Пад яе вокладку трапілі творы 32 сучасных аўтараў, на беларускай і рускай мовах. Сярод іх ёсць і прызнаныя пісьменнікі (Валерый Гапееў, Таццяна Мушынская, Віктар Праўдзін, Уладзімір Сцяпан, Ганад Чарказян, Аляксандр І. Бацкель і інш.) і менш вядомыя на сёння (Таццяна Дубоўская, Аляксандр Залеўскі, Станіслава Умец, Святлана Чарная). Уклаў выданне Віктар Шніп.**



І хоць назва кнігі адсылае да тэмы ўзаемаадносін паміж мужчынам і жанчынай, тэматыка яе вельмі шырокая: не толькі каханне, але і дачыненні бацькоў і дзяцей, і сямейныя адносіны, нават жыццё ў акупацыі падчас вайны. Шырокі і жанравы дыяпазон твораў: не толькі апавяданні і аповесці, але і лірычныя бессюжэтныя мініяцюры, імпрэсіі, урывак з рамана.

Адкрывае выданне вельмі нечаканая па сюжэце гісторыя Г. Аўласенкі «Тэлефон даверу», прызначаная ў першую чаргу юнаму чытачу, які перажывае няшчаснае каханне. Майстэрства аўтара адчуваецца ў кожным радку: ён дынамічна ўводзіць у свет вострых перажыванняў падлетка, які пасварыўся з каханай, і мы адразу апынаемся ўнутры карцінкі. Апавяданне амаль цалкам пабудавана на дыялогах, і падаецца, што аўтар падслухаў іх у адпаведнай сітуацыі і аўдыторыі, бо фразы хлёсткія, пругкія, нічога лішняга — менавіта так яны і гучалі б у падлеткавым асяродку. І хоць твор фантастычны па задуме, гэта толькі фон, на якім адбываецца дзеянне, а псіхалогія перададзена дакладна, па-сапраўднаму:

«—…Навошта жыць, калі яго больш не будзе ў маім жыцці, калі ён так жорстка са мной абышоўся?! І таму я… таму я…

— Таму ты вырашыла скончыць жыццё самагубствам? — зноўку пераходзячы на «ты», без усялякага здзіўлення альбо нейкіх іншых эмоцый закончыў юнак фразу, якую так і не змагла вымавіць да канца дзяўчына. — Ну і якім жа канкрэтна спосабам ты збіраешся гэта зрабіць? Пры дапамозе снатворнага, хіба не так?

— Як ты… як вы здагадаліся?..»

Апавяданне Ліліі Бандарэвіч-Чарненкі, якое дало назву зборніку, «Ева ў пошуках Адама», не вызначаецца арыгінальным сюжэтам. Аўтарка распавядае пра душэўныя пакуты лірычнай гераіні, жанчыны сарака пяці гадоў, якая ў чарговы раз закахалася. Услед за ёй мы вандруем па самых патаемных закутках жаночай душы, калі-нікалі робячы «вылазкі» па «часова-прасторавых тунэлях» у сусветную гісторыю (пісьменніца згадвае гісторыі кахання Ганны Яраслаўны і Соф'і Гальшанскай, булгакаўскую Маргарыту, Айседору Дункан, Оскара Уайльда). І хоць на тэму кахання немагчыма сказаць нічога новага, у кожным канкрэтным перасэнсаванні заўжды будуць нейкія іншыя ноты і адценні: «…Кожная шчаслівая сустрэча дваіх — пралог вялікага суму. Ён абавязкова настае, і тады свет ператвараецца ў лепразорый хворых думак і кветак, траваў і дотыкаў… Кожнае каханне пасвойму трагічнае і цудоўнае. У ім усё: радасць чакання, шчасце сустрэч, боль расстанняў. І — неразуменне адно аднаго. І безвыходнасць. І фатальнасць, калі доля быццам гуляе ў хованкі з тваім шчасцем…» Аўтарка пакідае сваю гераіню на самым узлыме яе пачуцця («Даруй, каханы! Пабачымся, калі пабачымся… Заўтра, праз год… А можа, недзе там, у іншым стагоддзі… Але ж ведай: я чакаю цябе») — таму ў нас ёсць надзея, што на гэты раз у яе ўсё спраўдзіцца: стане шчаслівай яна і яе абраннік.

Што да мастацкага боку пабудовы твора, думаецца, ён бы значна выйграў, калі б перажыванні — развакханні — душэўныя пакуты — успаміны лірычнай гераіні былі перамежаваны з дзеяннем у пункце тут і цяпер, а не толькі ў мінулым. Бо такая форма мастацкага твора, як апавяданне, вымагае наяўнасці экспазіцыі, завязкі і развязкі, што вельмі слаба прасочваецца ў дадзеным творы.

Таксама хацелася б, каб вобраз жанчыны быў намаляваны больш ярка, каб яе можна было «ўбачыць», і ўнутраны псіхалагізм адпавядаў бы дэталям у яе знешнім выглядзе. Бо мы ведаем толькі тое, што яна носіць эпатажныя клятчастыя кепі «а-ля Лайма», слухае «Акіян Эльзы» і любіць водар начных фіялак.

Твор «Муза» Аляксандра І. Бацкеля таксама цяжка назваць апавяданнем: хутчэй гэта псіхалагічныя замалёўкі, урыўкі з унутранага маналогу, асобна ўзяты кавалак плыні свядомасці альбо чарнавы накід чагосьці больш маштабнага. Кожны чырвоны радок аўтар пачынае з малой, а не з вялікай літары, хаця са знакамі прыпынку ўсё ў парадку: на сваіх месцах. Што гэта: жаданне сарыгінальнічаць? На жаль, яно не вельмі падмацавана ўнутраным сэнсам. Варта адзначыць, што задума аўтара цікавая, але... Гісторыя выглядала б цікавей, калі б аўтар намаляваў «па той бок» свядомасці і дзяўчыну, якая выпадкова натрапляе на адрасаваны ёй тэкст.

Аповесць «У палоне кахання» Міледзія Кукуця самая значная па аб'ёме сярод астатніх твораў, якія ўвайшлі ў кнігу. Гісторыя распавядае пра маладую жанчыну, якая не баіцца жыць, браць на сябе адказнасць і самастойна вырашаць свой лёс. І быць шчаслівай. Нарадзіўшы першае дзіця без мужа (каханы кудысьці з'ехаў у пошуках шчасця, толькі-толькі «сарваўшы» кветку асалоды), яна вывучылася, пачала працаваць. Потым паехала ў Піцер на заробкі і воляй лёсу апынулася перад выбарам: дзіця, народжанае суседкай па пакоі, маці-зязюляй, альбо аддаць у прытулак, альбо… забраць сабе. Яна абірае апошняе, не пабаяўшыся матэрыяльных цяжкасцей, а таксама лёсу мацiадзіночкі, ні тым больш плётак, якія абавязкова мусілі б з'явіцца ў яе вёсцы.

Сюжэт аповесці цікавы і, як падаецца, узяты з жыцця, як і вобраз галоўнай гераіні, Валі. Што да ўвасаблення сюжэта ў твор, то тут узнікае ўражанне, што аповесць зроблена на скорую руку. Да таго ж аўтар забыў выверыць дэталі. Яна надта расцягнутая, дыялогі — груваскія. Не надта верыцца ў тое, што Валя, калі вырашыла парваць з каханкам (а той, па словах аўтара, быў вельмі хітрым і «крутога нораву»), сабраўшы кампрамат, так лёгка яго ўціхамірыла, што той адразу яе пакінуў і не намагаўся вярнуць, заваяваць каханне ізноў. Было б лагічней на яго месцы яшчэ трохі «паторгацца» ў намаганнях, што-небудзь вычварыць — твору было б толькі на карысць.

А вось яшчэ момант з набору нерэальных фантазій: адзін з герояў аповесці, трапіўшы ў аварыю і сабраўшыся пакідаць гэты свет, «з прыкрасцю дакараў сябе, што не скончыў рамонт хаты, і зараз няма ў ёй належнага месца, дзе б паставіць з нябожчыкам труну». Той самы, які пяццю хвілінамі раней, цвяроза мыслячы, казаў Валі (якая знаходзілася ў тым жа аўто — на дне сажалкі): «Трэба берагчы кісларод, таму не крычы, Валя, давай пасядзім ціха». Чытаем далей: «Трактар, буксуючы, …выцягнуў з сажалкі змяты аўтамабіль. У яго салоне без прыкмет жыцця знаходзіліся чатыры чалавекі. Шафёр быў прышпілены рэмнем бяспекі, з гэтага можна было зрабіць выснову, што загінуў ён адразу. Выратавальнікі па чарзе дасталі з машыны ахвяр трагедыі і паклалі на пагорак». Цікава, чаму вырашылі, што шафёр загінуў, перш чым яго дасталі і паслухалі дыханне?

Што да дэталяў: у пачатку аповесці згадваецца, што Валя працавала ў Піцеры два гады, а ў сярэдзіне твора гэта лічба гучыць па-іншаму: «больш як год» (і з сюжэта вынікае, што двух гадоў там ніяк не магло быць). Далей: Валя гуляла па Піцеры, любавалася попельна-белай ноччу. Праз тыдзень паехала дадому, дзе ніяк не магла «…наталіцца непаўторным пахам ранняй восені». Вядома, што час белых начэй у Піцеры — чэрвень. Але тады на Беларусі ранняя восень наступіла ў пачатку ліпеня (па сюжэце твора)?

Творчасць Уладзіміра Сцяпана, аднаго з самых таленавітых сучасных празаікаў, прадстаўлена дзвюма гісторыямі: «Каханне» і «На вуліцы школьнай». Першая з іх складаецца з трох розных расповедаў, не звязаных паміж сабой. Гэтыя творы У. Сцяпана цалкам адпавядаюць вызначэнню формы навела: невялікае апавяданне з незвычайным, строгім сюжэтам, з яснай кампазіцыяй. У. Сцяпан — сапраўдны майстар у гэтым жанры. Паступова «зачароўваючы» чытача тэкстам, на самым піку ўздыму чытацкай увагі ён любіць раптоўна пераключыцца на нешта іншае, здавалася б, другаснае. І скончае расповед нечаканай высновай, філасофіяй, галоўнай тэзай, задумай твора: «Мастакамі не нараджаюцца — мастакамі паміраюць», «…нават калі Альберт Максімавіч Царлюкевіч і вернецца, Тоня яго абавязкова прагоніць, каб ізноў чакаць…».

Вельмі кранула алегарычная гісторыя Аляксандра Сілецкага «Пыльная дорога, звёздные дожди». Яе героі — два інваліды: дзяўчына ў калясцы, якая магла толькі сядзець ля акна і глядзець дзень пры дні, з году ў год на дарогу, па якой міма беглі машыны, і хлопец на мыліцах, які аднойчы воляй лёсу завярнуў да доміка той дзяўчыны папрасіць вады. Дзяўчына ўсё жыццё марыла, што калісьці гэта адбудзецца, але калі мара ажыццявілася, была глыбока расчараваная знешнім выглядам госця і адрынула закаханага хлопца. Мне падаецца, што ў вобразах гэтых герояў — кожны з нас. Усе мы ў нечым падобныя да іх і паводзім сябе гэтак жа: любуемся сабою, думаем толькі пра сябе, і нават у каханні для нас істотна толькі сваё адлюстраванне ў вачах каханых. Гісторыя А. Сілецкага самая тыповая, гэта квінтэсэнцыя кожнай асобна ўзятай трагедыі на тэму кахання.

Вартыя ўвагі і астатнія не згаданыя тут творы пад вокладкай кнігі, героі якіх жывуць побач з намі. У кожным з іх ёсць нешта знаёмае, у кожнай гісторыі ёсць нешта пра нас, бо, напэўна, кожны чалавек марыць пра тое, каб кахаць і быць каханым, каб пражыць шчаслівае, яркае жыццё і раздзяліць шчасце з адзіным, самым дарагім і блізкім чалавекам.

У пэўным сэнсе кніга «Ева ў пошуках Адама» не толькі цікавая, але і карысная. Расповеды пра чужыя раманы дапамагаюць лепш зразумець сябе. Чытач узбагачаецца новым досведам і ўздымаецца над уласным, абмежаваным канкрэтным лёсам і абставінамі. Перафразуючы аднаго з аўтараў, Лілію Бандарэвіч-Чарненку, якая ўпэненая, што «ні адзін верш не пішацца без таго, хто побач», мы сказалі б: ні адна гісторыя не распавядаецца без суразмоўцы, каторы «побач». А гэта — кожны з нас, каму і прызначана выданне.

**Таццяна БУДОВІЧ-БАРАДУЛЯ**

# Літары «ЛітАўры»

Сярод пісьменнікаў заўсёды ёсць тыя, хто дбае не толькі пра свае творчыя поспехі, але і пра пачаткоўцаў, пра развіццё нацыянальнай літаратуры і культуры наогул. Як, прыкладам, брастаўчанка Таццяна Дземідовіч, член Саюза пісьменнікаў Беларусі, кіраўнік літаратурнага клуба «Літара» пры Брэсцкім гарадскім Доме культуры.

На пачатку мінулага лета Таццяна Дземідовіч кінула «кліч» брэсцкім літаратарам. Жадаючыя паўдзельнічаць у новым рэгіянальным літаратурна-мастацкім праекце дасылалі ёй свае творы для будучага калектыўнага зборніка. На прапанову адгукнуліся 40 аўтараў з розных куткоў Брэстчыны — сябры клуба «Літара», паэты і празаікі з Брэста, Баранавіч, Пінска, Лунінца, Камянца. Урэшце напрыканцы мінулага года ў брэсцкім прыватным выдавецтве «Альтэрнатыва» у свет выйшаў доўгачаканы аб'ёмны (больш як 300 старонак) калектыўны зборнік «ЛітАўра» накладам у 300 асобнікаў, назву якому дала сама Таццяна Дземідовіч.

У кнізе можна знайсці матэрыялы да ўрокаў краязнаўства, тэматычных вечароў, школьных святочных мерапрыемстваў. У рубрыцы «Паветра Радзімы» аўтары апяваюць дарагія сэрцу мясціны, любую Радзіму. Вось, напрыклад, радкі Міколы Панасюка: «Ад бацькі — плуг і баразна, / Ад птаха — моцнае крыло. / Бусліным клёкатам вясна / Будзіла роднае сяло…»

Рубрыка «Памяць у сэрцы застацца павінна» прысвечаная 70-годдзю вызвалення Беларусі ад фашысцкіх захопнікаў. Горыччу незлічоных страт і светлай радасцю Вялікай Перамогі напоўнены радкі паэтаў Веры Вакула, Алы Гопша, Настассі Нарэйка ды іншых аўтараў, якія перадаюць у творах свае эмоцыі ды пачуцці.

Назва рубрыкі «Вяртаюцца, пакуль жыве любоў» — радок верша маладой паэтэсы Алёны Папко. Тут — творы, напоўненыя пранікнёнымі пачуццямі да самых дарагіх на свеце людзей, успамінамі і пра тых, хто побач, і пра тых, хто пайшоў ад нас.

У вершах Эдуарда Цімафеева, Ірыны Ярмак, Алены Ляшук ды іншых суаўтараў рубрыкі «Філасофія жыцця» — пошукі духоўных арыенціраў і чалавечага шчасця. А рубрыку «Ты музу сэрцам пазаві» склалі творы, прысвечаныя Яе Вялікасці Паэзіі. Гэтыя вершы — пра стан акрыленай душы, пра творчасць і натхненне, пра цярністы шлях, якім творца прыходзіць да сапраўднай паэзіі.

Пад рубрыкай «В любое время года чарует нас природа» сабраны творы, аўтары якіх захапляюцца красой і багаццем роднага краю. А «Дзіцячая старонка» прапануе вершы, загадкі, апавяданні, якія выпраменьваюць дабрыню і цеплыню, прывіваюць любоў да прыгожага, развіваюць у дзяцей цікаўнасць і дапытлівасць. Да гэтай рубрыкі спрычыніліся паэты Ніна Енбулаева, Галіна Бабарыка, Сяргей Дубнавіцкі ды іншыя. Апавяданні Івана Мельнічука вучаць дзяцей аналізаваць свае ўчынкі, расці разумнымі, адказнымі і сумленнымі.

«Казачны свет» знаёміць з вобразнай прозай Наталлі Кухліч, рамантычна-таямнічай феерыяй Светламіры Васілюк. Знайшлося месца ў зборніку і для гумару: на адным дыханні чытаюцца і кур'ёзныя жыццёвыя гісторыі, і вясёлыя расповеды пра падлеткаў, і дасціпная вершаваная іронія.

**Надзея ЛАДАРАЖАНКА**



Таццяна МУШЫНСКАЯ

## Рэха

*Конікі гучна*
*Ў лузе стракочуць:*
*— Ты мой!*
*— Ты мой.*
*— Ты мой…*

*Рэчка бруіцца*
*Срэбрам бясконцым:*
*— Я твой!*
*— Я твой.*
*— Я твой…*

*Ноччу і днём*
*Не сціхае шаша:*
*— Мая…*
*— Мая.*
*— Мая!*

*Рэха лясное*
*Ціха паўторыць:*
*— Твая…*
*— Твая…*
*— Твая…*

## Вясёлка

*Калі над зямлёю вясёлка паўстала,*
*Дык ведай: я проста цябе прыгадала.*

*І колеры скажуць вясёлкі-дугі,*
*Што я — дарагая… І ты — дарагі!*

*Як сонца цябе нечакана кране,*
*Як птушкі пяюць аб шчасці й вясне,*

*Як хтосьці невядомы нябёсы крануў,*
*Нядолю прагнаў і шчасце гукнуў, —*

*Тады здагадайся: усё гэта я!*
*У сонечным промні ёсць сіла мая.*

## Балет «Шапэніяна»

*Плыні музычнай вятрыска падзьме,*
*І балерынаў лявучыя цені,*
*Што так пяшчотна кранаюць душу,*
*Нават не дошчакі сцэны, —*
*Раптам растануць у блакітнай смузе,*
*Знікнуць, як лёгкая мара паэта...*

## Развітанне з летам

*Паціху зямля астывае*
*Ў бясконцым уласным кружэнні.*
*Паўсюль я штодня назіраю*
*Восені набліжэнне.*

*Вось так астываюць пачуцці —*
*Паціху, памалу... Здаля*
*Пачую кастрычніцкім ранкам*
*Пранізлівы крык жураўля.*

***

*Салёнае мора ўдачы*
*Няўдачаў рыфы закрые,*
*Схавае ў цёмных глыбінях,*
*Няўдачы — нібы не было.*

*Няўмольная сіла адліву,*
*Якою месяц кіруе,*
*Бязлітасна рыфы агаліць,*
*Удачы нібы не было.*

***

*Думка адна засмучае мяне —*
*Пра хуткаплыннасць свету рэальнага,*
*Дужага, моцнага, матэрыяльнага.*
*Думка штодня засмучае мяне.*

*Што застанецца праз век ці праз два*
*З высілкаў нашых і намаганняў?*
*З нашых памкненняў, мараў, жаданняў —*
*Што застанецца праз век ці праз два?*

## Варшава. Восень

*У незнаёмым згубілася горадзе,*
*У празрыстым асеннім холадзе.*
*У чужой, хоць і блізкай, краіне,*
*Бы ў далёкім уласным успаміне.*

*Мне так дзіўна: ніхто не чакае,*
*Не турбуе і не сустракае,*
*Не пярэчыць і не дакарае...*
*Што за цуд, за прастора такая?!*

*А вакол скрозь чужая гаворка,*
*І пад сонцам сляпучым так золка.*
*У прасторы, мне невядомай,*
*Сніцца стрэча з далёкім домам.*

## Дзень у Венецыі

*Серабрысты туман прыглушыў,*
*А пасля і схаваў назусім*
*Незвычайную карціну,*

*Тую, што можна ўбачыць,*
*Назіраючы за небам Венецыі*
*І вадой яе каналаў.*

*Серабрысты туман паглынуў*
*Усю смарагдавую і блакітную,*
*Малахітава-зялёную размаітасць,*

*Перламутравыя адценні*
*Ружовай ласкавасці*
*І блакітнай пяшчоты.*

*Серабрыста-жамчужны колер...*
*Зяе, быццам луска велізарнай рыбіны,*
*Роўнядзь заліва.*

*На хвіліну толькі бліснула*
*З-за аблокаў капрызнае сонца,*
*І імгненна змяніўся горад!*

*Успыхнулі зіхоткія фарбы*
*Неба, водаў, палацаў, сабораў,*
*Расхінуўся ўвесь небасхіл.*

*Мільёны брыльянтаў бліскаюць*
*На шастах і вёслах гандол,*
*Як пацеркі невядомай русалкі.*

## На кірмаш і з кірмашу

*Малады хлопец ці дзяўчына,*
*Чыё юнацтва толькі пачынаецца,*
*Хто яшчэ толькі едзе на кірмаш,*
*У каго ад радасці і шчасця*
*Яшчэ зззяюць і зіхацяць вочы,*
*Не здагадваецца,*
*Што ўсе некалі ехалі на кірмаш жыцця.*
*На ягонае стракатае, маляўнічае,*
*Радаснае і гучнае свята.*
*Ён або яна не думае,*
*Што некалі ва ўсіх ззялі вочы.*
*Але раней ці пазней вочы перастануць*
*ззяць.*

*За рэдкім выключэннем*
*Зачараваныя робяцца*
*Прагматычнымі і цвярозымі.*
*Сум перамагае радасць.*
*А цяжар жыццёвых выпрабаванняў*
*Адольвае легкакрыласць.*
*У другой палове жыцця,*
*Калі чалавек едзе з кірмашу,*
*Ён нечакана для сябе пачынае разумець,*
*Што самыя яркія, самыя галоўныя падзеі*
*У яго жыцці адбываліся*
*Менавіта тады, калі ён ехаў ТУДЫ.*
*Але чалавек пра тое не здагадваўся,*
*Радасна і легкадумна спадзеючыся,*
*Што жыццё будзе заўсёды*
*Раскрываць перад ім*
*Сваю прывабную далячынь.*
*Едучы з кірмашу,*
*Чалавек часцей успамінае свята*
*Дзяцінства, юнацтва, сталення.*
*І асэнсоўвае тое, што адбылося*
*з ім тады,*
*Калі ён яшчэ толькі ехаў на кірмаш.*
*На пір і свята жыцця.*

## І нарадзілася наноў…

*Адно ў кожнага жыццё. Адзіны шлях.*
*Ды ў ім шматкроць разоў*
*Мы паміраем, потым уваскрасаем.*
*І сутнасць уласную мы спасцігаем*
*Шматкроць разоў,*
*Шматкроць разоў.*
*Памерла я былая. Адначасна*
*У аблічча іншым нарадзілася наноў.*
*Як быццам бы змяніла ў жылах кроў.*
*Я нарадзілася чужой і мне не зразумелай,*
*З паглядам іншым і душой, і верай.*
*Памерла я і нарадзілася наноў.*

## Вандроўка па праспекце Радзівілаў

*Мы вандруем з табой па Мінску*
*Канца дваццаць першага стагоддзя.*
*На шырокім праспекце,*
*Які мае імя Радзівілаў,*
*Размяшчаецца гмах Музея гісторыі.*
*Ля яго ўвахода закаханым*
*Прадаюць белыя ружы.*
*А на плошчы імя Льва Сапегі*
*Ёсць карцінная галерэя.*
*Побач з пляцам вялікага Вітаўта*
*Узвышаецца тэатр Уршулі Францішкі.*
*А зусім недалёка, ля Трыумфальнай аркі*
*Канстанціна Астрожскага,*
*Знаходзіцца форум Грунвальдскай бітвы.*

## Дэбют



Міраслаў МАМОНІЧ

**Міраслаў Мамоніч (Дзяніс Дзмітранок) нарадзіўся ў Расіі. У 2004 годзе скончыў факультэт бізнесу і права Беларускай дзяржаўнай сельскагаспадарчай акадэміі. Выпускнік узорнай Школы паэзіі «Лотас», кіраўнік паэтычных аб'яднанняў у розных гарадах Беларусі (Горкі, Мінск), пісьменнік, бард, лінгвіст, этнограф, гісторык, славяніст. Старшы выкладчык на кафедры крыміналістыкі БДУ. Аўтар 7 кніг: аповесці «Когда поднялась Атлантида» (2002), зборніка паэзіі «Огня Гармония Жива…» (2002), паэм «Полуночное Фламенко. Забытая Романтика» (2005) і «Лада Моя Ненаглядная» (2007), зборніка арабскай лірыкі «Классика Добра» (2009) і гісторыка-лінгвістычнага даследавання па крыптакасмаграфіі «Терем Ра» (2012) з аднайменнай паэмай (выйшлі пад псеўданімамі Мюрыд Баяндыр і Малнезар Ірыйскіх), а таксама «Антология поцелуя. Зазеркалье любви и свободы» (2012).**

**У 2001 г. выпусціў аўдыяальбом «Посох Белобога». Перакладае вершы і песні з англійскай, італьянскай, беларускай, украінскай, польскай, сербскай моў.**

## Вяртанне

*Небасхіл загушкаў, бы арэлі,*
*Позірка Вясёлкавы Прывід —*
*Я Знайшоў Пачатку Краявід,*
*Мары тут зусім не састарэлі.*

*Месяцы. І Сонца. Сонца… Сонца!*
*Колькі я да Іх не прыпадаў… —*
*У Вяртанні Вечным Вандраваў,*
*Каб Пазнаць: Каханне Свет —*
*Бясконцы.*

*П'юць Пачуцці Белыя Аблокі —*
*Выраю Зямныя Берагі…*

*Брама ля Вясёлкавай Дугі —*
*Я стаю. А Сэрца… —*
*…Крокі…*
*…Крокі…*

***

*…Тонкім Промнем Сэрца Ажывае —*
*Бач, Струменіца Блакіт-Рака*
*Па-Над Вудай Лёсу-Рыбака,*
*Вільгаццю і Сонцам Аплывае.*
*Блізкае — …мінулае. Знікае.*
*Думка-Знічка Цягне ў Далячынь,*
*Дзе Пачатку Велічная Плынь*
*Вечнасці Люстэрка Сустракае...*

*Дрэва Жыцця*
*Ёсць у Кахання Карані,*
*Што п'юць з Вачэй Першакрыніцы, —*
*І з Вуснаў Мілай Таямніцы*
*Злятае: «Вечнасць прыхіні...»*

*Ёсць у Кахання Дзіўны Спеў —*
*Ім Крокі Сэрца сустракаюць,*
*Калі далонямі гукаюць*
*Абдымкаў Сонечны Павеў.*

*Ёсць у Кахання Верны Лёс:*
*На Перакрэсцях Нараджэння*
*Ён Час сціскае да Імгнення,*
*Якое Боскасці Калос...*

*Каханне — Творцы Абавязак —*
*Калі Кахаеш без падказак...*

## Споведзь Волата, або Пушчанскае Сонца

*…Я Зведаў Сонца. Дзікае і Вольнае,*
*Яно Кахала у грудзях маіх*
*Птушыным спевам, зоркаю вандроўнаю*
*І Вуснамі Нябёс. Да Кропель Іх*

*Ты прыпадзі няспынными стагоддзямі —*
*Шуміць-шапоча зброя вечных мар*
*Аб Бітвах паміж цемраю і Промнямі,*
*Што помніць верхавінаў сон-гушчар.*

*Ад Каранёў снягамі і пралескамі,*
*Зубрыным ровам, гімнам навальніц*
*Дужэў мой твар, а вопратка узнёслая*
*Кавалася Легендамі Зарніц.*

*На Скрыжаваннях сеч і Светлых*
*Вогнішчаў*
*Я выстаяў, бо Вёў Жыццю Падлік…*
*Я Зведаў Сонца Слаўнае і Вольнае —*
*Яно заўсёды ў Вечнасць Праваднік!*

***

Маці

*Ёсць крок да чалавецтва. З цішыні.*
*Свет жмурыць вочы шуму паўнатою:*
*У бессэнсоўных рухаў мітусні*
*Стагоддзі адыходзяць пустатою.*

*Усё ў гэтым шуме быццам існуе,*
*Ды толькі існасць ён не спасцігае —*
*Час механічны зор не спазнае,*
*Патрэбы — д'ябал — …і душа другая!*

*Сціскаюць сонца постаці сцягоў*
*Забітых густаў і жывёльнай моды —*
*У сэрцах рэха здраджаных багоў,*
*Ў вушах замест анёлаў электроды…*

*Ёсць крок да чалавецтва. Гукам зор*
*Ён выбухне ў радках і міжрадкоўі:*
*Паэтаў не завершаны дазор,*
*Збіраецца Ўсявышняга Саслоўе!*

## Рэха…

*Я гукаю цябе на світанні,*
*Я гукаю пад вечар і ў ноч —*
*Сэрца марыць пачуць Прывітанне*
*І цябе заклінае: «Не збоч!»*

*Я чакаю цябе апантана,*
*Бездакорна у кожны удых,*
*І гадзін неўміручая рана*
*Цішынёю гартуе мой слых…*

*Я кахаю цябе, так кахаю —*
*Быццам Бог да мяне не кахаў!*
*Мроя зоркамі ў небе знікае,*
*Каб анёл твой мяне адшукаў…*

*Я жыву. Я жыву? — немагчыма*
*Нават міг без цябе існаваць! —*
*Я ільдзінка у пекле Гальфстрыма.*
*Ці паспееш яе ўратаваць?..*



Настасся НАРЭЙКА

Конкурс **«ПЕРШАЦВЕТ»**

# На чорных крылах цягнікоў начных

*Апавяданне*

Ненавіджу начныя цягнікі.

Сон — урыўкамі. Рух — урыўкамі. Думкі — урыўкамі.

«О, летящие в ночь поезда, уносящие сон на вокзале…» Сама не заўважыла, як запісала гэтыя радкі ў штодзённік замест першага пытання будучага інтэрв'ю.

Абы-што!

Я кінула дарэмную справу, якой спрабавала заняцца ўжо з гадзіну, і ўчапілася рукамі ў шклянку з кавай.

Заўтра. Усё заўтра.

Да такой размовы не рыхтуюцца. Бо немагчыма…

Заўтра.

Сёння ў мяне будуць толькі ноч, бяссонніца, кава і пустое (дзякаваць богу!) купэ. Не паспела падумаць пра гэта, як цягнік спыніўся, а потым недзе зусім побач загрукаталі колцы чамадана. Я ўжо ведала, што гэты позні пасажыр парушыць цяпер менавіта маю адзіноту.

Грукат у дзверы. Я здалася.

— Уваходзьце.

Жанчына павіталася, уладкавала багаж, села, папрасіла ў праваднiка кавы — і ўвесь гэты час мне здавалася, што наш цягнік здзейсніў нейкім цудам падарожжа ў часе і хутка за акном можна будзе ўбачыць мінулае. Наколькі далёкае? Я не ведала.

Яна была ў блакітнай спадніцы-мідзі з глыбокімі складкамі, белай, як снег, блузцы, з залатымі, натуральнага адцення, валасамі, паднятымі ўверх. Тонкія пальцы без манікюру. Іх я разгледзела, калі яна працягнула руку:

— Софія.

Я назвала сябе.

Маўчаць з ёй было нечакана лёгка, але я не стрымалася.

— Прабачце. Не ведаю, ці ўступаеце вы ў размовы з выпадковымі спадарожнікамі…

Яна засмяялася:

— Заўсёды! А вы?

Я не змагла стрымаць усмешкі.

— Заўсёды. Прафесія вымушае.

— Журналіст?

— Як…

— Відавочна.

— А вы?

— Раблю кветкі з палімернай гліны. Для ўпрыгажэнняў.

Яна падняла рукі і асцярожна дастала з валасоў, што імгненна разліліся па плячах пругкімі хвалямі, цяжкі грэбень з цёмна-ружовымі півонямі.

— Яны не жывыя?! — мае вочы пашырыліся.

— Дзякую. Лепшага камплімента і не прыдумаць. Еду на выстаўку сваіх вырабаў. Яны ўжо ў галерэі, засталося транспартаваць толькі гэта ды мяне.

Я ўсміхнулася і вярнула Софіі грэбень.

— Вельмі прыгожа.

У бледна-блакітнай сумачцы маёй сурамоўцы зазвінеў тэлефон — я адразу пазнала My immortal у скрыпічным выкананні.

— Прабачце. Дзеці.

Яна выйшла, а калі вярнулася, мяне ўжо раздзіралі пытанні.

— Дзве дачкі, — проста сказала Софія, сеўшы насупраць. — Блізняты. Ліда і Жэня. 15 гадоў. Замужам я другі раз.

— Вы тэлепат?

— Не. «Ободранный человек».

Я ўспомніла, дзе чытала гэтыя словы. Цвятаева. Зноў.

— Гэта…

— Аголеныя нервы. Ніякай брані, — яна памаўчала. — Цяпер ваша чарга.

— У разводзе. Сыну — 9. Антон.

— Камандзіроўка?

— Але ж. Еду ў цэнтр рэабілітацыі для жанчын, што перажылі насілле.

Магу паклясціся, што, калі я прамовіла апошняе слова, яе сінія вочы сталі — на імгненне! — кавалкамі ільду.

Мне чамусьці закарцела ўсё распавесці.

— Будзе ананімнае інтэрв'ю пры выключаным святле. Гадзіну да вашага прыходу спрабавала скласці спіс пытанняў — не атрымалася…

— Бо пытанняў не трэба, — рэзка перабіла яна. — Прабачце. Іх трэба проста слухаць.

— Вы мелі зносіны з ахвярамі фізічнага насілля? — асцярожна спытала я.

— Фізічнага? Гэта не так страшна.

— Але…

— Я ведаю, што гавару!

Яна засаромелася павышанага тону свайго голасу і зноў папрасіла прабачэння.



*Фота Кастуся Дробава.*

— Працягвайце, калі ласка.

— Псіхалагічнае насілле нашмат горш. Яно не пакідае слядоў. Ніхто не ўбачыць зраненай душы.

Яна адкінулася і заплюшчыла вочы.

— Вы былі знаёмыя з ахвярай такога насілля? — я магла быць упартай, калі хацела.

— Занадта блізка. Я сама…

— Вы?! — мой крык прымусіў яе расплюшчыць вочы.

Яна ўстала, адвярнулася ад мяне і спусціла блузку з плячэй. Я з жахам глядзела на чорныя рваныя крылы на яе спіне…

— У вас цяпер, упэўнена, такі самы выраз твару, як у майстра тату, якому я сказала, што хачу набіць на спіне чорныя крылы.

Яна павольна прывяла блузку ў парадак і зноў села. Вочы без слёз. Роўны, без адзінай зморшчынкі, лоб. Складзеныя на каленях спакойныя рукі. І толькі на шыі сутаргава пульсуе жылка, нібыта ўнутры гэтай жанчыны — бомба, якая вось-вось выбухне.

Нешта трэба было гаварыць, і я не ведала што.

Яна ўстала.

— Прынясу яшчэ кавы.

Гэта перадышка на колькі хвілін была неабходная мне, як паветра.

Софія вярнулася такой, якой увайшла ў маё купэ першы раз.

— Сонейка…

— Што? — яна глядзела на мяне вялізнымі здзіўленымі вачамі. — Як вы сказалі?

— Сонейка.

— Так клікалі мяне бацькі ў дзяцінстве... Так называецца мая майстэрня.

Мы зрабілі па глытку.

Я мусіла гаварыць.

— Калі гэта пачалося?

— Не ведаю. Ведаю — калі скончылася. Дзесяць гадоў таму.

Яна кіўнула.

— У мяне было не жыццё, а казка. Чароўнае каханне, вяселле, вартае фантазіі Дыснея, дачушкі-прынцэсы з залатымі валасамі да пятак, палац на аблоках — так мы называлі нашу кватэру на дзясятым паверсе… Вось толькі казка была страшная. Я працавала настаўніцай малявання. І кожны раз ішла дадому, як у пекла.

Рука сама пацягнулася да сумкі з дыктафонам, але Софія адным рухам адсекла ўсе мае памкненні.

— Ён мяне не біў. Ніколі не павышаў голас. Ён разбураў мяне знутры. Знаходзіў нейкую памылку і гадзінамі даходліва, ціха, спакойна тлумачыў мне, што я бяздарная, дурная, нічога не вартая. Помню, як зірне — мароз бег па скуры. Я сціскалася, каб віну, што жыла ўва мне, глыбей загнаць, каб слёзы схаваць, а ён… Спецыяльна прымушаў мяне глядзець яму ў твар, каб бачыць мае пакуты. Каб біў — на сінякі любаваўся б. А так… Ніякіх слядоў… Бяспечна.

— А дзеці?

— Яны нічога не разумелі. І гэта — шчасце. Але часам мне здаецца, што яны ўсё ведаюць і маўчаць, каб мяне не трывожыць.

— Чаму вы не сышлі?

— Я думала, што заслугоўваю тое, што ён рабіў са мной.

— Часта?

— Запоямі, калі можна так сказаць. Часам ён быў добры, пяшчотны, вясёлы, душа кампаніі. Такі, якім яго бачылі іншыя.

— Калі прыйшло разуменне?

— Вясной. Гэта было як выбух. Прыехала сястра. Мы не бачыліся два гады. Яна мяне… не пазнала.

— У вас больш не было блізкіх?

— Толькі яна. Да таго ж, я паехала за мужам у яго родны горад — 400 кіламетраў ад майго.

— Свякроў, свёкр, іншыя?

— Яны не паверылі б мне. Ніхто б не паверыў.

— Сяброўкі?

— Зніклі. Я не помню — калі. Сястра стала маёй сяброўкай. Але спярша раззлавалася, калі на яе прапанову кінуць мужа я адказала катэгарычным «не». Яна сабрала дзяўчынак, зірнула на мяне, як аплявуху дала, і ляпнула дзвярамі. Паехала, цытую, «шукаць той дурдом, у які мяне прымуць». А потым…

Яна глынула кавы, ужо халоднай, і працягвала нечакана нізкім, глухім голасам:

— Нібыта бомба выбухнула ўва мне.

Я міжволі здрыганулася, успомніўшы свае нядаўнія думкі.

— Не помню, як апранулася, як зачыніла дзверы. Нават у такі момант я баялася зрабіць нешта не так. Не помню, як бегла па вуліцы. Здаецца, ішоў дождж… Як пыталася ў сустрэчных, дзе бліжэйшы тату-салон. У рэшце рэшт я знайшла яго сама. Хлопец у чорнай майцы з нейкімі размытымі тварамі доўга і недаверліва слухаў мяне, раз за разам кідаючы позірк на тэлефон.

— Не трэба «хуткай», — я скінула плашч і сцягнула майку праз галаву. — Мне патрэбныя крылы.

— Рваныя?

— Рваныя.

— Нашто?!

— Я хачу свабоды…

***

Назад я ішла павольна, разглядаючы сябе ў вітрынах. Быў ужо глыбокі вечар. Плылі ліхтары…

Я магла паехаць адразу да сястры, але прагла поўнага вызвалення.

Муж чакаў мяне. Тады ён крычаў упершыню. А я глядзела на яго і не чула ані слова. Ціха лёг на падлогу мокры плашч. Я павольна павярнулася, як балерына, — і крык захрас у яго горле. Некалькі імгненняў муж глядзеў на мае крылы. Я падняла рукі, нібы хацела ўзляцець. Я зусім не баялася стаць да яго спінай.

— А потым?

— Правал. Ачнуляся ў бальніцы. Нічога не помню. Чысты аркуш. Толькі зламаная рука і лёгкае страсенне.

— Яго пасадзілі?

— Ненадоўга. А развялі назаўсёды. Ён з'ехаў і ажаніўся зноў.

Софія сціхла, пазіраючы ў акно, за якім уставала сонца.

Сонейка…

— Вы разумееце, — яна рэзка паглядзела мне проста ў вочы, — разумееце, што мая гісторыя павінна застацца ў гэтым начным цягніку назаўсёды?

— Не разумею! Вы…

— Скажаце, што, не тоячы праўды, я дапамагу іншым… — яна памарудзіла і нарэшце дадала: — ахвярам? Ім не гэта патрэбна!

— А што?

Яна дакранулася рукой да пляча:

— Крылы. Я магла б звесці татуіроўку, але…

Яна не скончыла, а я не дапытвала.

# Сафійская скарбніца:

## фокус праз стагоддзі

**Шмат гадоў прайшло з таго часу, як князь Уладзімір накіраваў свайго сына Ізяслава ў Полацк. Яшчэ са старажытнасці Полацк быў самым буйным культурным і духоўным цэнтрам на ўсходнеславянскіх землях, ды чакалі новыя ўзбагачэнні. Ізяслаў (княжыў у 988 — 1001 гадах) стаў родапачынальнікам дынастыі полацкіх князёў Ізяславічаў. Яго сын Брачыслаў Ізяслававіч (княжыў у 1003 — 1044 гадах) значна пашырыў тэрыторыю Полацкага княства. А пры Усяславе Брачыслававічы ў сярэдзіне XI ст. быў узведзены полацкі Сафійскі сабор — адзін з самых ранніх храмаў Заходняй Русі, першая каменная пабудова. У гэтым храме была адна з першых бібліятэк на беларускай зямлі. Тут, паводле даследчыкаў, захоўваўся полацкі летапіс. Пра іншыя скарбы найстарэйшай кніжніцы можна толькі меркаваць: бібліятэка страчана ў выніку войн і рабаванняў. Што засталося ад старажытнай калекцыі?**

### ЗАГАДКАВЫЯ ЗБОРЫ

Упершыню бібліятэка згадваецца ў «Запісках аб маскоўскай вайне (1578 — 1582)» польскага гісторыка Рэйнгольда Гейдэнштэйна, сакратара караля Стэфана Баторыя: Полацк захоплены польскімі войскамі — разрабавана і бібліятэка сабора.

«У вачах адукаваных людзей, — піша Р. Гейдэнштэйн, — амаль не меншую каштоўнасць, чым уся астатняя здабыча, мела знойдзеная там бібліятэка. Акрамя летапісаў, у ёй было многа сачыненняў грэчаскіх айцоў і між імі сачыненні Дыянісія Арэапагіта пра нябесную і царкоўную іерархію, усё на славянскай мове. Большая частка з іх, па сведчанні летапісаў, была перакладзена на гэтую мову з грэчаскай Мяфодзіем і Канстанцінам».

Спробу стварыць мадэль полацкай бібліятэкі ў 1970-я гады зрабіў расійскі даследчык Я. М. Шчапаў. Каб уявіць, як мог выглядаць фонд полацкай скарбніцы, ён параўноўваў фонды сабораў, манастыроў, бібліятэк іншых устаноў таго часу, з якіх нейкія вопісы засталіся. Я. М. Шчапаў вылучыў 6 груп кніг, якія маглі быць у бібліятэцы полацкага Сафійскага сабора: 1 — аналы (розныя летапісныя зводы, што адлюстроўваюць гісторыю ад стварэння свету), 2 — біблейскія і новазапаветныя тэксты, 3 — зборнік апакаліпсічных і апакрыфічных аповесцей, 4 — хрысціянская рыторыка (зборнікі слоў Іаана Златавуста «Златавуст» і «Златаструй»), 5 — аскетычныя творы (словы Яфрэма Сірына і Пандэкты Анціоха), 6 — агіяграфія.

— Ёсць правы і на іншы падыход наконт фонду полацкай кніжніцы, — адзначыў на круглым стале, прысвечаным 950-годдзю бібліятэкі полацкага Сафійскага сабора дырэктар Нацыянальнай бібліятэкі Беларусі Раман Матульскі. — Калі гэта была галоўная кніжніца для дзяржавы і царквы, то выконвала функцыі нацыянальнай бібліятэкі. Гэта значыць, збіраліся ўсе значныя кнігі, неабходныя для жыцця сабора, што выходзілі на сусветнай еўрапейскай прасторы. Калі падыходзіць з гэтага пункту гледжання, то вось мадэль фонду полацкай бібліятэкі: 1 блок — літаратура духоўнага зместу: творы Старога і Новага запавету, літаратура, патрэбная для жыцця царквы. 2 блок, на маю думку, — летапісныя зводы: полацкі летапіс, Летапісец вялікіх князёў літоўскіх, Хроніка Быхаўца… 3 блок — літаратура па праву: пачынаючы ад кананічнага рымскага права да першай рэдакцыі статутаў ВКЛ.

— У Слове аб кніжным чытанні і навуцы, што прыпісваецца святому Кірылу Тураўскаму, удакладняецца, якія менавіта кнігі маглі знаходзіцца ў бібліятэцы кафедральнага сабора: гэта Евангелле, Апостал, Парэмія, Псалтыр і іншыя святыя кнігі, — адзначае епіскап Барысаўскі і Мар'інагорскі Веніямін.



*Кніга «Пралог» пач. XVI ст. Лічбавая копія, якую Нацыянальная бібліятэка Беларусі атрымала ад бібліятэкі Львоўскага дзяржаўнага ўніверсітэта імя Івана Франко.*

### РУСКІ СЛЕД

Бібліятэка полацкага Сафійскага сабора існавала больш за 500 гадоў і прапала падчас Лівонскай вайны (1558 — 1583), што ішла паміж Расійскім царствам і Лівонскім ордэнам. Лівонія была васалам ВКЛ. Таму вельмі хутка з васальных тэрыторый вайна перакінулася на землі ВКЛ, а непасрэдна на адзін з найбуйнейшых і багатых гарадоў Полацк. У 1563 годзе войска Івана Грознага ўзяло Полацк. Горад парабаваны. Р. Гейдэнштэйн піша: «Да ўзяцця Полацка масквіцянамі там захоўвалася вялікая колькасць золата, срэбра, не толькі казённага і царкоўнага, але і таго, што належала прыватным асобам… Масквіцяне, узяўшы Полацк, увесь скарб забралі з сабой у Маскву, пакінуўшы толькі некаторыя прынашэнні. Усё знойдзенае ў замку было аддадзена салдатам».

«Шмат даследчыкаў, спасылаючыся на гэту фразу Р. Гейдэнштэйна, сцвярджаюць, што бібліятэку полацкага Сафійскага сабора салдаты Івана Грознага не кранулі, а яна была парабавана ўжо пазней палякамі, — заўважае Раман Матульскі. — Чаму? Трэба вярнуцца да гісторыі тых часоў, а менавіта да постаці Івана Грознага. Менавіта пры Іване Грозным былі створаны кніжныя вучылішчы ў Расіі, менавіта ён зрабіў шмат намаганняў для таго, каб у яго царстве было наладжана кнігадрукаванне. Праз год пасля ўзяцця Полацка ў Маскве Іванам Фёдаравым была надрукавана першая кніга».

Ёсць версія, што бібліятэку не ацанілі: на гэта ўказвае Р. Гейдэнштэйн, падкрэсліваючы асобна, што скарбніца ўяўляла вялікую каштоўнасць для вучоных, а не для простых людзей, салдат, сялян. Другая версія — Іван Грозны мог прыняць рашэнне не чапаць бібліятэку, бо бачыў у Сафійскім саборы цвярдыню духоўнасці на новых тэрыторыях, якія далучыліся да яго царства, заключае Раман Матульскі.

Калі б знайшліся зборы Івана Грознага… Шукаюць ужо не адно стагоддзе…

### ПОЛЬСКІ СЛЕД

Рэальны след, які застаўся, — польскі. Згодна з ім, полацкая кніжніца дасталася ў рукі салдатам польскай арміі Рэчы Паспалітай. Я. М. Шчапаў піша: «Бібліятэка была вывезена з Полацка тымі адукаванымі людзьмі, якія разумелі яе каштоўнасць як для гісторыі старажытнай сусветнай культуры, так і для выканання канкрэтных палітычных і ваенных планаў урада Баторыя…».

Частка кніг з таго, што ўцалела з бібліятэкі полацкага Сафійскага сабора, аказалася ў Кракаве (тут была рэзідэнцыя польскіх каралей) і знаходзілася там да XVII ст. Затым след полацкай скарбніцы страчваецца разам са слядамі каралеўскай бібліятэкі. Другая частка полацкіх кніг аказалася ў Яна Замойскага. У 1594 годзе ён стварае акадэмію ў г. Замасць, куды перадае гэтыя кнігі. Тыя з іх, што захаваліся, зараз знаходзяцца ў Нацыянальнай бібліятэцы Польшчы ў Варшаве: гэта 11 асобнікаў, якія, з вялікай доляй верагоднасці, былі ў бібліятэцы полацкага Сафійскага сабора, тлумачыць Раман Матульскі.

Другая частка кніг у Замасці была перададзена ў праваслаўную царкву, у брацкую школу. Адна з гэтых кніг захавалася… на Львоўшчыне: арыгінал знаходзіцца ў бібліятэцы Львоўскага дзяржаўнага ўніверсітэта імя Івана Франко: гэта «Пралог» пач. XVI ст. Да Дня бібліятэк калегі з Львоўскага ўніверсітэта перадалі Нацыянальнай бібліятэцы лічбавую копію «Пралога». Ёсць спадзяванні атрымаць такія копіі і ад польскіх калег.

Вялікая частка калекцыі з кніг бібліятэкі Замойскіх пасля падзелу Рэчы Паспалітай трапіла ў Санкт-Пецярбург, у Расійскую нацыянальную бібліятэку, там і захоўваецца. Але даследаванні яшчэ наперадзе.

### ЛЕТАПІСНАЕ БАГАЦЦЕ

— Акрамя нешматлікіх выданняў, што захоўваюцца ў Нацыянальнай бібліятэцы Польшчы, а таксама львоўскага «Пралога», ёсць яшчэ кніга, укладзеная іераманахам Аляксеем у вядомым полацкім манастыры Святога Іаана Прадцечы на Востраве, можа, праўда, не зусім Сафійскага сабора, — мяркуе кандыдат гістарычных навук Васіль Варонін. — Існуюць кнігі з той жа Нацыянальнай бібліятэкі Польшчы, не ідэнтыфікаваныя як полацкія, але хутчэй за ўсё звязаныя з Полацкам: ёсць там спіс Першага Пскоўскага летапісу 1547 г. (паходзіць з Полацка і трапіў туды, як і іншыя полацкія кнігі, праз Замасць). Хай згадкі пра бібліятэку рэдкія, але вядома, што кнігі туды везлі. Напрыклад, ёсць там дакументы 30-х гадоў XVI ст., дзе адзін віцеблянін даводзіць пра тое, што аддаў у Полацк на перапіску кнігу. Што за кніга, невядома. Але нейкі летапіс, верагодна, там быў.

Ці цалкам бібліятэку вывезлі ў 1579 годзе, ці не, а ці далейшым яна існавала, пераканаў В. Варонін. Таму што Сафійскі сабор працягваў заставацца кафедральным саборам і без кніг проста не мог функцыянаваць. «Больш за тое, яшчэ ў XIX ст., пасля разбурэнняў і войн, змен у дзяржаўна-палітычнай прыналежнасці, у Сафійскім саборы кнігі былі, прычым вельмі рэдкія. У 60-я гады XIX ст. менавіта ў Полацку, менавіта ў полацкім Сафійскім саборы, быў адкрыты рукапісны кодэкс XV ст. з некалькімі вельмі вядомымі летапісамі — летапісам Аўрамкі, віленскім летапісам. Гэтыя помнікі ўваходзілі ў склад знойдзенага рукапісу. Зараз ён захоўваецца ў Вільні ў былой публічнай бібліятэцы», — пракаментаваў В. Варонін.

### БІБЛІЯТЭКА І ЕФРАСІННЯ

— Архітэктура полацкага Сафійскага сабора можа расказаць пра гісторыю ўсёй дзяржавы, — адзначае дырэктар Нацыянальнага Полацкага гісторыка-культурнага музея-запаведніка, кандыдат культуралогіі Тамара Джумантаева. — Захавалася з XI ст. даволі шмат: фундамент і сцены на 8 і 12 м у вышыню. Дзе ж знаходзілася бібліятэка Сафійскага сабора? Хоры размяшчаліся прыблізна на вышыні 7,5 метра. Дзесьці на харах і была бібліятэка (і, пэўна, тая самая ефрасіннеўская келля-«галубец»). Падлога павінна была захавацца, па крайняй меры ўзровень, і нават на заходняй сцяне. Паколькі кніжнікам называлі Ізяслава, то можна ўявіць, якая ўжо была бібліятэка пры Усяславе…

Гісторыка-культурную спадчыну Полацка змераць немагчыма, упэўнена Тамара Аляксандраўна, яе можна прыраўняць да месцазнаходжанняў нафты, алмазаў і г. д. Таму сёння музеефіцыруецца не якаясьці асобная падзея, не асобны век, а культурная прастора горада.

— На будаўніцтве Сафійскага сабора — самай першай каменнай пабудовы — практыкаваліся і нашы, полацкія, і, верагодна, запрошаныя майстры з Балканскага паўвострава, — працягвае Тамара Джумантаева. — Пабудаваўшы за 5 гадоў гэты агромністы куб у 26 м 40 см з рабром, далі старт узвядзенню іншых храмаў.

Пасля сабора пабудавана Спаская царква. Даследуецца да сённяшняга дня, і надзвычай актыўна. Адзін з самых аўтарытэтных мастацтвазнаўцаў У. Д. Сараб'янаў піша, што фрэскавая праграма Спаскай царквы падрыхтавана самой Ефрасінняй Полацкай. Праграму Ефрасіння зрабіла патранальнай, распавядае Тамара Джумантаева: там у асноўным напісаны святыя, чые імёны насілі яе сваякі. Адкуль Ефрасіння магла ведаць тонкасці, як што павінна было выглядаць (расказаць хтосьці на пальцах наўрад ці мог)? «Запрошаныя мастакі дапамагчы маглі, але хутчэй за ўсё ў бібліятэцы была вялікая колькасць кніг з выявамі, малюнкамі, мініяцюрамі, — разважае Тамара Джумантаева, — таму што шматлікія роспісы XII ст. адназначна кніжныя. У. Д. Сараб'янаў у сваіх артыкулах праводзіць аналогіі, з якой кнігі што магло быць узята. Таму вельмі верагодна, што Ефрасіння праштудзіравала ўсю бібліятэку, сур'ёзна падрыхтавалася да роспісу храма (ён быў распісаны пры яе жыцці). Так што праграма, якую Ефрасіння прыдумала даволі ў сціслы час, была заснавана адназначна на мініяцюрах з кніг бібліятэкі полацкага Сафійскага сабора».

**Наталля СВЯТЛОВА.**

**Фота прадастаўлена Нацыянальнай бібліятэкай Беларусі**

# ПРА МАСТАЦТВА, МАСТАЦТВАЗНАЎСТВА І МАСТАЦКУЮ КРЫТЫКУ



Мастацтва заўсёды, пачынаючы з першых крокаў свайго існавання, было ў цэнтры ўвагі чалавечай свядомасці. Спачатку проста, прымітыўна, на неўсвядомленай аснове, потым — усё больш уважліва і грунтоўна.

Прычына такіх паводзін высвятляецца даволі лёгка: нішто ў свеце не аказвае такі моцны ўплыў на развіццё чалавечай асобы, як **мастацтва**, прычым, гаворачы навуковай моваю, цэласны ўплыў. Гэта значыць, што мастацкі твор уздзейнічае адначасова і на розум, і на пачуцці.

Да пачатку XXI стагоддзя эстэтыка (як філасофская навука аб прыгожым і мастацтве) выявіла галоўныя каштоўнасці, якія дае мастацтва чалавеку, як ужо гаварылася, у цэласным стане. Сярод іх — пазнанне свету, таму што, дзякуючы мастацтву, чалавек пазнае прыроду, навакольны свет і самога сябе. Мастацтва цесна звязана і са светапогляднымі ўстаноўкамі людзей і, зразумела, адлюстроўвае жыццё соцыуму (у гэтым і заключаецца сутнасць сацыяльнай функцыі мастацтва). Паколькі мастацтва ўяўляе сабою велізарнае люстэрка чалавечага быцця, то, зразумела, яно здольнае адлюстроўваць патрэбы і інтарэсы асобных слаёў грамадства і сацыяльна-культурны кантэкст часу. І ў сувязі з гэтым мастацтва часцяком зазнае такія дэфармацыі, што можа страціць галоўную сваю асаблівасць — мастацкасць. І, зразумела, у мастацтве заўсёды рэалізуецца маральная функцыя (якую сучасныя канцэптуалісты ад постмадэрнізму адхіляюць!). А, між тым, Л. М. Талстой лічыў менавіта гэтую функцыю галоўнай функцыяй мастацтва. Ён сцвярджаў, што мастацтва павінна перадаваць людзям «вышэйшыя і лепшыя» пачуцці. І менавіта такімі вялікаму класіку літаратуры ўяўляліся пачуцці маральныя.

Звернемся да эстэтычнай функцыі мастацтва, найгалоўнейшай з усіх іншых. Таму, што ўзровень эстэтычных каштоўнасцей у выніку вызначае ўзровень мастацкасці твора, які прэтэндуе на тое, каб называцца мастацкім. Гэтая, даволі простая па мысленні, але даволі складаная па выкананні, ідэя дзесяцігоддзямі ігнаравалася ў савецкі час. І сёння можна налічыць зашмат мастакоў, якія звяртаюць увагу на змест (як след, ідэалагічна акрэслены!) альбо на асобную форму твора, нягледзячы на тое, што такі падыход спараджае эстэтычны разлад. Да таго ж, цягам вякоў выявілася яшчэ адна важная заканамернасць мастацтва: эстэтычная значнасць сапраўднага твора мастацтва толькі ўзрастае (лірыка Рільке, Ахматавай, Ясеніна, Багдановіча, Сафійскі сабор, жывапіс Леанарда да Вінчы і Мікеланджэла, музыка Моцарта і Бетховена і яшчэ сотні шэдэўраў нацыянальнай і сусветнай культуры). Аднак дзеля таго, каб твор мастацтва ўвайшоў у культуру, трэба перш за ўсё, каб ён замацаваўся ў грамадскай свядомасці. Гэта азначае, што ён павінен прайсці часам няпросты шлях успрымання і адпаведнай мастацкай ацэнкі, якая і застанецца (замацоўваецца) у свядомасці сучаснікаў, а потым і наступных пакаленняў людзей.

Мастацкая ацэнка — як бы канчатковы вынік усёй складанай структуры мастацкай культуры, пачынаючы ад стварэння твораў і ўключаючы працэсы яго ўспрымання масавым рэцыпіентам мастацтва (чытачом, гледачом, слухачом). Усе гэтыя працэсы, як лёгка здагадацца, звышскладаныя і змяшчаюць цэлы клубок заканамернасцей. Гэта ў поўнай меры тычыцца і апошняга звяна магутнага будынка мастацкай культуры — працэсу мастацкага ацэньвання. І тут ужо ў XVIII стагоддзі мы знаходзім два інстытуты: навуку аб мастацтве і мастацкую крытыку. Праўда, як ні дзіўна, **навука аб мастацтве** — мастацтвазнаўства — з'явілася пазней, чым мастацкая крытыка. Вядомы расійскі мастацтвазнаўца Т. Ільіна лічыць, што з'яўленне еўрапейскага мастацтвазнаўства неабходна весці з 1915 года, калі з'явілася знакамітая праца Генрыха Велфліна «Асноўныя паняцці гісторыі мастацтва». Існуе і іншы пункт гледжання: большасць мастацтвазнаўцаў лічаць родапачынальнікам гісторыі мастацтва Джорджа Вазары, які ў сярэдзіне XVI стагоддзя стварыў фундаментальную працу, прысвечаную жыццяпісу найбольш знакамітых мастакоў старажытнасці. Безумоўна, унеслі ўклад у мастацтвазнаўства і іншыя вялікія лідары Адраджэння, асабліва Л. Б. Альберці і Леанарда да Вінчы.

Але мастацтвазнаўства доўгі час аніяк не магло стварыць уласную метадалогію. Гэтаму, на наш погляд, былі дзве галоўныя прычыны. Першая — дамінаванне ў даследаваннях па мастацтве гісторыка-культуралагічнага падыходу, які з эпохі Адраджэння і да канца XX стагоддзя быў вызначальны. І хоць ён даваў вялікую фактаграфію (што само па сабе каштоўна), але як след не суправаджаўся якасным абагульненнем (што назіраецца і ў пераважнай часткі сучасных работ па мастацтвазнаўстве).

Другой важнай прычынай можна лічыць слабую распрацаванасць праблематыкі агульнай тэорыі мастацтва, яе ў гэтай якасці, як вядома, заўсёды (пачынаючы з XVIII ст. на дакладна навуковым узроўні) замяняла эстэтыка, што, у лепшых выпадках, здараецца і ў наш час. Нездарма адна з апошніх работ выдатнага савецкага эстэтыка і мастацтвазнаўца А. Я. Зіся мела назву «На подступах да агульнай тэорыі мастацтва» (М., 1995). Усе гэтыя недахопы ўласцівыя і сучаснаму беларускаму мастацтвазнаўству. Але, як ні дзіўна, беларускае мастацтвазнаўства зрабіла ў апошнія 10 год некалькі крокаў наперад. Трэба памятаць, што яно з'явілася ў сістэмным выглядзе адносна нядаўна — напрыканцы 50-х гадоў XX стагоддзя. Менавіта тады намаганнямі знакамітага тэатразнаўцы, доктара мастацтвазнаўства У. І. Няфеда і акадэміка П. Ф. Глебкі сектар мастацтваў у Акадэміі навук БССР ператварыўся ў Інстытут мастацтвазнаўства, этнаграфіі і фальклору. Ён уключаў 4 сектары, два з якіх — тэатра, музыкі і кіно ды архітэктуры і выяўленчага мастацтва — непасрэдна займаліся мастацтвазнаўчымі даследаваннямі (некаторы час пазней былі створаны і асобны сектар музычнага мастацтва). Да 70-х — 80-х гадоў (вышэйшага росквіту савецкай навукі!) узгадаваліся і сталі вядомымі на прасторы СССР тэатразнаўца Г. Барышаў, кіназнаўцы А. Красінскі і В. Нячай, музыказнаўца і эстэтык А. Б. Ладыгіна, даследчык выяўленчага мастацтва Л. Н. Дробаў, выбітны гісторык тэатра А. В. Сабалеўскі і інш. Аднак папаўненне мастацтвазнаўцаў ішло даволі марудна. І толькі з атрыманнем незалежнасці паўстала новая хваля кагорты мастацтвазнаўцаў. Дзякуючы намаганням такіх лідараў мастацтвазнаўчага пошуку, як А. І. Лакотка (архітэктура), В. І. Жук (выяўленчае мастацтва), Р. Б. Смольскі (тэатразнаўства), быў пракладзены шлях да навукі аб мастацтве новаму пакаленню; і цяпер (практычна з пачатку XXI стагоддзя) мы маем даволі шырокую колькасць навукоўцаў. Асобна трэба адзначыць, што многія з даследчыкаў, якія абаранілі ў апошнія дзесяцігоддзе кандыдацкія дысертацыі, маюць даволі высокі навуковы патэнцыял.

Іншая справа, калі размова тычыцца такога своеасаблівага феномена культуры, якой з'яўляецца **мастацкая крытыка**. Прырода мастацкай крытыкі вельмі складаная. Яна абапіраецца на філасофскае паняцце крытыцызму (найбольш моцна распрацаванае ў філасофска-эстэтычнай дактрыне І. Канта).

Мастацкая крытыка ў спантаннай форме існавала са старажытных часоў, але як сацыяльна-культурны феномен яна вызначылася ў XVIII стагоддзі — у эпоху Асветніцтва, і выбітныя тэарэтыкі мастацтва У. Хогарт, Д. Рэйнальдс (Англія), Д. Дзідро (Францыя), І. Вінкельман і К.-Г. Э. Лесінг (Германія) адначасова выступілі ў якасці мастацкіх крытыкаў. Асабліва для гісторыі мастацкай крытыкі важныя такія творы, як «Салоны» Дзідро і «Гамбургская драматургія» Лесінга.

Для ўсходніх славян росквіт мастацкай крытыкі прыйшоўся на XIX стагоддзе. Зразумела, спачатку дамінавала літаратурная крытыка (В. Бялінскі, М. Дабралюбаў, Д. Пісараў), але напрыканцы стагоддзя ў асобе В. Стасава і В. Дарашэвіча пра сабе заявіла на высокім узроўні і мастацтвазнаўчая крытыка.

У Беларусі мастацкая крытыка таксама прайшла ўсе цыклы эвалюцыйнага развіцця. З пачатку XX стагоддзя яна праявіла сябе перш за ўсё ў літаратуры (асабліва трэба адзначыць гэтую частку творчасці геніяльнага Максіма Багдановіча), потым, дзякуючы намаганням Інбелкульта і створанай пазней АН БССР, з'явілася, абапіраючыся на мастацтвазнаўства (тут варта ўспомніць фундаментальныя працы М. Шчакаціхіна, зробленыя перад Вялікай Айчыннай), і мастацкая крытыка. Зразумела, у ёй спачатку існавала істотная хіба: яна была прасякнута ідэалогіяй, але пераважна выконвала дзве асноўныя функцыі. Калі наконт прыроды мастацкай крытыкі заўсёды існавалі розныя інтэрпрэтацыі (адны тэарэтыкі атаясамлівалі яе з навукай аб мастацтве, другія — з самой мастацкай творчасцю, трэція — з публіцыстыкай), то ў плане функцыянальнага прызначэння мастацкай крытыкі такога разыходжання не назіралася. Функцыянальная сутнасць мастацкай крытыкі мае дваістую прыроду. Яна накіравана на: 1) развіццё мастацкіх густаў публікі (у сучасным тлумачэнні масавага рэцыпіента мастацтва); 2) развіццё самога мастацтва.

Аўтар гэтых радкоў, які ўвайшоў у беларускую мастацкую крытыку ў 60-я гады, можа сведчыць: беларуская мастацкая крытыка 2-й паловы XX стагоддзя годна выконвала свае функцыі. Імёны выдатных крытыкаў — С. Бярозкіна, В. Бечыка, Н. Пашкевіча (літаратура), Г. Коласа, Б. Бур'яна (тэатр), Е. Бондаравай, Н. Фральцовай (кіно), У. Чантурыі (архітэктура) і іншых — былі ва ўсіх на вуснах.

Кожнае выданне мела аддзелы культуры; пры іх абавязкова існавалі цэлыя групы крытыкаў. Дзякуючы іх працы беларуская сталіца ператварылася за 60 — 80-я гады ў сапраўдны цэнтр культуры.

Але сёння гэтая карціна выглядае нейкай лакіроўкай. На адным з апошніх пасяджэнняў сталічнай тэатральнай грамадскасці (у рэчышчы «ТЭАРТу», што распачаўся ў верасні) народны артыст М. Кірычэнка ў абурэнні ўсклікнуў: «Дзе цяпер мастацкая крытыка? Яе наогул няма». Народны артыст распавёў, як нецярпліва калісьці чакалі творцы новага спектакля рэцэнзіі на яго, як, дачакаўшыся, перадавалі з рук у рукі газету альбо часопіс, доўга абмяркоўвалі напісанае... Але ў пачатку 90-х, калі была зламаная старая сацыяльна-культурная сістэма, усё істотна змянілася. У разломе неяк страцілася мастацкая крытыка. Некаторым творцам гэта нават падабалася. Асобныя рэжысёры адразу пачалі арыентавацца на густы масавага гледача. Не трэба падкрэсліваць, што гэтыя густы былі невысокія: глядач патрабаваў лёгкую камедыю, эротыку на сцене (і ў кіно), звяртаў увагу на асобныя эфекты.

Праз дзесяцігоддзе гэта прайшло. Глядач зноў пацягнуўся ў залы тэатра і кіно, на выстаўкі за тым, што дае сапраўднае мастацтва: адчуць рытм жыцця, яго сэнс, атрымаць асалоду ад эстэтычных каштоўнасцей, якія нясе мастацтва. Ды і творцы (уключаючы тых самых рэжысёраў) адчулі, што без якаснай ацэнкі іх творы як бы і не існуюць.

Аднак і сацыяльна-культурная сітуацыя адносна савецкіх часоў кардынальна змянілася. Ва ўмовах інфармацыйнай эпохі, калі кожны можа выказацца праз інтэрнэт, слова спецыялістаў пра мастацтва не займае авангардных пазіцый, тоне ў масавых водгуках.

У тых жа рэдакцыях фінансавы фактар дыктуе звужаць кола аўтараў. Як след пра тэатр, напрыклад, можа пісаць супрацоўнік рэдакцыі, які ўчора пісаў пра футбол, а пазаўчора — пра сельскагаспадарчую прадукцыю. Тым больш што ва ўмовах панжурналізму, які пануе сёння, знаходзяцца тэарэтыкі, якія праклямуюць «мастацкую крытыку новага часу», уключаючы яе ў сістэму публіцыстыкі такім чынам, што амаль зусім страчваюцца асноўныя жанры крытыкі — рэцэнзія і аналітычны артыкул. Менавіта тыя жанры, дзе крытыка рэалізуе сваю галоўную прыладу вытворчасці — сістэму ацэньвання. А менавіта дзякуючы якаснаму ацэньванню мастацкая крытыка вызначае і сцвярджае (а часам — адхіляе) мастацкія каштоўнасці, якія мае твор мастацтва, сувымярае гэтыя каштоўнасці з цячэннем усяго мастацкага працэсу, фарміруе на іх аснове мастацкі густ масавага рэцыпіента мастацтва. І ў гэтым плане мастацкай крытыцы, як спецыфічнаму феномену культуры, асабліваму вобразу мыслення і дзеяння, а таксама асобнай галіне чалавечай творчасці, «звышзадачай» якой застаецца ўдасканаленне мастацтва і духоўнага пачатку ў чалавеку, замены няма (разважанні пра літаратурную, кіна-, тэатральную журналістыку ў якасці замены мастацкай крытыцы падаюцца неабгрунтаванымі).

Нікому ў свеце яшчэ не ўдалося адмяніць існаванне мастацтва. Таксама ніхто не можа адмяніць мастацкую крытыку, якая спалучае мастацтва і чалавека ў іх лепшым выразе.

**Вадзім САЛЕЕЎ,**
**доктар філасофскіх навук,**
**мастацкі крытык**

# Энергія сінтэзу

**Як аб'яднаць выяўленчае мастацтва, музыку, паэзію і відэаэкспанаты ў адным мастацкім праекце? Гэта прадэманстравалі мастакі і музыканты Фрыдрых Міхельсон і Павел Сідаровіч у выставачным праекце «Нобіс» у мастацкай галерэі TUT.BY.**

Сінтэз мастацкіх кампанентаў уздзейнічае, безумоўна, мацней, чым проста жывапіс, музыка альбо паэзія паасобку: няма магчымасці адцягвацца на староннія рэчы, паглыбляцца ў асабістыя думкі. Тут чалавек цалкам у палоне мастацтва, дзе ёсць толькі сімвалы, гукі, творчыя загадкі, якія трэба звязаць у адну тэму.

Творчы тандэм Фрыдрыха Міхельсона і Паўла Сідаровіча ўдала сумяшчае мастацкія кірункі. У кожнага — асабістая канцэпцыя. Але, нягледзячы на гэта, тэматыка твораў пераклікаецца, яны нібы асобныя пазлы маштабнай карціны. Напрыклад, Павел Сідаровіч дэманструе серыю графічных работ, дэталёва разбіраючы тэму нараджэння мелодыі, а Фрыдрых Міхельсон прадстаўляе каларытныя мастацкія творы, аб'яднаныя ў асобны праект «Салат», які закранае таксама тэму нараджэння, толькі ўжо прыроды. Усе творчыя пошукі падмацоўваюцца музычна-паэтычнай праграмай, дзе аўтары разважаюць над тым, як пабытавы аспект уздзейнічае на станаўленне адносін людзей, на іх патрэбы да наваколля. Па сутнасці, у адной арт-прасторы адбываецца паглыбленне ў жыццё людзей, якія кожную дэталь, працэс, адлюстраваны ў творчасці, перажылі, адчулі на ўласным досведзе.

Беларускі мастацтвазнаўца, арт-крытык Таццяна Бембель адзначыла, што праекты, якія змяшчаюць у сабе адразу шэраг творчых пошукаў, і ёсць стыль, сучасная тэндэнцыя мастацкай рэалізацыі маладога пакалення:

— Такія маладыя людзі, як Фрыдрых Міхельсон і Павел Сідаровіч, робяць толькі тое, што ім захочацца ў дадзены час. Нельга не адзначыць, што стыль іх жыцця ў рэальнасці абсалютна адпавядае таму, пра што яны кажуць у творчых работах. Яны паўстаюць перад іншымі без масак — такімі, якія ёсць. І так адбываецца практычна з усімі маладымі творцамі, якія пачынаюць капацца ў глыбіні свайго існавання. Галоўнае — не вешаць на маладое мастацтва цэтлікі і не думаць, што яно трывіяльнае. Яго каштоўнасць заключаецца ў тым, што кожны арт-жэст — вынік чарады падзей. Маладыя мастакі цікавяцца жыццём і асабістыя пошукі



*Выступленне гурта «Белавежская пушча» на адкрыцці выстаўкі «Нобіс».*



*Фрыдрых Міхельсон «Бярозавы гай».*

імкнуцца адлюстраваць усюды. Трэба ўлічваць і пакаленне: не чакаць ад яго класічнага або традыцыйнага падыходу, да якога прывыкаеш і потым, з пункту гледжання гледача, спрабуеш знайсці ў кожным штрыху. Гэтыя людзі злучаюць відэа, музыку, мастацтва і паэзію гэтак жа, як думаюць, будуюць побыт, для іх усё непадзельна. У сучаснага пакалення творцаў асабістая філасофская скіраванасць, якая і вызначае месца ў соцыуме. Ёсць у такіх маладых людзях важкая якасць: яны не зацыкленыя на рэчах, якія сёння так часта піяраць: паспяховасць або кар'ера. Яны разумеюць штосьці пра жыццё — адразу ж пішуць песню, малююць карціну і ідуць далей. Для іх жыццё і яго разуменне ёсць матывацыя да творчасці. Цікава, што ў маладым мастацтве практычна не назіраецца жадання аўтараў быць вельмі моднымі, сучаснымі для гледача. Яны думаюць пра сур'ёзныя рэчы, часам нават сумныя, але не адлюстроўваюць нейкую мяртвотнасць, а думкі выносяць на больш высокі эстэтычны ўзровень. Сёння маладое творчае пакаленне вельмі спантаннае. Часам мы, сфарміраваныя, дарослыя, гэтаму зайздросцім, бо не можам дазволіць сабе больш, таму што чамусьці лічым, што за такую свабоду самавыяўлення трэба шмат заплаціць.

Прааналізаваўшы словы Таццяны Бембель, можна зразумець, што тэндэнцыя зборнага сінтэзу ў мастацтве — не столькі трэнд, колькі магчымасць прадставіць сябе рознабакова, бо тут адбываецца наслаенне кампанентаў: малюнак падмацоўваецца словам, слова — мелодыяй, а мелодыя — відэаэкспанатамі і гэтак далей. Такі сінтэз цікавы не толькі маладым, ён уздзейнічае на эмоцыі, кожнага чалавека можа «зачапіць» нейкая свая тэма.

# Спантанная сустрэча

**Сустрэча выпускнікоў не ў рэстаране, ні нават у боўлінгу, а ў выставачнай прасторы Мастацкай галерэі Міхаіла Савіцкага… Менавіта так вырашылі адзначыць сорак год выпуску з Беларускай дзяржаўнай акадэміі мастацтваў мастакі Анатоль Кузняцоў, Надзея Лівенцава, Вітольд Бархаткоў, Вячаслаў Рускевіч і скульптар Карней Аляксееў. Творцы аб'ядналіся і арганізавалі агульную выстаўку жывапісу і скульптуры, якую так і назвалі — «Сустрэча выпускнікоў».**



*Надзея Лівенцава «Сон матухны Марфы. Партрэт мастачкі Вольгі Матвеевай», 2014 г.*

У мастацкі блок Вячаслава Рускевіча ўваходзіць партрэтны жывапіс. Больш як трыццаць год ён старанна адточвае майстэрства, імкнецца вобраз чалавека на палатне перадаваць дакладна. Сярод яго герояў такія знакамітыя асобы, як Леанід Шчамялёў, Альгерд Мілашэўскі, Лада Шчасная… Творца любіць адлюстроўваць настрой чалавека праз інтэр'еры, і, дарэчы, у яго гэта добра атрымліваецца. А работы скульптара Карнея Аляксеева ўпрыгожваюць вуліцы Магілёва і Бабруйска. Скульптар працуе ў традыцыйнай і авангарднай манеры. Вялікую павагу аддае жанчынам, яны для мастака — вобразы вечнасці, натхнення, гармоніі. Карней Аляксееў тонка адчувае вытанчанасць хваляў, ніколі не робіць іх грубымі, цяжкімі, кажа, што калі ў жанчыны нават не будзе лёгкасці ў жыцці, то хай яна ўбачыць яе ў скульптуры.

Экспазіцыя нагадвае сямейны альбом: самыя розныя напрацоўкі мастакоў, зробленыя як у ранейшыя, так і сённяшнія часы, адлюстроўваюць моманты, якія хвалююць іх памяць. Тут партрэты, абстрактныя і рэалістычныя работы, неверагодна вытанчаныя скульптуры аб'ядналіся ў «сямейны архіў» людзей, якія сорак год таму з дня ў дзень вучыліся разам лавіць натхненне і ўспрымаць мастацтва. Толькі яны ўжо не студэнты, а сталыя мастакі, кожны са сваім поглядам на творчасць. Дарэчы, такі фармат выстаўкі ў Беларусі адбыўся ўпершыню: бо гэта не проста выпускнікі Акадэміі мастацтваў, а аднакурснікі.



*Карней Аляксееў «Малітва», 1994 г.*

Мастачка Надзея Лівенцава калісьці вучылася ў народнага мастака Беларусі Леаніда Шчамялёва, ад яго і пераняла манеру вывучаць псіхалогію чалавека перад тым, як пераносіць вобраз на палатно. Яе партрэты — спалучэнне біблейскіх матываў, мудрасці і жаноцкай пяшчотнасці. Аўтарскі почырк і індывідуальны стыль заўважны няўзброеным вокам. Ад работ вее лёгкасцю, спакоем. А мастак Анатоль Кузняцоў называе ўласную творчасць беспрадметнай, альбо абстрактным імпрэсіянізмам. Выбраў гэты напрамак, таму што жадаў абстрагавацца ад часавых меж і ўздзеяння прасторы на мастацкую задуму. Для яго галоўнае — хвалі і колеравае вырашэнне, якія ў абстракцыі — знакі, што вядуць да мастацкай ідэі.

Творы мастака Вітольда Бархаткова прадстаўлены толькі з перыяду ранейшых часоў. Тады прадстаўнік знакамітай мастацкай дынастыі быў прыхільнікам імпрэсіянізму. Больш за дваццаць гадоў ён жыве ў Амерыцы, а паколькі там і менталітэт, і патрабаванні да мастацтва іншыя, прыйшлося шукаць новых шляхоў, паглыбляцца ў амерыканскую сістэму. Сёння мастак больш звязаны з камерцыйным жывапісам. Яго карціны, прадстаўленыя ў экспазіцыі, — цікавае пранікненне за вокны, дзверы людскіх дамоў, аздобленыя россыпам каляровых плям, якія надаюць работам жывую фактуру, цяпло.

Выстаўка прываблівае шматграннасцю ідэй.

**Матэрыялы паласы падрыхтавала Вікторыя АСКЕРА**

# «БЕЛАЯ ВЕЖА» ЯК СІСТЭМА КААРДЫНАТ

**Рэальны прадмет, патрапіўшы пад святло сафітаў, значыць заўсёды больш, чым задумваў рэжысёр. Такі тэатральны закон. Так і Белая Вежа,ператвараючыся ў назву тэатральнага фестывалю, выклікае не толькі геаграфічныя асацыяцыі, але і метафарычныя. Становіцца той самай слыннай вежай са слановай косці, куды часам прагне схавацца ад прозы жыцця мастак. Цэнтрам сістэмы каардынат, кропкай адліку, якая дазваляе вызначыць яго месцазнаходжанне і зразумець вектар руху. З 9 па 16 верасня на XXI Міжнародным тэатральным фестывалі «Белая Вежа» шукалі каардынаты 25 тэатраў з 16 краін свету.**



Сцэна са спектакля «Ноч перад Калядамі».

## БРЭСТ — ГОРАД КАНТРАСТАЎ

Фестывальная праграма паказала, што стратэгіі мыслення рэжысёраў адносна сацыяльнасці тэатральнага мастацтва дыяметральна супрацьлеглыя. «Чайка» Львоўскага акадэмічнага тэатра «Уваскрэсенне», прызнаная экспертным саветам лепшым спектаклем фестывалю, — гэта хутчэй у добрым сэнсе высвятленне адносін рэжысёра Яраслава Федарышына са славутым тэкстам Чэхава, з Чэхавым як драматургам, чым рэакцыя на павестку дня. Федарышын увасабляе «Чайку» на адкрытым паветры, у вулічным спектаклі, адначасова адпавядае канонам жанру і парушае некаторыя з іх. Рэжысёр адмаўляецца ад тэксту, пакідаючы сэнсавыя межы толькі назвай і некалькімі добра вядомымі рэплікамі, што праецыруюцца на экран. Астатняе — фантазія на чэхаўскія матывы. Часам сцэны п'есы ў ёй досыць пазнавальныя (напрыклад, трыумфальнае з'яўленне Аркадзінай). Часам гэта толькі настрой, уяўленне пра персанажа, падкрэсліванне асноўных рыс яго характару (напрыклад, сцэна з Трыгорыным, што парыцца ў лазні ў атачэнні дзяўчат). Федарышын стварае шматсэнсоўную вулічную містэрыю, якая зацікавіць і тых, хто ніколі не чытаў чэхаўскай «Чайкі». Аднак абавязкова спыніцца пасярод вуліцы, каб пабачыць людзей на хадулях, вогненныя крылы, вялізныя драўляныя шкілеты невядомых істот. Для тых жа, хто добра знаёмы з п'есай, «Чайка» стане падарожжам у свет разгаданых і неразгаданых метафар ды асацыяцый. І, нягледзячы на зварот да эстэтыкі вулічнага тэатра, падчас абмеркавання Яраслаў Федарышын падкрэсліў, што сацыяльнасць тэатра — не яго прыярытэт.



Сцэна са спектакля «Чайка».

Літоўскі рэжысёр Ёнас Вайткус, наадварот, другі раз звяртаецца да вострага сучаснага тэксту Ганны Яблонскай «Паганцы». Увасобіўшы складаную п'есу пра багоў, у якіх верыць і не верыць сучасны чалавек, на сцэне Рускага драматычнага тэатра Літвы праз некалькі гадоў Вайткус зноў ставіць яе ў Дзяржаўным акадэмічным рускім тэатры драмы імя М. Горкага (Астана, Казахстан). Рознасць і арыгінальнасць рэжысёрскіх рашэнняў сведчаць, што гэта не спроба пераносу, а спроба пошуку ключоў да сучаснай драматургіі. Сёлета на «Белай Вежы» быў паказаны казахскі варыянт «Паганцаў», а актрыса Паліна Харламава за роль Хрысціны была ўзнагароджана ў намінацыі «Лепшая жаночая роля».

У чорным кабінеце сцэны толькі шэраг крэслаў ды некалькі прадметаў: флейта, паганская маска, чырвонае яйка — сімвалы веры пэўных герояў. Артысты займаюць крэслы і прамаўляюць тэкст з заплюшчанымі вачыма: удзельнікаў сцэны падсвечвае прамень. Рэжысёр нібы задаецца пытаннем: ці не сляпыя мы ў сваёй веры? Але не дае страціць надзею і свае фінальныя маналогі Хрысціна, што засталася жыць пасля спробы самагубства; яе бацька і маці, якія разышліся, але нарэшце сталі шчаслівымі людзьмі, прамаўляюць з расплюшчанымі вачыма.

## МОНА І СТЭРЭА

Выбітныя асобы з няпростым лёсам заўсёды траплялі ў фокус увагі творцаў, якія намагаліся зразумець матывы тых ці іншых учынкаў, адчуць душэўны стан куміраў падчас пэўных падзей. У наш час, калі дакументальнае і мастацкае нанова дзеляць межы ў кіно і тэатры, выяўленчым мастацтве і літаратуры, творы на падставе біяграфій набываюць асаблівую актуальнасць. Пацвярджэннем гэтаму можа стаць і той факт, што большасць монаспектакляў, прадстаўленых на «Белай Вежы», знаёмілі гледачоў з гісторыямі вядомых і загадкавых. Піп Утан (Тэатральная кампанія Піпа Утана, Вялікабрытанія), сярод біяграфічных даследаванняў якога такі адыёзны персанаж, як Гітлер і жалезная лэдзі Маргарэт Тэтчэр, выйшаў на фестывальную сцэну ў ролі Чарлі Чапліна на сконе гадоў. Нібыта ў люстраным калідоры Утан, накладаючы перад гледачамі знакаміты грым, намагаўся высвеціць, як адчувае сябе чалавек, што прыкаваны да вядомага ўсім вобраза, створанага ім самім? І, дарэчы, выканаўца быў адзначаны ў намінацыі «Лепшая мужчынская роля».

Таксама ў фокус монабіяграфічных даследаванняў патрапіла асоба святой юродзівай Ксеніі Пецярбургскай. Фактаў пра святую да нашага часу дайшло досыць мала, і тэатр «Чэрава» з Польшчы паспрабаваў зрабіць рэканструкцыю таго памежнага моманту жыцця Ксеніі, калі, даведаўшыся пра смерць мужа, яна фактычна пахавала сябе, апрануўшыся ў адзенне мужа і сцвярджаючы, што ён жывы, а Ксенія памерла. Спектакль — гэта спроба зафіксаваць той першы крок на цяжкі шлях юродства, каб уяўным вар'яцтвам выкрыць сапраўднае вар'яцтва свету. Дарэчы, пастаноўка створана ў капрадукцыі: музыку, якая фактычна вядзе гераіню, напісаў беларускі кампазітар Ягор Забелаў.

Стваральніца монаспектакля «Рудольф Нурыеў. 48 гадзін» Іна Сакалова-Гардон і выканаўца Андрэй Машой паспрабавалі рэканструяваць 48 гадзін з жыцця Рудольфа Нурыева. Той кароткі тэрмін, на які танцоўшчыку дазволілі вярнуцца ў СССР, каб развітацца з маці перад яе смерцю. У метафарычнай сцэнаграфіі, калі з балетных станкоў узнікалі якія заўгодна прадметы, перад гледачом паступова праяўляўся вобраз наўрымслівага велічнага Нурыева.

Пабачыўшы праявы сацыяльнага, біяграфічнага тэатра на фестывалі, можна з упэўненасцю сцвярджаць, што так далёка ад вежы са слановай косці, як Вайткус, здаецца, не адышоў больш ніхто. І гэта не значыць, што рэжысёры не браліся за вострыя тэмы. Рэжысёр Ежы Зонь увасобіў у польскім тэатры КТО раман французскага пісьменніка Гі Крусі «Валошкі» — гісторыю сірочага прытулку. Але форма перамагла тэму. Адзін дзень існавання сірот быў упісаны ў межы III Сімфоніі Хенрыка Мікалая Гурэцкага. Акцёрская партытура была літаральна па секундах распісаная згодна з музычнай: 3 хвіліны 30 секунд цягнецца мініяцюра «Харчаванне»; 2 хвіліны 30 секунд — «Вайна»; 1 хвіліна 32 секунды — «Рух да Сонца — фінал». Акцёры ў вобразах сірот і выхавальніц пазбаўлены слоў. Гісторыя чалавечай адзіноты паўстае перад намі дзякуючы складанаму пластычнаму малюнку. Гарманічнае спалучэнне пластыкі і музыкі ў спектаклі «Хор сірот» было адзначана экспертным саветам фестывалю: Ежы Зонь уганараваны дыпломам за лепшую рэжысуру.

## МЫ АБАВЯЗКОВА СУСТРЭНЕМСЯ

Адметнасцю «Белай Вежы-2016» стала тое, што ў гонар 25-годдзя стварэння Садружнасці Незалежных Дзяржаў фестываль імкнуўся як мага больш шырока прадставіць тэатры краін СНД. Падзеяй стаў прыезд на фестываль Дзяржаўнага рускага драматычнага тэатра імя А. С. Пушкіна з Ашхабада (Туркменістан). Спектакль «Мы абавязкова сустрэнемся…» паводле аповесці Атаджана Тагана «Чужы», дзякуючы сюжэту, адметны прэзентатыўнасцю. Разам з галоўным героем — пленным французам — гледачы натуральным чынам знаёмяцца са звычаямі далёкай краіны. Увогуле, «Мы абавязкова сустрэнемся…» — гэта сумесь парадная эстэтыкі, асобных узораў савецкага тэатра сярэдзіны XX стагоддзя (напрыклад, канфлікт лепшага і добрага) і пэўнага інсіту. Першы паказ туркменскага тэатра ў суверэннай Беларусі быў адзначаны спецыяльным прызам «За яркі дэбют на фестывалі "Белая Вежа"». Яшчэ адным спецыяльным прызам — «За відовішчнае ўвасабленне паэтычнай прытчы» — быў узнагароджаны спектакль «А ў пустыні мёртвая ціша» «Жастар тэатры» акімата горада Астаны (Казахстан), які прадставіў на фестывалі інсцэніроўку паводле твораў Чынгіза Айтматава.

Адным з самых яркіх уражанняў сярод нацыянальных спектакляў стала "Ноч перад Калядамі" Мікалая Гогаля Чарнігаўскага абласнога акадэмічнага ўкраінскага музычна-драматычнага тэатра імя Т. Г. Шаўчэнкі (рэжысёр Андрэй Бакіраў). Музычная камедыя пазбегла любых праяў «шараварнага тэатра», што набіў гледачу аскоміну. Гармонія панавала ўсюды: у спалучэнні розных інсцэніровак класічнага твора, у дуэце аскетычнай сцэнаграфіі і візуальна «цяжкіх» белых касцюмаў. У выкананні чарнігаўцаў "Ноч перад Калядамі" набыла лепшыя якасці італьянскай камедыі масак: гледачы чакалі добра знаёмых эпізодаў, каб пабачыць рэжысёрскае вырашэнне казачных трукаў (лацы). Як Салоха будзе прымаць гасцей? Як Пацюк будзе есці варэнікі? Як Чорт і Вакула паляцяць па небе? І ніводнага разу Бакіраў не расчараваў залу. Асноўная нагрузка ў музычнай камедыі традыцыйна кладзецца на характарных персанажаў, сярод якіх асабліва вызначаюцца (у тым ліку і складанасцю пластычнага малюнка ролі) Салоха (Аксана Грабянюк) і Чорт (Сяргей Пунтус). Аднак найперш «Ноч перад калядамі» заваравала ансамблевасцю. Адпаведна, і ўзнагарода ад экспертнага савета — дыплом у намінацыі «Лепшы акцёрскі ансамбль».

Такім чынам, «Белая Вежа» ў каторы раз праявіла сябе як фестываль з адной з самых дэмакратычных праграм у нашай краіне, здольнай аб'яднаць і разнажанравасць, і рознаўзроўневасць калектываў. І фестывальныя эксперыменты, і тэатральны рэпертуарны працэс. Падгадаваўшы за дваццаць гадоў тэатральную публіку, «Белая Вежа» можа спадзявацца на тое, што глядач ацэніць і разбярэцца. Аднак нельга не адзначыць і пэўныя мінусы ў фестывальнай праграме. Так, сёлета вельмі бледна выглядаў блок беларускіх спектакляў, а некалькі спектакляў агульнай праграмы выклікалі пытанні адносна адпаведнасці ўзроўню міжнароднага фестывалю. Праўда, шырокая панарама спектакляў на «Белай Вежы» з годнасцю здольная прыхаваць гэтыя хібы, выявіўшы цікавую сістэму каардынат, дзе нанова перастрайваюцца межы сацыяльнага, нацыянальнага і мастацкага ў тэатры.



Сцэна са спектакля «Язычнікі».

**Алена МАЛЬЧЭЎСКАЯ,**
**фота Вадзіма ЯКУБЁНКА**

# За мяжой разумення

## Нацыянальны дух у маладым айчынным кінематографе



Кадр з фільма «Беларускія песні: традыцыя адлегласці» (рэж. А. Лобач).

**Беларускі кінематограф «нарадзіўся» яшчэ ў сярэдзіне 20-х гг. ХХ ст. Тады была створана кінастудыя «Беларусьфільм», знятыя першыя фільмы. Айчыннае кіно літаральна выпеставалася Тарычам, Корш-Сабліным, Гардзіным, Фігуроўскім. Мы памятаем стужкі Турава, Дабралюбава і Пташука, якія ўжо сталі народнымі. Асобнае месца займае і анімацыя Волчака, Тумелі, Кадзюковай, Кубліцкай, Пяткевіч. Тыя, хто развівае айчынны кінематограф цяпер, магчыма, гавораць на іншай кінамове і пра іншыя праблемы, але гісторыю беларускіх фільмаў працягваюць.**

### ЗВЯРНУЦЦА ДА РЭЧАІСНАСЦІ

Не так даўно фільм беларускі Вольгі Дземкі пра фальклор перамог на адным з канадскіх фестываляў, а кароткаметражку Мітрыя Сямёнава-Алейнікава «Адной крыві» паказалі ў Канах. Сучасны беларускі кінематограф разбурае межы. Нацыянальнае кіно перастае быць справай адной краіны — усё ж рэжысёры ствараюць для шырокага кола гледачоў. Але галоўнае (ці не?) тут — паказаць замежжу беларускі дух. У гэтым дапамагае і ўдзел у фестывалях кшталту таго ж *Bulbamovie* — беларускага конкурсу, які пачынаўся ў Польшчы, а працягваецца і ў Беларусі.

Але Арцём Лобач, які атрымаў «срэбную бульбу» ў 2012 годзе за дакументальны фільм «Простыя рэчы», распавядае, што кіно не павінна трансліраваць ці выяўляць нацыянальныя асаблівасці: «Нацыянальныя рысы, безумоўна, будуць праяўляцца самі сабой, але наўрад ці гэта можа стаць фокусам для дыскусій у іншай краіне. Глядач ідзе ў кіно за эмоцыямі, ён хоча ўбачыць новыя ідэі ці іншыя формы эмацыянальнага паглыблення. Беларусь па-ранейшаму краіна-загадка для многіх еўрапейцаў, і для палякаў у тым ліку».

Нягледзячы на тое, што пераносіць народны дух у стужкі зусім не абавязкова, як лічаць самі рэжысёры, але нацыянальнае «залазіць» у стужку само, нават калі яго ніхто не запрашае. Таму беларускае кіно і такое адрознае ад іншых — у фільмаў ёсць і свая нацыянальнасць.

«Каб кіно перадавала нешта гледачу, для пачатку трэба, каб глядач захацеў яго паглядзець. Калі мы імкнёмся распавесці суседзям пра Беларусь, то ставіць для кіно задачу "перадаць нацыянальны дух" — самая неканструктыўная задума. Кіно проста павінна быць цікавым і казаць пра важныя для гледача тэмы. Любы фільм, створаны сёння беларусамі ў Беларусі, прама ці ўскосна кажа пра нас. Зрэшты, ністворанае кіно кажа пра нас яшчэ больш», — адзначае рэжысёр Роберт Сенека.

Фестываляў з нацыянальным кіно з'яўляецца ўсё больш, гэтага нельга не заўважыць. Ёсць нацыянальны конкурс на «Лістападзе», *Cinema Perpetuum Mobile*, на новым фестывалі *Kinosmena*. Ёсць Bulbamovie — праект, які працуе выключна з беларускім кіно. Разнастайнасць фестываляў з айчынным кіно — гэта выдатна. Усё ж добра, калі канкурэнцыя ёсць, а вось калі яе няма — ненармальна. Пра гэта кажуць і арганізатары *Bulbamovie*: «"Вельмі шмат фестываляў" ці "замала фестываляў" — не той разлік. Ёсць іншы: фестываль працуе ці не? Хай будзе ўсё! Непатрэбнае, неэфектыўнае памрэ само. Кожны фестываль — не проста збор, але і школа гледача, выхаванне аўтараў. Чым больш фестываляў адбудзецца — тым больш дасведчаную, нагледжаную, адэкватную публіку мы атрымаем».

Якасныя, глыбокія стужкі, калі яны пра беларусаў, нават калі пра нашу рэчаіснасць, будуць цікавыя і за мяжой. Рэжысёр Алесь Лапо кажа, што «кіно, якое мела б нацыянальны адбітак — кшталту стужак Віктара Аслюка, Галіны Адамовіч, Андрэя Кудзіненкі, — будзе цікавае і за мяжой, і ў Беларусі, але трэба паруліцца пра яго прасоўванне. Нацыянальнае кіно мусіць абапірацца на беларускую мастацкую культуру і казаць пра вечныя ўніверсальныя каштоўнасці».

### ПАГЛЫБЛЯЕМСЯ Ў НЕТРЫ

Айчыннае кіно часам нагадвае падводную лодку: яно, як тая падлодка, то занырне на самае дно кінематаграфічнага акіяна, шукае там тэмы і герояў, то выплыве, каб паказаць, што ў глыбіні акіянскіх яно знайшло. Маладыя рэжысёры кажуць, што кіно — гэта жывая энергія тых, хто стужкі здымае.

«Нацыянальнае кіно, на мой погляд, пакуль яшчэ нясмела, але выходзіць з падполля. З'яўляюцца цікавыя энтузіясты, якія літаральна на каленцы робяць кіно. Нам яшчэ шмат чаму давядзецца вучыцца, але галоўнае — мы ёсць і хочам здымаць! Але, на жаль, у галаве гледача не без падстаў «засеў» стэрэатып, што калі фільм беларускі, то гэта нейкая нецікавая пасрэднасць, няўдалая камедыя або недадрама», — лічыць аўтар стужкі «Рэканструкцыя бяссонніцы» Нэла Васілеўская.

Што датычыцца стэрэатыпаў, так і ёсць. Беларускае кіно ў многіх зараз асацыюецца з вобразамі палёў, сялянскіх хат, магчыма, буслоў. Роберт Сенека мяркуе, што гэта звязана з тым, што ў 50-х толькі чвэрць беларусаў жылі ў гарадах, а тры чвэрці былі сельскім насельніцтвам, цяпер жа прапорцыі памяняліся месцамі: «Мабыць, яшчэ паўстагоддзя спатрэбіцца, каб звыкнуцца з гэтай думкай і перастаць лічыць палі ці сёлы неяк моцна звязанымі з кожным з нас. Здаецца, я каласы ў полі ўпершыню ўбачыў у мультфільме «Ну, пачакай!», а сельскія хаты — праз акно электрычкі. І ў мяне не ўзнікла вострага жадання пагладзець кіно пра гэта».

Сам Роберт кіно пра гэта не здымае, ды і іншыя рэжысёры — таксама. Калі сёння рэжысёр хоча паказаць у стужцы вёску, ён абавязкова знойдзе нейкі арыгінальны ход, абыграе гэтую тэму так, што ў фільме пра вёску не будзе ніякай вёскі. Ды і нацыянальны кінематограф можа з зусім іншым асацыявацца, кажа Арцём Лобач: «Беларуская нацыя яшчэ на шляху свайго фарміравання, прыгадванне сябе, таму рана весці размову пра нацыянальнае кіно. Ёсць праявы характару беларуса ў творах кінематографа, але цэласнасць характару можна ўбачыць не заўсёды. Таму я лічу, што гучная назва "нацыянальнае кіно" яшчэ на стадыі афамлення, але сэнс паняцця я магу сабраць з сімвалаў кшталту містыкі, мяжы, балота як энергетычнага адчування кансервацыі».

Беларускае кіно хоча паглыбляцца ў нетры. Рэжысёры капаюць глыбока ў гісторыю, шукаюць там тэмы, цікавяцца фальклорам, міфалогіяй, продкамі. «Не трэба баяцца сваіх традыцый і сучасных, і гістарычных. Тэмы могуць быць рознымі, але наша кіно павінна адрозніваць, мне здаецца, героі — тая прызма, якая і дае праламленне на нацыянальныя матывы ў фільме. А калі мы пачынаем хлусіць гледачу, прыпісваць рэчаіснасць беларускіх рэалій, якая не існуе, аўтаматычна губляем яго давер. Дакладнасць сучаснага героя і часу — вось, на мой погляд, незапоўненая ніша ў нацыянальным кіно. Але хочацца верыць, што гэта ненадоўга», — адзначае Нэла Васілеўская.

Сучаснасць уплывае на маладога рэжысёра яшчэ мацней — бачым гэта па стужках Роберта Сенекі, Мітрыя Сямёнава-Алейнікава, Мікіты Лаўрэцкага, Аляксея Свірскага. Роздумы пра гісторыю перамяжоўваюцца са смелымі, вострымі фільмамі пра тое, што зараз адбываецца з намі.

Менавіта такія фільмы і перамагаюць на фестывалях так званага «кіно на заўтра»: «А што такое моцны беларускі фільм? За 5 гадоў, калі я гляджу практычна ўсё, што выходзіць у айчынным кіно, бачу пазітыўную тэндэнцыю: з'явіліся новыя аўтары са сваімі спрэчнымі меркаваннямі, — кажа кінакрытык Максім Жбанкоў, — адчуваецца, што з'яўляюцца новыя інтанацыі, пасылы, погляды. Мне падаецца, што надыходзіць новая стадыя, новы беларускі стыль — і мы толькі ідзём на ўзлёт. "Кіно на заўтра" — значыць, што на сёння яно не бездакорнае. Мы ўзнагароджваем не ідэальнае кіно, не ўзорнае кіно, не каліграфію, не бюджэт, а аўтарскую энергію. Асабісты драйв, памножаны на рэальны боль чалавека».

Экран як люстэрка мы выкарыстоўваем і каб убачыць сябе з іншага боку, і каб пазнаёміцца з тымі, з кім побач жывём, і каб зразумець сваю прыроду. Канечне ж, беларускаму гледачу наша кіно цікавае, мяркуе Роберт Сенека: «Не ўзгадаю, каб хтосьці тут абмяркоўваў аўстралійскае кіно толькі таму, што яно знята ў Аўстраліі. А беларускае кіно не толькі абмяркоўваюць, але лічаць важным пагладзець. Кожны культурны чалавек павінен асабіста сходзіць, убачыць, мабыць, расчаравацца».

Слова «нацыянальнае» стала да такой ступені звыклым, што сэнс яго згубіўся. За нацыянальнае мы сёння можам прыняць абсалютна ўсё, што ствараецца ў краіне. Арцём Лобач лічыць, што «нацыянальны кінематограф патрэбен тым, хто імкнецца маніпуляваць. Самасвядомасць абуджаецца, але большасць хочуць быць тымі, кім кіруюць. Таму мы хочам сябе адчуць нацыяй, хочам убачыць гэта на экране, як у люстэрку, каб адчуць моц цэласнасці. Але я на свае фільмы не хачу вешаць гэты здалёк сімпатычны, такі модны сёння, ярлык».

### ЗА ГАРЫЗОНТАМ

Маладыя рэжысёры кажуць, што і ім самім, і іх калегам трэба набрацца цярпення і ўменняў. А калі выбіраеш тэму для фільма, то не трэба цурацца рэальных людзей і надзённых праблем, упэўнена Нэла Васілеўская: «Многія пра гэта забываюць, пачынаючы здымаць "пад галівуд", перакладаючы на беларускіх герояў замежную псіхалогію, якую яны падгледзелі. Рэжысёру трэба ісці ў народ, шукаць сваіх герояў сярод сяброў, на вуліцах, у цягніках — паўсюль. Побач ёсць цудоўныя персанажы, якія так і просяцца на экран — нашы, жывыя, нацыянальныя, калі хочаце, а не бездапаможная калька "заходніх супергерояў"».

Наогул пра тое, што зараз адбываецца ў айчынным кінематографе, па галівудскіх, берлінскіх ці канскіх мерках меркаваць нельга. Важнае значэнне маюць і культурная сітуацыя, і кантэкст. Падтрымліваць кіно, якое падабаецца сваёй узорнасцю, — наўрад ці добрае рашэнне, бо кожная стужка ў нейкім сэнсе — гэта бачанне гарызонту.

Маладыя гэты гарызонт бачаць — іх кіно здзіўляе. Кіно, якому, бывае, далёка да дасканаласці тэхнічнай, распавядае пра нас надзвычай шчыра і цёпла, паказвае менавіта той бок гісторыі, культуры, жыцця, якія так хацелася ўбачыць, але не было магчымасці. Маладое кіно Беларусі сёння — гэта не проста абяцанне на будучыню, а хутчэй за ўсё абяцанне, якое будзе выканана. У рэшце рэшт такім аптымістычным яно выглядае на сёння.

**Маргарыта ДЗЯХЦЯР**

---

**Антаніна Карпілава, загадчык аддзела экранных мастацтваў Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі:**

— Дэфініцыя «нацыянальнае кіно», як і «нацыянальнае мастацтва», патрабуе пастаяннага ўдакладнення, карэкцыроўкі, бо эвалюцыянуе і развіваецца. Калі звярнуцца да заканадаўства, то нацыянальны — фільм, які фінансуецца дзяржавай, калі амаль уся здымачная група — беларусы. Зразумела, што гэта толькі павярхоўны знешні фактар, але насамрэч у першую чаргу маецца на ўвазе культурныя і маральна-этычныя каштоўнасці этнасу, дакладней — нацыі. У кінематографе важная нематэрыяльная культура, дух нацыі, народа. Як ён перадаецца? Якраз гэтымі духоўнымі каштоўнасцямі. Гэта культурныя архетыпы, міфалагемы, устойлівыя маральна-этычныя ідэалы. Працавітасць, пастаянства, адказнасць — вядомыя прыкметы беларускага этнасу. Калі мы будзем разумець нацыянальны кінематограф як адлюстраванне духу нацыі, то ён павінен базіравацца на гэтых нацыянальных архетыпах і культурных каштоўнасцях. Для мяне ўзор нацыянальнага — не толькі стужкі этнічных беларусаў кшталту Віктара Турава, але і работы Валерыя Рубінчыка, які паказаў не толькі беларускую гісторыю, але і сучаснасць. Вельмі пазітыўная з'ява для мяне — кінематограф Андрэя Кудзіненкі, які трапіў у балявую кропку светаадчування беларуса ў сваёй стужцы «Масакра»: не меладраматычнае, а містычнае адчуванне таямніцы, якой жыццё ахутана з дзяцінства. Сяргей Сільянаў, калі яго пыталіся, што такое нацыянальны фільм, адказваў, што «любы таленавіты фільм з'яўляецца нацыянальным здабыткам, а любы бяздарны — нацыянальнай ганьбай». Лепш і не скажаш. Стужка можа быць і не вельмі ўмелая па некаторых кампанентах, але, калі яна нясе важныя рэчы для разумення нашага свету, гэта каштоўна.

Традыцыі

# ДЗВЕРЫ Ў МІНУЛАЕ І БУДУЧЫНЮ

Не так даўно ў Мінску прэзентавалі новую кнігу «Беларускія народныя музычныя інструменты», што пабачыла свет у выдавецтве «Беларуская Энцыклапедыя імя П. Броўкі» пры падтрымцы Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь. Гэтае выданне — нібыта брама ў вялікі свет беларускіх музычных інструментаў. Яно распавядае пра адметнасці гучання, канструкцыю і прыёмы ігры на дудзе, гармоніку, цымбалах, ліры і многіх іншых інструментах. А гукавы дадатак на кампакт-дыску дае магчымасць пачуць іх непаўторны каларыт.

Так, для шырокага кола чытачоў гэтая кніга стане карысным даведнікам, магчыма, натхніць на навучанне ігры ці нават выраб інструмента. Але ці зацікавіць выданне саміх практыкаў — майстроў, якія шмат гадоў аддалі справе аднаўлення і папулярызацыі нашай этнічнай музычнай культуры? Пра гэта — гутарка з майстром і музыкам Алесем Ласём.

**— Спадар Алесь, вы былі ў нашай краіне адным з першых, хто распачаў працу па аднаўленні дударскай традыцыі. З чаго ўсё пачыналася?**

— Шлях быў няпросты. Бо на той час не было інфармацыі і майстроў, якія маглі б паказаць, як рабілася дуда, як свідраваліся адтуліны і шыўся мех. Я паступова збіраў матэрыялы і з літаратуры, запытваўся ў людзей, якія бачылі дуду і чулі яе. Мне хацелася зрабіць дуду, максімальна набліжаную да нашай тыповай ліцвінскай, беларускай. Тры гады працаваў толькі над матэрыяламі, эксперыментамі, як рабіць пішчыкі, рагаўні, свідраваць трубкі. Паралельна са мной дудамі займаліся таксама адмысловы майстар Уладзімір Пузыня, ужо нябожчык. Эксперыментавалі Уладзімір Гром разам з Алесем Жукоўскім. Быў такі зачын, вялікая цікавасць да гуку таго інструмента, крыху забытага. Хаця па вёсках на Полаччыне на той час — пачатак 1980-х — дудароў сустрэць яшчэ можна было.

**— Але ўсё ж атрымалася!**

— Я зрабіў дуду, і для мяне гэта было вялікае шчасце, адкрыццё новай культурнай эпохі. Дуда — дзверы ў мінулае і будучыню, інструмент, што дае магчымасць спазнаваць самога сябе не толькі праз гук. Гэта яшчэ і тып інструмента, вядомы ва ўсёй Еўропе. Ды і ў Беларусі ён не з'явіўся проста так, гэта ўвасабленне вельмі цікавай дарогі, звязанай са светам элінскім, кельцкім, шатландскім. Культурныя сувязі шырока «чапляюць» гэтыя музычныя арганалагічныя рэчы, навуковыя.

**— Колькі дуд вы зрабілі за гэтыя гады? Хто на іх грае сёння?**

— Зрабіў вельмі многа. Не лічу. Думаю, дзясяткі, можа, і за сотню ўжо. Мае дуды граюць у Польшчы, Літве, Германіі, Бельгіі, натуральна, у Беларусі. Вельмі прыемна, калі часам сустракаю дудара, якому рабіў інструмент мо ў пачатку 1990-х, а ён кажа, што дуда дагэтуль грае і нават ні разу не рамантавалася! Выдатна, што сёння шмат моладзі вучыцца граць на дудах, інструмент гучыць у музыцы розных жанраў. Гэта і панк-рок, і фолкмадэрн — меса для дуды знаходзіцца і ў сённяшнім дні. Але найбагацейшы пласт дударскай культуры дагэтуль не адкрыты і чакае сваіх навукоўцаў.



Фота Яўгена Пясецкага.

Алесь Лось.

**— Якія яшчэ інструменты робіце?**

— Мне падабаецца рабіць ліры, флейты, жалейкі. Таксама майструю барабаны, бубны. Мару, што праз некалькі гадоў «даспею», каб зрабіць скрыпку. Ужо ўсё гатова: і матэрыялы, і формы — але пакуль стрымлівае пэўная ўнутраная забарона.

**— Кніга «Беларускія народныя музычныя інструменты», якую сёння прэзентавалі, мае пэўны практычны аспект. Ці можа дапамагчы майстру ў працы?**

— Думаю, мэта выдання крыху іншая — назваць, якасна паказаць інструменты, «пусціць» тэму ў публіку, грамадства. Хацелася б, каб кніга трапіла не толькі ў бібліятэкі, але і ў продаж. Гэта вельмі добры сувенір, такое выданне не сорамна падарыць замежнаму госцю. Выдатна, што праект удалося рэалізаваць. Я магу прывесці шмат прыкладаў вельмі цікавых ініцыятыў, якія проста зніклі і не знайшлі ўвасаблення. Хацелася б, каб кніга «Беларускія народныя музычныя інструменты» паказала, што мы маем надзвычай багаты матэрыял, каб гэтае выданне не стала кропкай у справе, а паказала, што ёсць людзі, якія працуюць у кірунку захавання нашай спадчыны, ёсць дзеці, якія хочуць вучыцца граць на народных інструментах. Час зразумець, што наша этнакультура — частка культуры нацыянальнай, нават нацыянальнай палітыкі. Як зразумелі раней палякі, літоўцы, фіны, венгры. Гэта частка стылю дзяржаўнага мыслення і нацыянальнага гонару.

Марына ВЕСЯЛУХА

# Беларуская прэм'ера і госці з Італіі

## Чым здзіўляе фестываль Башмета?

Традыцыйны, ужо адзінаццаты, Міжнародны музычны фестываль Юрыя Башмета распачаў шэсце ў Мінску — з па-італьянску імклівымі напевамі скрыпак, лірычнымі акордамі фартэпіяна, выбухамі мелодый сімфанічных аркестраў і нават джазавымі эклектычнымі кампазіцыямі. Нас чакаюць восем насычаных музычных сюрпрызаў дзён у прамежку з 30 верасня па 11 кастрычніка. Што прадстаўляе сабой праграма?

Адкрываецца фестываль ужо сёння. Вечарам у Вялікай канцэртнай зале Беларускай дзяржаўнай філармоніі ўвагай залы будуць кіраваць знакамітасці: скрыпач Сяргей Крылоў і піяніст Расціслаў Крымер. Дуэт сыграны, сваю праграму «Масква — Вена» яны выконвалі ў розных краінах, нават у найстарэйшым тэатры Фларэнцыі пад назвай «Пергола». Праграма стыльная і лаканічная: саната Дзмітрыя Шастаковіча і п'есы Фрыца Крэйслера. Калі Крэйслер крыху меланхалічны, вытанчаны, задуменны, экстравагантны і абаяльны, нібы фільмы з Марлен Дзітрых або Кларкам Гейблам, то Шастаковіч больш маштабны, пафіласофску глыбокі, імклівы і драматычны, як творы Льва Талстога.

Расціслава Крымера, беларускага піяніста, прадстаўляць не трэба, бо менавіта ён з'яўляецца мастацкім кіраўніком і заснавальнікам фестывалю, прысвечанага Башмету. Як і многія таленавітыя дзеці, з пяці гадоў — ужо ў музыцы. Спачатку Дзяржаўны каледж пры Мінскай кансерваторыі, потым — Вышэйшая школа музыкі ў Кёльне і Каралеўская акадэмія музыкі ў Лондане. Толькі дэбютаваўшы, ужо заваяваў публіку Лондана. Яго калегу Сяргея Крылова ў праграме чамусьці называюць італьянскім майстрам, хоць і нарадзіўся ён у Маскве. Справа ў тым, што жыве ён у італьянскім мястэчку Крэмона ўжо 27 гадоў. Так, менавіта ў гэтым месцы натхненне наведвала вялікага Антонія Страдзівары. Конкурс яго імя і выйграў зусім яшчэ юны Сяргей. Пасля музычнай школы пры Маскоўскай кансерваторыі ён правучыўся ў аднаго з самых вядомых італьянскіх скрыпачоў Сальвадора Акарда. А можа, ён наогул грамадзянін свету? Выступае і ў Мюнхене з Венай, і ў Парыжы з Бруселем, у Токіа, Венецыі, Пецярбургу... Нязменна, наперакор модзе, аддае перавагу скрыпцы, якую зрабіў яму бацька, таксама музыкант, Аляксандр Крылоў, што таксама вучыўся ў італьянскіх майстроў. Нездарма Растраповіч называў Крылова адным з лепшых скрыпачоў XX стагоддзя. Сяргей ужо выступаў некалькі гадоў таму з Літоўскім камерным аркестрам, які ён узначальвае як дырыжор.



Юрый Башмет.

На другі дзень башметаўскага фестывалю слухачоў сустрэне народны артыст Расіі Мікалай Луганскі разам з Дзяржаўным акадэмічным сімфанічным аркестрам Рэспублікі Беларусь, выканаўшы адразу два канцэрты пад назвай «Легенды фартэпіяна». Прагучыць руская класіка — Сяргей Пракоф'еў (віртуозны, «крыштальны», як вясновае паветра, поўны ўздыму, надзеі і рамантыкі Канцэрт для фартэпіяна з аркестрам До мажор № 3) і Сяргей Рахманінаў (пачуццёвая, што кружыць галаву, Рапсодыя на тэму Паганіні ля мінор і іншыя творы).

Маладога беларускага кампазітара Сяргея Бадалава (яму толькі споўнілася 25 гадоў!) таксама можна будзе пачуць на фестывалі — у сераду, 5 кастрычніка, на адкрыцці вечара прэм'ер пад лозунгам «Сучасная класіка». Упершыню ганаровым госцем выступіць аўтар музыкі Валянцін Сільвестраў з Украіны. Яго творы выканае піяніст Аляксей Любімаў, народны артыст Расіі, і Дзяржаўны акадэмічны сімфанічны аркестр Беларусі. Дырыжор — Віктар Пласкіна.

Твор *Sleepwalker* («Хто ідзе скрозь сон») Сяргея Бадалава быў адмыслова напісаны да фестывалю, праўда, прымеркаваны яшчэ і да 125-годдзя з дня нараджэння Сяргея Пракоф'ева, выкананне пазначана як сусветная прэм'ера. З самога Пракоф'ева прагучыць яго паюнацку дзёрзкая, у добрым сэнсе пампезная «Скіфская сюіта». Валянцін Сільвестраў жа — адзін з тых жывых класікаў, якія мінскаму гледачу былі раней невядомы (арганізатары фестывалю Башмета якраз пазіцыяніруюць сябе адкрывальнікамі новых для беларусаў зорак). Не абыдзецца на фестывалі і без долі поп-музыкі ў рэтра-атмасферы. У чацвер у Вялікай зале Палаца Рэспублікі прагучаць песні савецкага тэнара Валерыя Абадзінскага ў выкананні зорак беларускай эстрады і Прэзідэнцкага аркестра нашай краіны пад назвай «Гэтыя вочы насупраць».

У праграме «Легенды на скрыпцы Страдзівары» ў пятніцу вечарам — нямецкая скрыпачка Вівіян Хагнер і Міжнародны камерны аркестр «*East-west chamber orchestra*» пад кіраўніцтвам, зноў жа, Расціслава Крымера. Аркестр, дарэчы, уяўляе сабой цэлае сукведце музыкаў з самых розных краін — Расіі, Беларусі, Балтыі, Усходняй і Заходняй Еўропы... Парадуюць выкананнем музыкі Моцарта, сваё адчуванне якой прадставіць зорка мастацкай гімнастыкі Меліціна Станюта.

Модны ў апошні час джаз таксама стаў часткай фестывальнага марафону, у прыватнасці, джазавыя апрацоўкі класічных твораў. Яшчэ адзін вядомы скрыпач, на гэты раз з Эстоніі — Андрэс Мустонен. Выступіць разам з вядомымі эстонскімі джазавымі музыкамі Ясакам Сааяярам (электрычная гітара), Таава Рэмелем (кантрабас) і Танелем Рубенам (ударныя). Неверагодна харызматычная творчая асоба скрыпача: ён часта змешвае ў сваіх выступах адгалоскі розных культур і традыцый: ад барока, усходніх экзатычных тэм да року і сярэднявечных мелодый. Атрымліваецца гарманічна. Адзін з самых свабодных (у творчым дыяпазоне) дзён праграмы прагучыць у канцэртнай зале «Верхні горад».

Гала-канцэрт камернай музыкі пяройме эстафету на наступны дзень. У ліку салістаў — лаўрэаты прэстыжных міжнародных конкурсаў скрыпачы Ніклас Ліепа і Аліса Маргуліс, віяланчэліст Аляксандр Бузлоў і іншыя. Поўную праграму пакуль асабліва не раскрываюць, але дакладна вядома, што будзе выконвацца музыка Шуберта і Бетховена.

Сам Юрый Башмет як галоўны дырыжор і саліст прыедзе толькі на ўрачыстае закрыццё фестывалю, разам з Камерным ансамблем «Салісты Масквы», уладальнікамі прэстыжнай прэміі Амерыканскай акадэміі гуказапісу «Грэмі». Ансамбль пабываў больш чым у 50 краінах свету.

Міжнародны музычны фестываль Юрыя Башмета — сведчанне таго, што наша краіна знаходзіцца на скрыжаванні шляхоў музыкантаў, у еўрапейскім музычным трэндзе, адпаведна, у віры актуальных тэндэнцый. Вось каб яшчэ нашыя музыкі і кампазітары больш уключаліся ў праграму падобных прэстыжных музычных форумаў...

Марыя ВОЙЦІК

# Па слядах гісторыі

## Партрэт Міхала Казіміра Агінскага прэзентавалі ў мастацкім музеі

**У Нацыянальным мастацкім музеі Беларусі прэзентаваны цыкл культурных адкрыццяў і сенсацый, які распачала праграма «Гетман-кларнет» — парадны партрэт Міхала Казіміра Агінскага. Аўтарства твора, мяркуецца, належыць дрэздэнскай мастачцы Ганне Разіне Лішэўскай.**

Асоба Міхала Казіміра Агінскага, прадстаўніка старажытнага магнацкага роду, мецэната, гетмана Вялікага Княства Літоўскага, да сённяшніх дзён застаецца цікавай і загадкавай для гісторыкаў. Міхал Казімір Агінскі быў адзіны ва Усходняй Еўропе, а магчыма, і ў свеце, генерал-кампазітар, які камандаваў не проста ваеннымі аркестрамі, а сапраўднымі вайсковымі аб'яднаннямі і быў абсалютна творчым чалавекам, які мастацтва, культуру папулярызаваў усюды, дзе б ні знаходзіўся.



Гетман-кларнет — так жартаўліва празвалі Міхала Казіміра Агінскага за любоў да мастацтва. Дарэчы, да сённяшняга дня шматлікія даследчыкі сцвярджаюць, што менавіта ён вынайшаў падножку для арфы. Партрэт знакамітага дзяржаўнага дзеяча Рэчы Паспалітай, паэта, кампазітара ўваходзіць у спіс пяцідзесяці шэдэўраў Нацыянальнага мастацкага музея Беларусі. Хоць і няма дасканалых звестак пра тое, дзе і калі быў створаны партрэт, ёсць меркаванне, што Ганна Разіна Лішэўская напісала яго ў 1754 годзе, калі Агінскі прыехаў у Германію для атрымання вышэйшай узнагароды Рэчы Паспалітай — ордэна Белага арла.

Нельга не ўзгадаць, што з імем Міхала Казіміра Агінскага звязваюць росквіт культурнага жыцця слонімскай зямлі ў другой палове XVIII стагоддзя. Менавіта ён пабудаваў вялікі палац, у архітэктурны ансамбль якога ўвайшлі каля ста дваццаці пакояў, самы багаты з якіх — «Зала багінь» — выкананы ў вытанчаным стылі ракако. Але ж галоўнай каштоўнасцю для Агінскага быў прыдворны тэатр, на сцэне якога выступалі знакамітыя італьянскія, польскія оперныя і драматычныя акцёры, прыгонны балет, хор. З-за неабмежаваных магчымасцей мецэната сцэна тэатра была сканструявана па апошнім слове тэхнікі, і тут былі рэалізаваныя самыя складаныя тэатральныя пастаноўкі.

З першага погляду ўражвае маштабнасць яго партрэта. Кампазітар і мецэнат, стваральнік опернага тэатра і капэлы ў Слоніме, першы будаўнік Агінскага канала, чалавек, імя якога непарыўна звязана з культурай Беларусі, Міхал Казімір Агінскі прадстаўлены на двухметровым партрэце ў якасці палкаводца, грацыёзным і ўпэўненым. Ён адлюстраваны ў поўны рост, яго ярка-чырвоны кафтан, шпага і ордэн Белага арла — толькі невялікія складнікі партрэта, абыграўшы якія аўтар дэманструе ваенную годнасць, доблесць героя. А дэкаратыўнасць і нават тэатральнасць партрэта ствараюць неабходныя для гледача ўмовы мастацкага ўспрымання твора.

— Практычна паўтары сотні гадоў парадны партрэт захоўваўся ў рэзідэнцыі Агінскага ў Слоніме, — расказала вядучы навуковы супрацоўнік Нацыянальнага мастацкага музея Беларусі Надзея Усава. — У 1941 годзе, калі фашысты прыйшлі на Беларусь, партрэт Міхала Казіміра Агінскага быў вывезены ў Германію. Пасля нейкім дзіўным чынам у адваротным парадку твор з Дрэздэна быў прывезены ў Слонім, затым у Мінск, а пасля зноў вярнуўся ў Германію. У выніку знойдзены быў выпадкова савецкімі войскамі ў Кенігсбергу, і, як вядома сёння, гэта адзін з нешматлікіх партрэтных шэдэўраў, які ўсё ж такі вярнуўся на Беларусь пасля вайны.

Прэзентацыя параднага партрэта Міхала Казіміра Агінскага адбывалася пад музыку яго траюраднага пляменніка — Міхала Клеафаса Агінскага — знакамітага аўтара паланэзаў у выкананні духавога аркестра «*Capella Academia*». Калісьці пляменнік даваў шыкоўныя канцэрты ў палацы ўплывовага родзіча. Але справа нават не ў гэтым: прыгожая мелодыя напоўніла гармонію, падкрэсліла ўрачыстасць моманту раскрыцця, успаміну гісторыі. Музычны кіраўнік праекта, фагатыст і дырыжор Аляксей Фралоў, на прэзентацыі партрэта адзначыў, што «Гетман-кларнет» — пачатак вялікага музычна-мастацкага праекта, падчас якога будуць прэзентаваны і іншыя шэдэўры Нацыянальнага мастацкага музея.

**Вікторыя АСКЕРА**

## Культурны ракурс




**У 2000 годзе ў Капылі адкрылі помнік вядомаму беларускаму пісьменніку, публіцысту і грамадскаму дзеячу Цішку Гартнаму (Змітру Жылуновічу). Размясцілі помнік каля будынка раённага краязнаўчага музея. І невыпадкова. Менавіта тут у канцы XIX — пачатку XX стагоддзя знаходзілася гарбарная майстэрня, дзе працаваў знакаміты зямляк.**

**Літаратурную дзейнасць пачаў у 1908 годзе ў «Нашай ніве». Творы Ц. Гартнага публікаваліся ў альманаху «Маладая Беларусь», настольных календарах, асобныя вершы і нарысы — у газетах «Звезда» і «Правда», ранні допісы — у капыльскіх рукапісных выданнях. Пасля Кастрычніцкай рэвалюцыі паэт стаў сакратаром Беларускага нацыянальнага камісарыята пры Наркамаце РСФСР. Некаторы час рэдагаваў «Дзянніцу» — першую савецкую газету на беларускай мове. Быў рэдактарам газеты «Савецкая Беларусь», часопіса «Полымя», узначальваў Дзяржаўнае выдавецтва БССР і Цэнтральны архіў БССР, працаваў намеснікам Наркама асветы БССР, у Інстытуце гісторыі АН БССР, загадваў выдавецтвам АН БССР.**

**Яго імем названа адна з вуліц у Капылі, а на доме, дзе нарадзіўся, устаноўлена мемарыяльная дошка.**

**Таццяна НЯДЗЕЛКА**

*Каб узяць удзел у конкурсе, дасылайце свае фотаздымкі на электронны адрас* **lim_new@mail.ru** *з пазнакай* **«Культурны ракурс»** *— лепшыя будуць апублікаваныя на старонках газеты!*

*Галоўныя ўмовы творчага спаборніцтва: цікава і арыгінальна сфатаграфаваць помнік гісторыі і культуры Беларусі (магчыма, на тэрыторыі іншай краіны) ці сфатаграфавацца каля яго. Прымаюцца і работы, зробленыя ў жанры сэлфі.*

*Рэдакцыя чакае не толькі ўдалага фота, але і лаканічнага, пераканаўчага тлумачэння, чаму менавіта гэты помнік падаецца вам самым значным. А таксама канкрэтных звестак пра аўтара здымка (імя, прозвішча, месца працы альбо вучобы, кантактныя дадзеныя). Аўтар можа даслаць некалькі фота. Пры адборы работ будуць улічвацца не толькі мастацкія якасці здымка, але і яго канцэпцыя, пераканаўчасць тэксту-тлумачэння.*

*Чакаем вашых фота на працягу ўсяго 2016 года і разлічваем на нязменную цікавасць да беларускай культуры!*


Выходзіць з 1932 года
У 1982 годзе газета ўзнагароджана ордэнам Дружбы народаў

Заснавальнікі:
Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь,
грамадскае аб'яднанне «Саюз пісьменнікаў Беларусі»,
рэдакцыйна-выдавецкая ўстанова «Выдавецкі дом "Звязда"»

Галоўны рэдактар
Ларыса Іванаўна ЦІМОШЫК





Адрас рэдакцыі:
Юрыдычны адрас:
220013, Мінск,
вул. Б. Хмяльніцкага, 10-а
E-mail: info@zvyazda.minsk.by

Адрас для карэспандэнцыі:
220013, Мінск, пр. Незалежнасці, 77
E-mail: lim_new@mail.ru
Адрас у інтэрнэце: www.main.lim.by

Тэлефоны:
галоўны рэдактар — 292-20-51
намеснік галоўнага рэдактара — 292-43-03
адказны сакратар — 292-20-51
аддзел крытыкі і бібліяграфіі — 292-56-53
аддзел прозы і паэзіі — 292-56-53
аддзел мастацтва — 292-20-51
аддзел «Кніжны свет» — 292-56-53
бухгалтэрыя — 287-18-14
Тэл./факс — 292-20-51



Выходзіць раз на тыдзень па пятніцах.

Падпісныя індэксы:
63856 — індывідуальны;
63815 — індывідуальны льготны для настаўнікаў;
638562 — ведамасны;
63880 — ведамасны льготны.

Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі сродку масавай інфармацыі № 7 ад 10.12.2012, выдадзенае Міністэрствам інфармацыі Рэспублікі Беларусь.

Выдавец:
Рэдакцыйна-выдавецкая ўстанова «Выдавецкі дом "Звязда"».
Дырэктар — галоўны рэдактар
Аляксандр Мікалаевіч КАРЛЮКЕВІЧ

Тэхнічны рэдактар, камп'ютарная вёрстка:
А. В. Бізункова

Камп'ютарны набор:
Д. А. Чарняўская

Стыльрэдактар:
Н. А. Святлова

Нумар падпісаны ў друк
29.09.2016 у 11.00

Ум. друк. арк. 3,72

Наклад — 1646.

Друкарня Рэспубліканскага ўнітарнага прадпрыемства
«Выдавецтва «Беларускі Дом друку»
ЛП № 02330/106 ад 30.04.2004
г. Мінск, пр. Незалежнасці, 79.
Індэкс 220013

Заказ — 3375

Д 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12




ISSN 0024-4686